25 лістапада 2016 | № 45 (510)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Жывая традыцыя
Да 110-годдзя «Нашай Нівы» Стар. 22











# Рэферэндум–1996 Дваццацігоддзе перавароту

## Ці магчыма хаця б для гісторыі зноў разглядзець справу пра імпічмент Лукашэнку?



Сяргей ПУЛЬША

Згадаем падзеі 1996 года з суддзёй Канстытуцыйнага суда, доктарам юрыдычных навук, прафесарам Міхаілам Пастуховым

### Галоўнае — ідэя

Думка пра пашырэнне сваіх паўнамоцтваў у Лукашэнкі аформілася летам 1996 года. Спачатку ён паспрабаваў прапіснуць такое рашэнне праз парламент. У Вярхоўны Савет–13 на той час уваходзілі 196 чалавек, і ў асноўным гэта былі тры фракцыі: прыхільнікі Лукашэнкі, камуністы і аграрыі. Дэмакраты складалі там меншасць.

Гэта давала Лукашэнку спадзеў, што яго прапанова па пашырэнні паўнамоцтваў атрымае падтрымку. Але высветлілася, што ВС–13 не жадае задавальняць амбіцыі кіраўніка дзяржавы. Сабатавалі ініцыятыву Лукашэнкі нават камуністы Калякіна і аграрыі Шарэцкага.

Таму напачатку верасня Лукашэнка вырашыў правесці рэферэндум. ВС–13 прыняў гэтую прапанову. Пытанне плебісцыту было разгледжана на адкрыцці сесіі парламента, і дэпутаты прызначылі рэферэндум. З аднаой акалічнасцю. Лукашэнка прапанаваў правесці рэферэндум 7 лістапада. Аднак гэтая дата не падыходзіла па тэрмінах падрыхтоўкі галасавання. Таму плебісцыт перанеслі на 24 лістапада.

### Рэферэндум як рэкамендацыя

Шэраг дэпутатаў, у тым ліку і кіраўніцтва ВС, разумелі, што пад выглядам папраўак у Канстытуцыю прымаецца фактычна новы Асноўны закон, і прыняцце такой Канстытуцыі азначае ўсталяванне адзінаасобнай улады. Да таго ж, ужо той праект прадугледжваў двухпалатны парламент: было відавочна, што не ўсе дэпутаты з 196 абраных туды патрапяць. Спікер ВС Сямён Шарэцкі звярнуўся ў Канстытуцыйны суд з пытаннем пра магчымасць правядзення такога рэферэндуму ўвогуле.

4 лістапада адбылося пасяджэнне КС, дзе разглядалася пытанне пра адпаведнасць прызначэння рэферэндуму Асноўнаму закону. На той час у КС не было адзінства, там ужо з'явілася фракцыя пад кіраўніцтвам Рыгора Васілевіча. Да яго далучыліся Рыма Філіпчык, Ксенія Кенік і Валянціна Падгруша.

Суд вагаўся. Найперш, выклікала пытанне, да якой ступені «папраўкі» ў Асноўны закон ёсць папраўкамі, а не новай Канстытуцыяй? Амаль усім юрыстам было зразумела, што гэта фактычна новы дакумент. Але знайшлася толькі большасць, каб прыняць рашэнне, што ў тым выглядзе, у якім папраўкі ўнесеныя, яны не могуць выносіцца на галасаванне. І з-за гэтага плебісцыт можа мець толькі рэкамендацыйнае значэнне.

«Судовая апазіцыя» на чале з Васілевічам напісала «асаблівае меркаванне»: маўляў, пастанова парламента пра прызначэнне рэферэндуму — гэта не нарматыўны акт, і не падлягае разгляду ў КС.




### Захоп улады. Пачатак

Тым не менш, рашэнне пра рэкамендацыйны характар рэферэндуму было прынятае. Суддзі КС, у тым ліку і я, вырашылі, што можна расслабіцца. Тым больш, што старшыня ЦВК Віктар Ганчар ужо рабіў бюлетэні для галасавання з надрукаванай на іх вытрымкай з рашэння КС, якая тлумачыла рэкамендацыйны характар плебісцыту.

Пасля гэтага рашэння Лукашэнка выдаў два ўказы. Першы — ад 5 лістапада №455 — «у мэтах забеспячэння канстытуцыйнага права грамадзян на ўдзел у рэферэндуме» прызнаваў неадпаведным Канстытуцыі і заканадаўству рашэнне Канстытуцыйнага суда і загадваў органам улады не выконваць судовы вердыкт. Гэта ўнікальны выпадак у сусветнай гісторыі, і менавіта яго ўжо можна на прававым узроўні расцэньваць як захоп улады. Рашэнне КС мае вышэйшую юрыдычную моц — пасля Канстытуцыі. Лукашэнка ж «адмяніў» яго простым падзаконным актам.

> **Пад выглядам папраўак прымаўся новы Асноўны закон**

У другім указе — ад 7 лістапада — Лукашэнка вызначыў «рэалізацыю права грамадзян на ўдзел у рэферэндуме». У ім кіраўнік дзяржавы «дапоўніў» Канстытуцыю палажэннямі пра тое, як грамадзяне галасуюць на рэферэндуме. Напрыклад, калі на ўчастку прыйдуць больш за 50% выбаршчыкаў, то рашэнне рэферэндуму з'яўляецца абавязковым.

Сыходзячы з гэтых дакументаў ужо стала зразумела, што ўлада ў краіне захопліваецца Лукашэнкам.

Працяг на стар. 4 »

# Самыя злосныя парушальнікі рэжыму

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Вязень сумлення Андрэй Бандарэнка, які цяпер у адзіночнай камеры Магілёўскай турмы №4, з болем у сэрцы ўспрыняў інфармацыю пра тое, што Міхаіла Жамчужнага паставілі на прафілактычны ўлік як злоснага парушальніка рэжыму. Фармальнай падставай паслужыла «адзіночнае стаянне» каля медчасткі калоніі.**

Андрэй Бандарэнка піша пра свае спробы абскардзіць рашэнне пра пастаўку на такі ўлік. Першапачаткова ён падаў скаргу па месцы свайго знаходжання — у суд Ленінскага раёна Магілёва. Аднак там адказалі — не па падсуднасці, звяртайцеся ў суд па месцы накладання спагнання (папраўчая калонія №19 Шклова). Бандарэнка звярнуўся са скаргай у суд Шклоўскага раёна. А там адмовілі, матывуючы тым, што пастаноўка на прафілактычны ўлік як злоснага парушальніка рэжыму — гэта не спагнанне, а стан зняволенага. Атрымліваецца, што наданне гэтага «звання» — таўро на вязні да канца тэрміну. Яго нельга зняць, а ў судзе — абскарджваць.

І яшчэ адна «крыўда». Бандарэнка папрасіў адміністрацыю турмы даць спатканне з бацькам на два месяцы раней: не ў лютым 2017 года, як гэта запланавана, а ў снежні 2016-га, паколькі 31 сакавіка 2017 года праваабаронцу павінны выпусціць з турмы. Але адмовілі. Больш за тое, калі яму паведамілі аб адмове, ён спытаў: «Дык, можа быць, адмовіце і ў дазволеным спатканні?». У гэтым яго пераконваць не сталі. Цяпер ён задумаўся, што можа стаць падставай для новага спагнання. Адна з яго здагадак — «не ўтрымліваў у чысціні жылое памяшканне». А калі пылу не знойдуць, то, на яго думку, могуць выявіць і часцінкі радыяцыі.

З досведу «бывалых», самы цяжкі перыяд у зняволенні — апошнія месяцы. У сувязі з гэтым я прашу праз публікацыю ў газеце: «Госпадзе, дапамажы Андрэю Бандарэнку адбыць астатні тэрмін турэмнага зняволення і выйсці на свабоду! Адчапіцеся ад яго, ліхадзеі, не чыніце яму падкопы, бо будзеце пакараныя судом Божым і людскім!»

# Адышоў у вечнасць Анатоль Валахановіч

**Не стала яшчэ аднаго светлага чалавека, архівіста, журналіста, краязнаўцы. Спынілася сэрца Анатоля Іосіфавіча Валахановіча.**

Мы пазнаёміліся ў 1997-м, калі пачалі працаваць над зборнікам «Хто ёсць хто ў Беларусі». З тых часоў я заўсёды рада была яго бачыць: на акцыях, прэзентацыях, канферэнцыях. У яго заўсёды быў добры настрой, знаходзіліся цёплыя словы і шчырае жаданне дапамагчы, чым можа.

Ён стараўся не прапускаць ні адной значнай імпрэзы. Быў ён і ля крыжа Вінцэнта Гадлеўскага ва ўрочышчы Благоўшчына 29 кастрычніка 2016 года. А яшчэ ён шмат пісаў — артыкулаў, кніг, даследаванняў... Друкаваліся яго артыкулы і ў «Новым Часе».



Шчэміць сэрца, цяжка ад таго, што больш не абняць мне вас, Анатоль Іосіфавіч... Не запытацца, як справы, што новага...

Вечная светлая памяць!..

**Аксана Колб**
**і рэдакцыя «Новага Часу»**

**Даведка:**

Анатоль Іосіфавіч Валахановіч нарадзіўся 17 красавіка 1939 года ў Мінску.

Закончыў гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1961). У 1961—2002 гг. настаўнік гісторыі, дырэктар школы, рэдактар у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», загадчык рэдакцыі літаратуры па гісторыі і праве выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР, старшы навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытута дакумэнтазнаўства і архіўнай справы.

Пісаць і друкавацца пачаў яшчэ ў студэнцкія гады. Даследаваў праблемы гісторыі, літаратуры, культуры і краязнаўства Беларусі, распрацоўваў пытанні палітычных рэпрэсій (1920 — пачатку 1950-х гг.), займаўся гісторыяй хрысціянства ў Беларусі.) і інш. Аўтар звыш 400 артыкулаў у энцыклапедычных выданнях, навуковых зборніках, матэрыялах навуковых канферэнцый, часопісах, газетах, кнігах. Пісаў аповесці, апавяданні, эсэ, дакументальныя нарысы, казкі.

# Абылгала — можа патрапіць пад пераслед

Марат ГАРАВЫ

**Не выключаны крымінальны пераслед грамадзянкі Тарасавай, якая ўзвяла паклёп на праваабаронцу Тамару Сяргей.**

Нагадаем, што 6 лістапада 2015 года — у дзень інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі — Тамара Сяргей была затрыманая на чыгуначным вакзале Мінска падчас сустрэчы з актывістамі Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконнасці ў судах і пракуратуры, каб разам паехаць да Палаца незалежнасці, дзе павінна была адбыцца цырымонія інаўгурацыі.

Супрацоўнік Мінскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце, падпалкоўнік Сяргей Гаркавы ў прысутнасці старшага прапаршчыка Сяргея Махнача затрымаў юрыстку па абвінавачванні грамадзянкі Тарасавай у тым, што Тамара Сяргей адкрыта скрала ў гэтай жанчыны 300 долараў ЗША.

Больш за год юрыстка дамагаецца пакарання Сяргея Гаркавага і Сяргея Махнача, а таксама крымінальнага пераследу грамадзянкі Тарасавай, дзеянні якіх Тамара Сяргей лічыць праваканцыйнымі.

Так, у сваёй заяве ў Міністэрства ўнутраных спраў аб узбуджэнні крымінальнай справы супраць грамадзянкі Тарасавай праваабаронца падкрэсліла, што на яе быў узведзены паклёп у здзяйсненні асабліва цяжкага злачынства, за якое артыкулам 206 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь прадугледжана пакаранне да 13 гадоў зняволення.

Згодна пастанове Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкаму, зацверджанай начальнікам міліцыі грамадскай бяспекі, палкоўнікам міліцыі Іванам Кубраковым, грамадзянка Тарасава пасля таго, як дала тлумачэнні, была адпушчаная з міліцэйскага пастарунку і, «згодна даведцы адрасна-даведачнага бюро, у Рэспубліцы Беларусь не значыцца». З гэтых абставінаў Тамары Сяргей было адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць грамадзянкі Тарасавай.

У сваёй скарзе на імя пракурора сталіцы юрыстка ўзгадала, што яе затрымалі, абшукалі і агледзелі рэчы па заяве нявызначанай асобы. «Усё гэта сведчыць пра парушэнні заканадаўства Беларусі. І за гэтыя дзеянні супрацоўнікі міліцыі і грамадзянка Тарасава павінны несці адказнасць. Таму што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе кожнаму грамадзяніну недатыкальнасць асобы», — падкрэсліла Тамара Сяргей.

У адказ на яе скаргу пракуратура горада Мінска адмяніла пастанову Галоўнага ўпраўлення ўнутраных справаў Мінгарвыканкама «з-за непаўнаты праведзенай праверкі і неабходнасці даследавання доказаў».

# Іван Барбашынскі: Я не чакаў справядлівага прысуду

Зінаіда ЦІМОШАК

**Іван Барбашынскі спакойна ўспрыняў вырак суда, паколькі не чакаў справядлівага прысуду і не верыць у справядлівасць нашай судовай сістэмы.**

«Я не вінаваты, я не прычыніў міліцыянтам аніякіх фізічных пашкоджанняў. Гэта яны напалі на нас з братам і пабілі нас», — заявіў падсудны раніцай 21 лістапада падчас свайго «апошняга слова».

Гэтыя дні зала судовых пасяджэнняў была перапоўненая: больш за 30 чалавек прыйшлі падтрымаць Івана падчас вынясення прысуду. 22 лістапада яго асудзілі да 2-х гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову — так званая «хатняя хімія».

Маці, Галіна Шаравар, некаторы час не магла гаварыць, а толькі гучна плакала, абхапіўшы шыю сына пасля вызвалення. Нявеста Івана Вераніка, маці, родныя і сябры літаральна паланілі Івана на некалькі хвілін.

Пасля вынясення прысуду і Іван, і яго маці дзякавалі неабыякавым людзям, журналістам, якія не пакінулі сям'ю Барбашынскіх сам-насам з трагедыяй.

— Я вельмі радая, што мой сын зараз паедзе дамоў, апынецца ў сям'і. З прысудам суда я не згодная. Лічу, што прысуд несправядлівы, і яго патрэбна абскарджваць. Мой сын пакараны фактычна за тое, што спрабаваў абскардзіць гвалтоўныя дзеянні міліцыі. Другі сын увогуле загінуў у Жодзінскіх засценках, — заявіла Галіна Шаравар журналістам.

Выйшаўшы з залы суда і ўбачыўшы ў калідоры міліцыянтаў, яна не змагла стрымаць эмоцый:

— Забойцы! Гэта вы забілі майго сына! Забойцы, — літаральна галасіла жанчына.

Іван Барбашынскі папрасіў журналістаў сачыць за ўмовамі ў Жодзінскай турме.

— Паўтары тысячы чалавек, якія сядзяць у жудасных умовах у Жодзіна, чакаюць вашай дапамогі і дапамогі праваабаронцаў, — паведаміў былы вязень. — Многія яшчэ чакаюць суда, ім не вынесены прысуд, а да іх ужо ставяцца як да «быдла».

Асабліва негатыўна Іван распавядаў пра турэмную лякарню і адсутнасць лячэння для хворых.

— Турэмная лякарня складаецца з трох паверхаў. Першы паверх фактычна знаходзіцца ў сырым падвале. Там немагчыма дыхаць. У аднаго хлопца разбаleліся зубы, напісаў заяву да начальніка медыцынскай часткі, каб палячылі па вострапу болю, — распавядае Іван. — Пасля заявы каля «кармушкі» з'явіўся лекар у белым халаце з абцугамі і сказаў яму літаральна наступнае: «Мы тут не лечым, мы толькі вырываем зубы».

Калі чалавек захварэў, яго ніхто не абследуе і не ставіць дыягназ. Былы зняволены распавёў, як пасля звароту яго маці ў Дэпартамент выканання пакаранняў з просьбай аб яго медыцынскім абследаванні яго нават накіравалі ў гарадскую паліклініку, дзе ўзялі кроў з пальца і перапячылі пломбы ў зубах. На гэтым медыцынскае абследаванне было скончана. Затое маці атрымала аб'ёмны адказ з дэпартамента аб тым, наколькі ўсебакова медыкі вывучылі стан здароўя яе сына.

Таксама Іван распавёў, што размаўляў з некаторымі крымінальнікамі аб абставінах смерці брата. Тыя лічаць, што сам характар цялесных пашкоджанняў і месцы нанясення ўдараў сведчаць аб тым, што крымінальнікі тут не пры чым.

На пытанне аб планах Іван коратка адказаў: жыць на свабодзе і змагацца за тое, каб даведацца праўду аб абставінах смерці брата.

— Я разумею, што даведацца праўду пра смерць брата будзе вельмі цяжка, паколькі наша праваахоўная сістэма вельмі несправядлівая і ахоўвае ў першую чаргу саму сябе. Але будзем спрабаваць — гэта наш абавязак перад братам і сынам.

Доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухоў, экс-суддзя Канстытуцыйнага суда лічыць, што сітуацыя парадаксальная: усе ўдзельнікі працэсу і прысутныя ў зале разумеюць, што перад судом паўстаў невінаваты чалавек, але яго нельга апраўдаць.

— Цяперашняя судовая сістэма іншага варыянту не дае, — гаворыць Міхаіл Пастухоў. — І ў гэтым я бачу асноўны яе недахоп: залежнасць ад органаў следства, пракурора, вышэйшых інстанцый. Усе настроены на абвінавачванне і асуджэнне. Такая сістэма патэнцыйна небяспечная для грамадзян. Яе трэба тэрмінова мяняць праз правядзенне судова-прававой рэформы. У выніку ў нас павінен з'явіцца незалежны суд, які будзе судзіць па законе і па праўдзе, узважваючы на вагах Феміды довады абвінавачвання і абароны. І суд не павінен баяцца вынесці апраўдальны прысуд, калі віна падсуднага не даказаная.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хто «прызямліўся ў Гародні»?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усё ж Лукашэнка — чалавек фенаменальны. Ён фенаменальны ці тое ў сваёй дрымучай непісьменнасці, ці тое ў спрадвечнай беларускай талерантнасці, ці тое не ў менш легендарнай беларускай хітрасці. Я яшчэ не вырашыў.**


Фота www.dw.com

Пару тыдняў таму ў Мінск завітаў калега Лукашэнкі з Турцыі Рэджэп Эрдаган. Сярод іншага, ён адкрываў і Саборную мячэць у беларускай сталіцы. Адкрываў разам з Аляксандрам Рыгоравічам. Тады ўвесь інтэрнэт здзівіўся: Лукашэнка прылюдна пацалаваў Каран. Больш за тое, у сеціве з'явіліся кадры, дзе наш кіраўнік, разам з іншымі, сядзіць на каленках, відавочна беручы ўдзел у намазе.

А на гэтым тыдні той жа Лукашэнка наведаў Маскву, дзе прыняў удзел у святкаванні дня нараджэння Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Кірыла ў храме Хрыста Збаўцы. Кіраўнік Беларусі падараваў юбіляру слуцкі пояс і карціну з выяваю Свята-Мікольскага гарнізоннага сабора ў Брэсце, адзначыўшы, што той робіць важны ўнёсак у духоўнае адзінства народаў Беларусі і Расіі.

Падаецца, Аляксандру Рыгоравічу насамрэч усё роўна, як, дзе, калі і якому Богу маліцца. Ён аднолькава ўтульна сабе адчувае і ў мячэці, і ў праваслаўнай царкве. Адсюль і вынікае пытанне: гэта рэлігійная непісьменнасць? Талерантнасць? Альбо беларускія хітрыкі?

Калісьці Лукашэнка назваў сябе «праваслаўным атэістам». Усе з гэтага кпілі, але апошняя яго дзеянні паказваюць, што, напэўна, ён сапраўды атэіст. Але займае пазіцыю, як у старым анекдоце пра тое, як камуністка-настаўніца доўга тлумачыла дзецям, што Бога няма, а потым папрасіла іх скласці дулю і паказаць у нябёсы. Усе гэта зрабілі, апроч Вовачкі, які на пытанне настаўніцы адказаў: «Калі Бог ёсць, не трэба з ім сварыцца. А калі няма, дык каму мы ўсё гэта паказваем?».

Цікава, што зробіць Аляксандр Рыгоравіч, калі раптам завітае ў будысцкі храм?

Вера ці бязвер'е — гэта асабістая справа кожнага чалавека. Канешне, Лукашэнка — фігура публічная, і яго публічныя дзеянні на рэлігійнай глебе таксама абмяркоўваюцца. Можа, ён шукае яшчэ... Аднак зразумела, што «персанальнага духоўніка кіраўніка Беларусі», айца Фёдара Повнага трэба звальняць. За ўсе гады пры першай асобе дзяржавы ён так і не здолеў пераканаць таго ў існаванні Госпада.

Што ж тычыцца вынікаў візіту Лукашэнкі ў Маскву, які ён анансаваў перад тымі ж расійскімі журналістамі, дык гэта ёсць таямніца, пакрытая цемрай. Вядома, што сустрэча Лукашэнкі і Пуціна цягнулася пяць гадзін. Але высокія перамоўныя бакі паведамілі акулам пяра толькі пра беларуска-расійскі тавараабарот, рост узаемных інвестыцый і пашырэнне кааперацыйных сувязяў.

Між тым, у саюзнікаў — шмат пытанняў. Гэта кошт газу, пастаўкі нафты, можа быць, чарговы крэдыт альбо пазыка на падтрымку беларускай эканомікі, якая ўсё ніяк не дачакаецца грошай ад МВФ. Агульныя словы прэзідэнтаў журналістам могуць сведчыць ці пра тое, што яны, абмеркаваўшы пытанні, ні пра што не дамовіліся, ці пра тое, што абмяркоўвалі яны зусім іншае — нешта вельмі сакрэтнае.

Пакуль Лукашэнка быў у Маскве з Кірылам і Пуціным, мясцовыя ліберал-дэмакраты ці то прагнуліся перад кіраўніком дзяржавы, ці то падклалі яму свінню. А можа, проста хітра здзекуюцца. Вышэйшы савет і ЦК Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, «карыстаючыся сваім прадстаўніцтвам у Савеце Рэспублікі і Палаце Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу», прынялі рашэнне ініцыяваць правядзенне рэферэндуму па змене Канстытуцыі. На іх думку, плебісцыт павінен прайсці ў 2018 годзе разам з мясцовымі выбарамі.

**Павелічэнне паўнамоцтваў з 5 да 7 гадоў для чалавека, які на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе знаходзіцца 22 гады, інакш як здзекам не назавеш**

На разгляд народу плануецца вынесці тры пытанні. У ЛДП прапануюць павялічыць тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Беларусі з 5 да 7 гадоў, тэрмін паўнамоцтваў беларускіх парламентарыяў з 4 да 5 гадоў, а таксама перайсці на выбары дэпутатаў усіх узроўняў па прапарцыйна-мажарытарнай сістэме.

Па-першае, што такое «прадстаўніцтва ЛДП» у палатах парламенту? Гэта адзін дэпутат у Палаце прадстаўнікоў, Анатоль Хішчанка, і адзін «сенатар» — кіраўнік партыі Сяргей Гайдукевіч. Ці хопіць гэтага, каб ініцыяваць рэферэндум?

Па-другое, павелічэнне паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы з 5 да 7 гадоў для чалавека, які на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе знаходзіцца нязменна 22 гады — гэта сапраўды інакш як здзекам не назавеш.

Па-трэцяе, эканоміка краіны трашчыць па ўсіх напрамках. Тут ужо ідзе размова пра тое, хто будзе адказным за масавае збядненне насельніцтва і за банкрутства эканамічнай палітыкі. Прапанова ЛДП павялічыць тэрмін прэзідэнцтва выглядае як клопат, каб гэтыя адказныя не збеглі з краіны, калі ўсё пачнецца развальвацца. На добры розум, тэрміны кіравання скарачаць трэба, а не павялічваць! Каб потым заявіць: «Пры мне ўсё нармальна было, а тут прыйшлі гэтыя рэфарматары...»

Чаму такі песімістычны прагноз? Не толькі ў мяне ўсё большае адчуванне, што мы недзе на парозе новых 1990-х гадоў. На БТ з'явілася рэгулярная праграма, у якой распавядаецца пра факты безгаспадарнасці ў краіне. І мне адразу ўзгадаўся пабудаваны на тых жа прынцыпах «Пражэктар перабудовы» (тыя, хто памятае канец СССР, ведаюць, пра што я).

І крадуць, як тады, ужо ўсё, што кепска ляжыць. Днямі пад Маладзечна папёрлі цэлую электрастанцыю! Гомельскія будаўнікі, якія вядуць электрычнасць на чыгунцы Маладзечна — Гудагай — мяжа РБ, у пачатку верасня дайшлі да Чарчэнава Маладзечанскага раёна і папрасілі ў гаспадара прыватнага ўчастка дазволу паставіць свой кантэйнер з генератарам. Гаспадар займаецца фермерствам і сам на гэтым участку бывае рэдка. У апошні раз генератар у кантэйнеры бачылі 26 кастрычніка. 28 кастрычніка кантэйнер адкрылі — і электрастанцыі на месцы не знайшлі.

Што цікава, злодзей скраў не толькі электрастанцыю. Навясны замок, якім зачыняўся кантэйнер, таксама не знайшлі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Палітвязень апошнім часам неаднойчы заяўляў пра ўзмацненне ў дачыненні да яго ціску з боку адміністрацыі калоніі.**

Днямі Жамчужнага наведаў адвакат, які пацвердзіў, што Міхаіла афіцыйна прызналі «злосным парушальнікам рэжыму».

«Са слоў адваката, які наведаў у калоніі палітвязня, пасля таго, як апошняга прызналі «злоснікам», яму знізілі ліміт на выдаткі да дзвюх базавых велічынь і, акрамя гэтага, абмежавалі спатканні і бандэролі напалову, — распавяла сайту palitviazni.info праваабаронца Наста Лойка. — Акрамя таго, збіраюцца правесці пасяджэнне камісіі па чарговым парушэнні Жамчужнага, пасля чаго апошняму, хутчэй за ўсё, пагражае штрафны ізалятар. Напэўна, пра гэта мы даведаемся пазней з лістоў палітвязня».

Праваабаронца кажа, што апошняе папярэджанне Міхаілу Жамчужнаму вынеслі 16 лістапада.

Нагадаем, заснавальнік «Платформ інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

## Уладзімір Кондрусь



**Палітвязня пераводзяць у шпіталь «Навінкі» для псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, якую прызначыў яму Маскоўскі суд сталіцы. Пра гэта паведаміў палітык Павел Севярынец.**

Нагадаем, што 39-гадовага Уладзіміра Кондруся павінны былі судзіць па справе Плошчы–2010. Судовы працэс над ім пачаўся 16 лістапада, але адразу быў прыпынены: паведамлялася, што Кондрусь спрабаваў непасрэдна падчас суда перарэзаць сабе вены. Пасля гэтай спробы суд накіраваў яго на псіхолага-псіхіятрычную экспертызу.

Кондрусь быў узяты пад варту 14 чэрвеня ў межах папярэдняга расследавання яго меркаванага ўдзелу ў падзеях каля Дома ўрада падчас выбараў прэзідэнта ў 2010 годзе. Ён абвінавачваецца па артыкуле 293 КК РБ «Масавыя беспарадкі». Раней Уладзімір амаль два месяцы трымаў галадоўку, пасля чаго стан яго здароўя моцна пагоршыўся: ён нават не мог самастойна хадзіць.

Праваабарончая супольнасць Беларусі прызнала Кондруся палітычным зняволеным і патрабуе спынення крымінальнага праследу ў дачыненні да яго і неадкладнага вызвалення з-пад варты.

## Сяргей Міхалок



**Заснавальнік «Ляпіса Трубяцкога» і «Brutto» нарэшце выступіць у Мінску напярэдадні Новага года.**

Праўда, спяваць Сяргей Міхалок будзе свае старыя хіты, а не новы рэпертуар. Канцэрт запланаваны на 30 снежня ў сталічным «Prime Hall».

Гэта будзе першы з 2010 года мінскі канцэрт Сяргея Міхалка. Музыка прадставіць новы праект — «Ляпіс–98» і выступіць з залатымі хітамі «Ляпіса Трубяцкога». «Ляпіс–98» — гэта барабаны Дзяніса Шурава, бас Дзяніса Стурчанкі, трамбон Івана Галушкі, труба Уладзіслава Сянкевіча і гітара Паўла Трацяка. 30 снежня будуць гучаць такія песні, як «Ау», «Ты кінула», «У сукенцы белай», «Яблыні», «Я веру», «Каток», «Афрыка», «Еўпаторыя», «Капітал» і іншыя хіты, створаныя за ўвесь час існавання гурта «Ляпіс Трубяцкой».

«Я думаю, што гатовы весела і ад душы спяваць мой «клоунскі» рэпертуар. Настальгія не адпусціць ніколі. Я магу быць сур'ёзным, дарослым, разважлівым, але Цыркач і Вулічны Гаер заўсёды жывуць ва мне», — распавёў Міхалок пра новы праект.

Нагадаем, што 29 кастрычніка гурт «Brutto» даў першы доўгачаканы канцэрт у Беларусі — у Лядовым палацы Гомеля. На мінскі канцэрт патрапіць будзе вельмі складана — і не з-за адміністрацыйных забаронаў. Канцэрт Міхалка быў анансаваны 22 лістапада зранку, і ўжо да 16 гадзін таго ж дня практычна ўсе квіткі на яго былі распрададзеныя.

# Рэферэндум–1996: Дваццацігоддзе перавароту

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1




### Захоп улады. Працяг

Ужо 12 лістапада пачалося датэрміновае галасаванне. Ва ўсіх рэгіёнах былі створаныя штабы па правядзенні рэферэндуму, якія гналі людзей галасаваць раней. 14 лістапада Віктар Ганчар на прэс-канферэнцыі заявіў пра жудасны маштаб прымянення «адміністратыўнага рэсурсу», і сказаў, што калі гэта не спыніцца, то ён не зацвердзіць вынікі рэферэндуму.

На наступны дзень ахова Лукашэнкі вынесла Ганчара з ЦВК. Спікер ВС Сямён Шарэцкі разам з дэпутатамі і генеральным пракурорам Васілём Капітанам прыехалі ў будынак Цэнтрвыбаркама, куды іх ахова Лукашэнкі нават не пусціла. Указам Лукашэнкі выконваць абавязкі старшыні ЦВК была прызначана Лідзія Ярмошына. Пасля гэтага прымус да датэрміновага галасавання набыў незвычайны маштаб.

### Імпічмент. Пачатак.

Дэпутаты заварушыліся, і пачаліся размовы пра імпічмент. У выніку 19 лістапада ў першай палове дня ў Канстытуцыйны суд паступілі 73 подпісы дэпутатаў ВС 13-га склікання з просьбай разгледзець пытанне пра імпічмент кіраўніку дзяржавы. Гэтая справа называлася «Аб парушэнні прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».

Дзіўна, але адразу пасля перадачы подпісаў да старшыні суду Валерыя Ціхіні завітаў стары сябра, кіраўнік канцэрну «Белнафтахім» Анатоль Мардашоў. Яны гадзіны дзве размаўлялі за зачыненымі дзвярыма, суддзі ўвесь гэты час не маглі патрапіць да старшыні. Калі дзверы адчыніліся, Ціхіня стаяў у паліто, і сказаў, што павінен некуды адыйсці. Прыкладна праз гадзіну Ціхіня вярнуўся. Але вярнуўся іншым чалавекам. Ён адразу ж загадаў тэрмінова правесці пасяджэнне суда.

Стала зразумела, што Ціхіня сустракаўся з Лукашэнкам. Гэта было дзіўна, бо да гэтага Ціхіня патрапіў у апалу і месяцаў дзесяць не меў ніякіх стасункаў з кіраўніком дзяржавы. Падавалася, ён займае прынцыповую і непрымірымую пазіцыю па забеспячэнні канстытуцыйнай законнасці ў краіне. Але, паўтаруся, пасля вяртання з сустрэчы гэта быў ужо іншы Ціхіня.

На нарадзе суддзяў старшыня КС паведаміў, што Лукашэнка хоча сустрэцца з усім складам суда, каб абмеркаваць сітуацыю. Шэраг суддзяў, у тым ліку і я, ад гэтага адмовіліся: як мы можам сустракацца з Лукашэнкам, калі да нас звярнуліся дэпутаты па яго імпічмент? На што Ціхіня сказаў: прапанову ён перадаў, і вырашаць нам. Большасцю галасоў суддзяў сустрэча была адхіленая, а справа па імпічменту — узбуджаная.

У той жа час, пасля таго, як Ціхіня з'ездзіў да Лукашэнкі, з Адміністрацыі прэзідэнта ў суд з'явіўся чалавек за копіяй подпісаў дэпутатаў пад заявай пра імпічмент. Між тым, усе ведалі, што была дамова: не агучваць прозвішчы дэпутатаў да разгляду справы. Калі я запытаўся ў Ціхіні, як жа так, ён адказаў, што прэзідэнцкі бок павінен ведаць зыходныя дакументы па справе, гэта адкрыты працэс, і няма чаго тут хаваць. На наступны дзень мы даведаліся, што з дэпутатамі-падпісантамі імпічменту «пачалася праца» — моцны ціск з тым, каб яны свае подпісы адклікалі.

Разлік быў просты: для разгляду імпічменту трэба было не менш 70 подпісаў дэпутатаў. Усяго іх было 73. Калі б ад подпісаў адмовіліся хаця б 4 чалавекі, то ёсць фармальная нагода справу не разглядаць «за адсутнасцю пазоўніка».

Ціхіня ў той дзень зноў сустрэўся з Лукашэнкам. Вярнуўшыся, ён намагаўся справу аб імпічменце спыніць. Суддзі з гэтым не катэгарычна не пагадзіліся. Тады Ціхіня сказаў, што Лукашэнка прасіў прызначыць разгляд не раней за 22 лістапада, і Ціхіня абяцаў выканаць гэтую просьбу. На гэтым ён настойваў — і суддзі пагадзіліся.

Мы пачалі тэрміновую падрыхтоўку. Былі вызначаныя асобы, якія прадстаўлялі б у судзе дэпутатаў Вярхоўнага Савета, вызначалі такіх жа асоб у Адміністрацыі прэзідэнта. Прапаноўвалася прыйсці ў КС самому Лукашэнку, выклікаліся эксперты, сведкі і гэтак далей. Суддзямі-судакладчыкамі былі прызначаны я, Станіслаў Цішкевіч і Міхаіл Чудакоў. Увечары 21 лістапада мы далажылі Ціхіню пра гатоўнасць пачаць разгляд справы ў 10 гадзін раніцы 22 лістапада.

### Начная змова

У той жа вечар у краіну прыехаў гурт расійскіх «міратворцаў» у складзе Ягора Строева, Генадзя Селязнёва і Віктара Чарнамырдзіна. На сустрэчу быў запрошаны таксама Валер Ціхіня, які пра гэта нікога не інфармаваў. Уначы, па выніках перамоваў, было складзена знакамітае «канстытуцыйнае пагадненне» з трох пунктаў: рэферэндум мае рэкамендацыйны характар, дэпутаты адклікаюць імпічмент, а старшыня КС спыняе гэтую справу. Для канчатковага ўрэгулявання спрэчкі ствараецца Канстытуцыйная камісія з 50 дэпутатаў і 50 прадстаўнікоў Адміністрацыі прэзідэнта, якія думаюць над папраўкамі ў Канстытуцыю.

Ранкам 22 лістапада мы прыйшлі ў суд, і Ціхіня нечакана паведаміў, што падпісаў пагадненне — і «пазбег кровапраліцця ў краіне». У нас узнікла шмат пытанняў. Хто ўпаўнаважыў Ціхіню падпісваць гэты дакумент? Якую ён мае юрыдычную моц? Як ён уплывае на ўжо пачаты працэс па імпічменце? Да таго часу ў судзе ўжо сабраліся прадстаўнікі бакоў, сведкі, эксперты... Мы гатовыя былі пачынаць разгляд, і таму прапанавалі выйсці да ўдзельнікаў працэсу і абмеркаваць гэта пытанне. Ціхіня катэгарычна сказаў: разгляду справы не будзе, пасяджэнне адкладаецца да выканання пагаднення. І загадаў абвясціць, што пасяджэнне адкладаецца да 14 гадзін як мінімум.

Гэта ж ён паведаміў і дэпутатам ВС–13, якія прыехалі на працэс.

### Падстава

У гэты час у Авальнай зале старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі вынес гэты дакумент на галасаванне. Нечакана для ўсіх, зацвярджаць пагадненне, падпісанае Лукашэнкам, адмовілася прапрэзідэнцкая фракцыя. Уладзімір Канаплёў проста ў залі стаяў з тэлефонам і казаў: «Лукашэнка загадвае не галасаваць!» Для прыняцця пагаднення не хапіла некалькіх галасоў — можа быць, і тых дэпутатаў, якія знаходзіліся на той момант у Канстытуцыйным судзе, спадзеючыся на разгляд справы па імпічменце. І Лукашэнка заявіў, што, калі дэпутаты не выканалі сваю частку пагаднення, ён не будзе выконваць сваю.

Вярхоўны Савет быў у разгубленасці. Большасць дэпутатаў, якія падпісаліся пад імпічментам, настойвалі на пачатку справы. Ад Шарэцкага ў Адміністрацыі прэзідэнта патрабавалі дакументаў, што ВС здымае пытанне імпічменту. Ціхіня патрабаваў ад суддзяў КС спыніць справу на падставе таго, што больш за 10 дэпутатаў адклікалі свае подпісы пад імпічментам. Але тая адмова фармальна адмовай не была, бо не была засведчаная старшынёй парламента. А некаторыя заявы нават не былі падпісаныя дэпутатамі. У гэтай сітуацыі мы нават паспелі правесці нараду з удзелам экспертаў у галіне канстытуцыйнага права па пытанні, ці можам мы спыніць справу, калі першапачаткова былі 73 подпісы, а потым па форс-мажорных абставінах некаторыя подпісы адклікаюць.

Да гонару прафесароў-юрыстаў, большасць схілілася да таго, што імпічмент — гэта справа публічная, грамадска значная, і вымушаная адмова ад подпісу не павінна несці за сабой спыненне ўжо распачатай справы.

Такім чынам, суддзі ў чарговы раз адхілілі прапанову Ціхіні спыніць справу, і ўвечары пятніцы разышліся. Аднак у суботу, 23 лістапада, усіх тэрмінова выклікалі на працу, і Ціхіня зноў паставіў пытанне пра спыненне справы. І зноў не знайшлося большасці, каб справу спыніць. Тады Ціхіня сказаў, што разгляд справы па імпічменце пройдзе пасля рэферэндуму.

### Канец КС

Мы думалі, што ў нас будзе час вынесці рашэнне па імпічменту за той час, пакуль ЦВК будзе лічыць і пералічваць «рэферэндумныя» галасы. Раней такі падлік займаў некалькі дзён. Аднак нечакана ўжо раніцай 25 лістапада вынікі галасавання былі агучаныя: па ўсіх пытаннях перамог Лукашэнка.

А 26 лістапада перад будынкам Адміністрацыі прэзідэнта сабраліся 103 дэпутаты, якія падтрымалі Лукашэнку і выступілі за роспуск Вярхоўнага Савета. Зразумела было, што яны парушылі працэдуру, рэгламент, закон, і ў гэтых дэпутатаў банальна не хапала кворуму: для роспуску ВС трэба было дзве траціны дэпутатаў, альбо мінімум 133 чалавекі. Рашэнне пра роспуск ВС законным не было, але ён усё адно быў распушчаны.

Што тычыцца нас, то ў той жа дзень, 26 лістапада, ад імя Вярхоўнага Савета быў прыняты адзін закон. Закон аб спыненні ў Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь вытворчасці па справе аб парушэнні прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Закон быў падпісаны Лукашэнкам, у ім было сказана, што ён «набывае моц з моманту яго падпісання».

Такіх законаў ніколі не было, і, напэўна, ужо не будзе. Гэта было простае ўмяшальніцтва ў справы Канстытуцыйнага суда, што па Крымінальным кодэксе, які на той час існаваў, разглядалася як злачынства. За гэта — умяшальніцтва ў справы КС і невыкананне яго рашэнняў — была прадугледжаная немалэнькая крымінальная адказнасць.

Вынікі рэферэндуму мы ведалі, сакратар суда нам пад стол падсунуў і гэты закон. Старшыня КС Валер Ціхіня ў чарговы раз паставіў пытанне пра спыненне справы аб імпічменце. Я выступіў катэгарычна супраць. Але справа была спыненая. І ў гэты момант, я лічу, Канстытуцыйны суд у краіне сканаў.

Праз некалькі дзён усім суддзям было прапанавана напісаць заявы аб адстаўцы.

### Імпічмент працягваецца?

Ці магчыма хаця б для гісторыі зноў разглядзець тую справу пра імпічмент Лукашэнку? Безумоўна, так. Калі матэрыялы гэтай справы захаваюцца, то яна можа быць адноўленая «па новых абставінах». Гэта магчыма таксама, як і ў любым судзе — узнаўленне справы па наноў адкрытых абставінах. Зараз такіх абставін, на мой погляд, больш чым дастаткова. Магчыма, гэта будзе такі «маленькі Нюрнберг».

Дарэчы, першае рашэнне, якое вынес новы Канстытуцыйны суд, які складаўся ўжо з прызначаных Лукашэнкам суддзяў, было прысвечанае знакамітаму рашэнню нашага КС ад 4 лістапада пра рэкамендацыйны характар рэферэндуму 1996 года. Зразумела, новы склад КС вызнаў, што стары склад КС не павінен быў прымаць такое рашэнне і дапусціў шэраг дзіўных «парушэнняў», якія «разглядзелі» новыя суддзі. Новы склад КС адразу «прагнуўся» перад кіраўніком, які іх прызначыў. Але ж і гэта дае падставы казаць, што і справа пра імпічмент таксама можа быць разгледжана наноў. Гэта, я думаю, адбудзецца, пытанне толькі — калі.

# Трыумф і трагедыя Віктара Ганчара

« Заканчэнне. Пачатак у №44

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Шанец для Віктара Ганчара выйсці непасрэдна на шырокае кола выбаршчыкаў дала Канстытуцыя, прынятая 15 сакавіка 1994 года.**

Ганчар стаў на чале Падліковавай камісіі, якая ажыццяўляла галасаванне па найбольш спрэчных раздзелах дакументу — аб Вярхоўным Савеце і прэзідэнце, аб мясцовым кіраванні і самакіраванні — шляхам падачы імянных бюлетэняў на працягу 24, 25 лютага і 1 сакавіка. Станоўчае рашэнне 266 дэпутатаў па гэтых палажэннях зрабіла прыняцце Канстытуцыі толькі справай часу.

Новая Канстытуцыя, якая ўводзіла прэзідэнцкую пасаду, фактычна разгарнула перадвыбарчую гонку. Віктар Ганчар без ваганняў падтрымаў кандыдатуру Аляксандра Лукашэнкі, аднак, у адрозненне ад Дзмітрыя Булахава, не рабіў публічных заяў і каментараў у СМІ. У гэты перыяд Ганчар паспрабаваў яшчэ раз правбрацца ў вышэйшыя органы ўлады, вылучыўшы сваю кандыдатуру на пасаду суддзі Канстытуцыйнага суда, але ж набраў пры галасаванні ў ВС толькі 129 галасоў.

Пасля перамогі Лукашэнкі Віктар Ганчар даў згоду на прапанаваную яму пасаду віцэ-прэм'ера. Галасаванне па яго кандыдатуры адбылося 21 ліпеня 1994 года. Лукашэнка прысвяціў свайму пратэжэ сапраўдны панегірык, назваў яго «талантливым», «умным» і пажадаў яму «стойкости». З 316 зарэгістраваных дэпутатаў 258 падтрымалі Ганчара.

Аднак Віктар з цягам часу зразумеў, у якую пастку трапіў. Новы віцэ-прэм'ер павінен быў курыраваць пытанні сацыяльнай сферы, на якую, як заўсёды, ніколі не хапае сродкаў. Да таго ж ён аказаўся ўцягнутым у канфлікт з незалежнымі прафсаюзамі па пытаннях аздараўлення грамадзян, вымушаны быў займацца пытаннямі былога Камітэта па сацыяльнай абароне вайскоўцаў і ўдзелу яго кіраўніка Мікалая Чаргінца ў справе перапахавання італьянскіх воінаў, загінулых у Беларусі падчас Другой сусветнай вайны.

Урэшце цярпенне Ганчара скончылася: ён падаў у адстаўку. 12 снежня 1994 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў адпаведны загад, назваўшы сыход Ганчара «ударом ножа в спину». Сам Віктар Ганчар растлумачыў сваю адстаўку негатыўным уплывам на дзяржаўныя справы Віктара Шэймана і Івана Ціцянкова.

У лютым 1995 года Віктар Ганчар, будучы ўжо генеральным сакратаром Эканамічнага суда СНД, сказаў у інтэрв'ю «Свободным новостям»: «Бог наказал Лукашенко властью, и я молю Бога, чтобы он побыстрее помиловал его».

Але на гэтым палітычная дзейнасць Віктара Ганчара, натуральна, не скончылася. Ён прыняў актыўны ўдзел у выбарах у Вярхоўны Савет 13-га склікання.

Вылучыўшыся па сталічнай Коласаўскай выбарчай акрузе №248, Ганчар па выніках выбараў 14 мая 1995 года выйшаў у другі тур разам з прадстаўніком БНФ Уладзімірам Заблоцкім. Аднак з-за нізкай яўкі другі тур не адбыўся.

На паўторных выбарах 29 лістапада 1995 года Ганчар ішоў па той жа акрузе. Акрамя яго на дэпутацкі мандат прэтэндавалі яшчэ чатыры чалавекі. Рэальным супернікам быў дырэктар аднаго з мінскіх прадпрыемстваў Уладзімір Крук. У дзень галасавання, 29 лістапада 1995 года, ні адзін з кандыдатаў не здабыў перамогі, а ў другі тур выйшлі Віктар Ганчар і 50-гадовы беспартыйны электрык мінскага метрапалітэна Генадзь Капанік. Калі за Віктара Ганчара прагаласавалі 8 084 грамадзянаў з 19 352, што прынялі ўдзел у выбарах, то за Генадзя Капаніка — 4 557. У другім туры 10 снежня 1995 года Віктар Ганчар атрымаў перамогу. З 18 487 выбаршчыкаў, што прынялі ўдзел у галасаванні, Віктара Ганчара падтрымалі 10 883.

У Вярхоўным Савеце Віктар Ганчар стаў сябрам камісіі па заканадаўстве, найбольш зацятым і паслядоўным крытыкам кіраўніка Беларусі і яго атачэння.

Адной з самых драматычных падзей у жыцці Ганчара падчас дэпутацтва ў апошнім Вярхоўным Савеце стала страляніна па яго машыне 20-гадовага міліцыянера Івана Карповіча ў ноч з 13 на 14 чэрвеня 1996 года. У выніку чаго была паранена памочніца дэпутата. Пры абмеркаванні гэтага пытання міністр унутраных спраў Валянцін Агалец сцвярджаў, што Ганчар выпадкова апынуўся на лініі агню: на самай справе, праваахоўныя органы лавілі злачынцаў. Ганчар даказваў, што ўсё гэта не выпадкова. Асабліва яго ўзрушыла тое, як беларускае тэлебачанне падало гэты інцыдэнт. Віктар назваў падначаленых Рыгора Кіселя «самыми грязными подонками». Дэпутат шчыра прызнаўся, што калі б сустрэў Аляксандра Зімоўскага, то «полунул бы ему в лицо».

На жаль, Вярхоўны Савет не здолеў абараніць годнасць і гонар свайго дэпутата, заявіўшы, што інфармацыя Ганчара прымаецца да ведама. Дэпутат назваў гэта «личным оскорблением». У той жа дзень Ганчар вымавіў страшныя прароцкія словы: «Меня расстреляли перед всей республикой, а теперь ещё пытаются закопать живьём».

Неўзабаве ў палітычным лёсе Віктара Ганчара адбылася яшчэ адна падзея. Ён быў прызначаны старшынёй ЦВК.



Пакуль яшчэ разам



Пасля галадоўкі схуднелы, але не зламаны Віктар Ганчар уручыў пасведчанне кандыдата ў прэзідэнты даверанай асобе Зянона Пазняка Сяргею Папкову

Гэта адбылося 5 верасня 1996 года, амаль праз месяц пасля таго, як Лукашэнка афіцыйна папярэдзіў Вярхоўны Савет аб чарговым рэферэндуме. Дэпутаты — апаненты Лукашэнкі — добра разлічылі: Ганчар як юрыст і як чалавек мае маждівасць папсаваць гульню Лукашэнкі. Нездарма прэзідэнцкія паплечнікі Уладзімір Канаплёў і Юры Малумаў усяляк працівіліся кандыдатуры Ганчара. Аднак са 155 дэпутатаў, якія бралі ўдзел у галасаванні, 111 падтрымалі яго. За Ганчара, паступіўшыся асабістымі амбіцыямі, выказаўся і Станіслаў Шушкевіч.

Гэта рэзка актывізавала Лукашэнку. Ужо на наступны дзень ён выступаў перад парламентарыямі і абвінаваціў Ганчара ў тым, што ён вінен дзяржаве 100 мільёнаў рублёў, якія нібыта скраў для будаўніцтва дома. Ганчар адказаў вельмі годна, заявіўшы, што за любы ціск на ЦВК давядзецца адказваць перад законам.

Старшыня ЦВК распачаў крытыку рэферэндуму, прыводзячы прыклады шматлікіх парушэнняў. А ў лістападзе ў расійскай праграме «Герой дня» старшыня ЦВК заявіў, што не прызнае вынікі рэферэндуму.

Гэта стала апошняй кропляй. 14 лістапада 1996 года Лукашэнка падпісаў указ, паводле якога адхіліў Віктара Ганчара. Нагодай для ўказу паслужыў ліст 9 сябраў ЦВК (у тым ліку і Лідзіі Ярмошынай), у якім Віктар Ганчар вінаваціўся ў палітыканстве. Віктара літаральна вынеслі з будынка ЦВК, а ўсе яго далейшыя спробы трапіць на працоўнае месца поспеху не мелі.

Пасля рэферэндуму Віктар Ганчар заявіў, што збіраецца прысутнічаць у палітыцы настолькі, наколькі палітыка будзе прысутнічаць на Беларусі.

Ён не збіраўся здавацца. Ужо ў студзені 1997 года была створана камісія былога Вярхоўнага Савета на чале з Віктарам Ганчаром «по правовой оценке нарушений президентом Республики Беларусь Лукашенко А.Г. Конституции и законов Республики Беларусь». Летам гэтага ж года Ганчар пачаў рассылаць частку матэрыялаў работы «Перечень нарушений Конституции и проведения референдума 24 ноября 1996 г. и его итогов». Там фіксаваліся парушэнні, звязаныя з дзейнасцю ЦВК, Канстытуцыйнага суда. Таксама гаворка ішла аб датэрміновым галасаванні, манапалізацыі СМІ і іншым.

У пачатку верасня 1997 года Віктар Ганчар на 300 адрасоў разаслаў тэкст на 85 старонак, «Заключения специальной комиссии по правовой оценке нарушения президентом Республики Беларусь А. Лукашенко Конституции и Законов Республики Беларусь». Сярод адрасатаў фігуравалі не толькі былыя дэпутаты Вярхоўнага Савета, але і Нацыянальны сход, органы дзяржаўнай улады і нават расійскі парламент. У заключэнні меліся такія раздзелы, як захоп дзяржаўнай улады, ліквідацыя самастойнасці мясцовых саветаў і г.д.

14 кастрычніка 1997 года 43 дэпутаты былога Вярхоўнага Савета згадзіліся з высновамі камісіі і прынялі палітычную заяву, паводле якой Лукашэнка ўжо не меў права выконваць свае абавязкі.

Тады ж, у кастрычніку, праз «Народную волю» Віктар Ганчар агучыў свае сем тэзісаў: 1) чёткая политическая постановка целей и задач; 2) наличие скоординированного по каждому шагу плана действий; 3) никаких компромиссов с режимом; 4) борьба за массы и поддержка населения; 5) помощь России и Европы; 6) преодоление угрозы гражданской войны; 7) поддержка властных структур и капитала.

У пачатку 1998 года Ганчар заявіў, што будзе балатавацца на пасаду прэзідэнта. Ён прызнаўся, што з іншымі апазіцыйнымі дзеячамі не атрымоўваецца каманднай гульні. Гэта пацвярджае той факт, што ён не ўвайшоў у склад Нацыянальнага выканаўчага камітэта на чале з Генадзем Карпенкам, які назваў ініцыятыву свайго калегі «детством».

З імем Віктара Ганчара непарыўна звязаны і выбары прэзідэнта ў 1999 годзе, калі, згодна са «старой» Канстытуцыяй, паўнамоцтвы Лукашэнкі павінны былі скончыцца.

10 студзеня 1999 года 44 дэпутаты былога Вярхоўнага Савета стварылі ЦВК на чале з Ганчаром і прызначылі прэзідэнцкія выбары на май. А ўжо 25 лютага сябры ЦВК і сам Ганчар былі затрыманыя ў кафэ.1 сакавіка Віктар атрымаў 10 сутак адміністрацыйнага арышту і распачаў галадоўку. Занепакоенасць лёсам Ганчара выказалі высокія еўрапейскія чыноўнікі. Пасля выхаду з турмы Ганчар сцвярджаў, што яго хацелі карміць гвалтоўна, а ночча ў камеры ўрач Сяргей Мікуліч уліў яму 400 грамаў глюкозы. Віктар раскрытыкаваў суддзю Валянціну Зенькевіч, якая нават «не соблюдала процессуальных формальностей». Да таго ж супраць Ганчара ўзбудзілі крымінальную справу за «самовольное присвоение власти».

Арышт не спыніў Ганчара. 31 сакавіка 1999 года ён уручыў пасведчанні кандыдатаў у прэзідэнты давераным асобам Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра. Па звестках ЦВК Віктара Ганчара, з 6 па 10 мая ў выбарах узялі ўдзел 1 772 042 грамадзян. Афіцыйны ЦВК выбары не прызнаў. Канешне, такія выбары не маглі зламаць сістэму, але выклікалі вялікую занепакоенасць ва ўладных колах і асабіста ў Лукашэнкі.

21 ліпеня 1999 года Віктар Ганчар быў абраны першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета, а 27 ліпеня прайшло пасяджэнне Прэзідыуму, на якім абмяркоўвалася распрацоўка плана мерапрыемстваў «по восстановлению конституционной законности».

Гэты план у рамках даклада Віктара Ганчара «О политических итогах пятилетнего правления страной А. Лукашенко» павінен быў быць агучаны на пасяджэнні дэпутатаў 18–19 верасня. Планавалася, што на ім будзе прысутнічаць 400 чалавек.

Аднак 16 верасня 1999 года Віктар Ганчар і бізнесмен Анатоль Красоўскі зніклі. Гэтае зніненне з'яўляецца адной з самых загадкавых падзей у гісторыі найноўшай Беларусі.

# Рыцар роднай мовы

Яніна ШМАТКО

**Паэт, эсэіст, крытык, перакладчык, укладальнік унікальных анталогій, даследчык жыцця і творчасці Ларысы Геніюш, Міхась Скобла 23 лістапада адзначыў сваё 50-годдзе.**

## Сям'я

Маці Міхася Скоблы — Леакадзія Уладзіміраўна (у дзявоцтве Дубовая) расла ў вёсцы Бародзічы, побач з райцэнтрам, пасёлкам Зэльвай. У сям'і было трое дзяцей: старэйшая сястра, яна і брат. Будучы муж, Уладзімір Васільевіч Скобла, часта наведваўся ў Бародзічы, бо тут жылі яго сваякі. А самі Скоблы жылі на хутары каля вёскі Пяляжын. Сустрэчы Леакадзіі і Уладзіміра былі нячастымі: сялянскае жыццё не вельмі багатае на святы і вольныя ад работы дні. Калі зразумелі, што яны створаныя адзін для аднаго, ажаніліся. Сціплае вяселле адбылося ў 1959 годзе. Жылі на хутары ў старой бацькоўскай хаце.

Уладзімір Васільевіч быў спрытны да працы, і нікому не здалася недасяжнай яго мара пра асабісты дом у вёсцы. Падрасталі дзеці, з вёскі ім лягчэй было дабірацца ў школу, вось і пачаў малады гаспадар клапаціцца аб выдзяленні месца пад будучы дом, набыцці матэрыялаў. Некалькі гадоў ішла падрыхтоўка, яшчэ некалькі — будаўніцтва. Хата атрымалася такой, пра якую марыў: моцнай, прасторнай, светлай.


Бацькі паэта ў дзень вяселля

Усе дзеці Скоблаў — трое хлопцаў — нарадзіліся яшчэ на хутары. Калі Уладзімір Васільевіч позняй восенню 1966 года адвёз жонку ў Дзярэчынскую ўчастковую бальніцу, вельмі спадзяваўся, што трэцім дзіцём будзе дзяўчынка. Але... «Напэўна, Міша нарадзіўся такім прыгожым, што мы з мужам вельмі чакалі дачушку», — згадвае зараз Леакадзія Уладзіміраўна з цёплай усмешкай.

Раслі хлопцы працавітымі, работу на мужчынскую і жаночую не дзялілі. Выканаўшы «абавязковы мінімум» хатніх работ, кожны займаўся сваёй справай. У Міхася было два захапленні: рыбалка і кнігі. «Яшчэ я толькі падымуся кароўку даіць, а Міша ўжо коціцца з ложка, каб бегчы на рыбу, — згадвае Леакадзія Уладзіміраўна. — Але паступова рыбалка адыходзіла на другі план, і галоўнай любоўю сталі кнігі. Ён і чытаць сам навучыўся, ніхто яму асаблівa і не паказваў літар. Глядзеў, як чытаюць старэйшыя, уцямліваў, што да чаго, і пачаў па газетах чытаць, здзіўляючы нас з бацькам». Калі Міхась пайшоў у школу, ужо не толькі чытаў, але і шмат вершаў на памяць ведаў.

Прачытаныя ў раннім узросце кнігі будзілі ўяўленне хлопчыка, давалі глебу для роздуму, пошуку параўнанняў.

Калі Міхась пайшоў ва Угрынскую васьмігодку і адкрыў для сябе вясковую бібліятэку, кнігі ўзялі яго ў палон канчаткова. Возьме адну-дзве кнігі — і «глытае» іх на перапынках, а ідучы дамоў зноў ідзе ў бібліятэку за новай порцыяй кніг. Замест гарбаты з булачкай, на якія давала грошы маці, купляў кнігі. Купляў і на асабістыя зберажэнні: летам хадзіў у калгас на працу і меў невялікі заробак. Рос Міхась — расла і колькасць кніг. Калі адыходзіў у армію, развітваўся з кнігамі, як з жывымі істотамі. «Як я вас пакіну?!» — выпадкова пачула маці тужлівае пытанне-воклiч сына, які стаяў каля сцяны з кнігамі...

Вершы Міхась таксама пачаў пісаць рана. Не афішаваў свайго занятку, але і браты, і бацькі заўважалі, як хуценька хаваў хлопчык лісткі спісанай паперы ад іх зацікаўленага позірку. Леакадзія Уладзіміраўна і зараз не перастае здзіўляцца, як у сына так хораша атрымліваецца выказаць думку ў рыфме. «Здаецца, не было ў радні паэтаў, не ведаю, у каго ён удаўся, — разважае яна. — І Коля, і Саша таксама старанна вучыліся, але такой непамернай цягі да кніг, як у Мішы, у іх не было».

## Роля настаўнікаў

І ва Угрынскай васьмігодцы, і ў Дзярэчынскай сярэдняй школе Міхась вучыўся добра, але асабліва шчыраваў над падручнікамі роднай і рускай літаратур. Філолагі былой Угрынскай школы Ірына Венская і Ганна Сончык з цеплынёй гавораць пра ўсіх хлопчыкаў з сям'і Скоблаў. Але Міхась запомніўся, бо часта выручаў настаўнікаў, калі школе трэба было прымаць удзел у раённых конкурсах рознай тэматыкі. У школе ведалі пра яго паэтычныя здольнасці: хлопчык быў сябрам рэдкалегіі насценгазеты, ярка і вобразна выступаў на розных агульнашкольных зборах. Калі на раённы конкурс спатрэбілася сачыненне, Ганна Уладзіміраўна звярнулася да Скоблы. А ён, згадзіўшыся папрацаваць над тэмай, падышоў да настаўніцы: «А можна напісаць сачыненне вершам?» — «Ну, вядома», — здзіўлена адказала тая.

Калі здаў сачыненне, настаўніца папрасіла дапрацаваць толькі канцоўку — некалькі радкоў. Без напругі, адразу, як быццам толькі гэтага і чакаў, Міхась Скобла дапісаў двухрадкоўе і паставіў кропку.


Міхась Скобла з сынам Вячкам

Тое вершаванае сачыненне было заўважана раённай камісіяй і прапанавана да друку ў мясцовай газеце. Так што да моманту заканчэння Угрынскай васьмігодкі ў Міхася ўжо быў некаторы паэтычны досвед. Настаўнікі раілі яму абавязкова звярнуцца ў Дзярэчынскай дзесяцігодцы да Пятра Марціноўскага.

Пятру Мікалаевічу Міхась і паказаў сшытак з першымі вершамі, калі ў канцы лета адносіў дакументы ў дзесяцігодку. Знаўца літаратуры, філолаг, кіраўнік літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце «Праца», Марціноўскі адразу ўбачыў паэтычныя здольнасці падлетка.

Убачыў — і пачаў карпатліва працаваць з хлопцам, тлумачыць азы вершаскладання, знаёміць з лепшымі ўзорамі сусветнай літаратуры. У Марціноўскага была вялікая бібліятэка, ён запрашаў хлопца да сябе, каб выбраць неабходнае для сістэмнай вучобы. З таго вечара Міхась Скобла ўсё часцей гаварыў маці: «Я пайшоў да Марціноўскага». І Леакадзія Уладзіміраўна была спакойная за сына.

У асобе Пятра Марціноўскага Міхась сустрэў сапраўднага педагога. І да сустрэчы з Марціноўскім хлопец намацваў тэмы для сваёй творчасці, а калі з'явіўся той, хто недакучліва накіроўваў яго пошукі, стаў смялей эксперыментаваць у параўнаннях, метафарах, асацыяцыях, форме вершаў. Марціноўскі падтрымліваў, падказваў, папраўляў і... друкаваў.

## «Зоры над Зяльвянкай»

Шмат зрабіла для паэта і Ірына Васілеўка. Працавала яна ў раённай газеце намеснікам галоўнага, а потым і галоўным рэдактарам. Менавіта з ёю заўсёды раіўся Марціноўскі, калі прывозіў чарговыя творы свайго любімца.

Хлопца кранала ўсё, што адбывалася ў свеце і вакол яго.


Дачушка Міхася Скоблы Сафійка

Рана зацікавіўся ён мястэчкам Дзярэчын, пра якое ў 1999 годзе выдасць кнігу «Дзярэчынскі дыярыюш». У «Дыярыюшы» Скобла піша: «Памятаю, яшчэ доўга стаяла ў вачах танкастанная бярозка, што адчайна ўчапілася ў касцельны мур на дзесяціметровай вышыні». Хлопец піша верш «Стары касцёл у Дзярэчыне»:

*Здавалася б: мур, і высокі,*
*Зямлі ані грама, ды не! —*
*Знайшліся жыццёвыя сокі*
*Для дрэўца на голай сцяне!..*

Марціноўскаму верш спадабаўся. Ён убачыў у ім майстра асацыяцый, трапных метафар, глыбіннае пранікненне ў мінулае. Але рэдактар-атэіст не прыслухаўся да голасу Марціноўскага і Васілеўкі: верш надрукаваны не быў. Пётр Мікалаевіч як мог згладжваў першае сутыкненне маладога аўтара з цэнзурай, але і надалей выказваць адкрыта свае думкі не перашкаджаў. І юнак працягваў пошукі свайго шляху, ствараючы запамінальныя вобразы бацькоў, аднавяскоўцаў, герояў мінулай вайны.

У канцы 1983 года Марціноўскі на старонках выдання «Зоры над Зяльвянкай» пазнаёміў чытачоў з біяграфіяй Міхася Скоблы, адзначыўшы лепшыя творы і пажадаўшы «творчага натхнення і імклівага палёту ў краіну паэзіі». А вясной 1984-га, калі хлопец ужо рыхтаваўся да здачы экзаменаў за сярэднюю школу, вывеў свайго вучня «ў людзі». Спачатку Міхась у складзе добра знаёмых зэльвенцам паэтаў — Дануты Бічэль, Валянціны Ададуравай, Ірыны Данік — выступаў перад навучэнцамі санаторна-лясной школы, а потым знаёміў са сваімі творамі вучняў усяго раёна са сцэны Дома культуры. Экзамен на публічнасць Міхась вытрымаў: ён і яго вершы запомніліся і палюбіліся, яго імя пачалі шукаць на літаратурнай старонцы.

Старэйшыя землякі-паэты шукалі больш шырокую арэну для таленавітага хлопца. Яго вершы сталі знаёмы чытачам «Гродненской правды» і «ЛіМа». Прэзентуючы падборку вершаў Міхася ў «ЛіМе», Юрка Голуб пісаў: «У Міхася Скоблы, выпускніка Дзярэчынскай СШ Зэльвенскага раёна, як кажуць, усё яшчэ наперадзе. Але гэты юнак ужо навучыўся захапляцца жыццём, умее думаць па-даросламу сур'ёзна. Сведкі таму — яго вершы, дзе ёсць зерне, якое прарастае ў паэзію. Не будзем заглядваць наперад, бо далейшы лёс пачаткоўца залежыць ад яго самога. Хачу, каб гэты паэтычны лёс земляка склаўся трывала і шчасліва».

У тым жа 1984 годзе Міхась стаў студэнтам БДУ. Не бацькі, а Марціноўскі адвёз хлопца з дакументамі ў самую прэстыжную ВНУ краіны. Ён верыў, што хлопец не падвядзе: і паступіць, і студэнтам будзе добрым, і з паэзіяй не развітаецца. Так яно і здарылася. Праўда, гады студэнцтва зацягнуліся, бо праз год вучобы студэнт стаў салдатам і спраўна служыў у Літве і Заходняй Украіне, не раз міжволі адчуваючы сябе «акупантам» сярод тых, хто прачынаўся да волі...

У першы год вучобы вельмі сумаваў па блізкіх, часта прыязджаў дадому. Каб не быць цяжарам для бацькоў, кожнае лета (і да арміі, і пасля яе) зарабляў сабе на жыццё ў будатрадах. Па-ранейшаму не парываў сувязяў з Марціноўскім, дасылаў яму свае новыя творы. Пётр Мікалаевіч знаёміў зяльвян з усім, што адбывалася ў жыцці юнака. 1 студзеня 1985 года «Праца» змясціла паведамленне ад Марціноўскага, што ў літаратурным аб'яднанні «Узлёт» (БДУ) — юбілей, і да 20-годдзя выйдзе шостая кніжка «Вусны», дзе будуць вершы М. Скоблы і С. Чыгрына, студэнтаў БДУ. А праз два месяцы Пётр Мікалаевіч радуецца, што Міхась «спрабуе свае сілы ў жанры пародыі» і змяшчае ў «Зорах...» пародыі на вершы Уладзіміра Мазго «Няма ліха без дабра» і Юркі Голуба «Вясковая ідылія».

Пасля паэт стаў актыўным удзельнікам адраджэнскага руху, яго творчасць стала яркай, палемічнай. І гэта ўжо другі перыяд у творчым лёсе Міхася Скоблы. І пра яго свае слова павінны сказаць не дылетанты, а прафесійныя даследчыкі.

Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (123)
(лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест





**Мы найбольш ведаем А. Вярцінскага як паэта грамадзянскага гучання, аднак ягонае вясковае ўслухоўванне і ўгляданне ў змену прыроднага календара, апісанне праяваў гэтай змены ёсць адным з самых цікавых вектараў яго паэзіі**

# Песні Анатоля Вярцінскага

**Можна, канечне, называць яго «адным з найстарэйшых літаратараў Беларусі», лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, шматгадовым рэдактарам «ЛіМа», экс-дэпутатам беларускага парламента, але пры ўсім тым наўсуцэль забыцца напісаць, што Анатоль Вярцінскі, якому 18 лістапада споўнілася 85 гадоў, вельмі моцна змяніў у 1960-я гучанне, форму і сам падыход да паэзіі.**

Сённяшняя размова — пра дэбют нашага майстра і яго першую кнігу «Песня пра хлеб» (1962 год).

Характэрная адзнака шасцідзясятніцтва — у імкненні да абнаўлення паэтычнай мовы і самой вобразнай сістэмы. Найперш — герой і аўтар прамаўляюць ад першай асобы. Можна сказаць, што А. Вярцінскі пачынае з аўтабіяграфіі — паэмы «Песня пра хлеб» (пачынаць першы зборнік з паэмы — таксама нестандартны ход), якая нібы акумулюе ўвесь замкнёны сялянскі мікракосм і народную рытуальную абраднасць. Паслядоўна, строга, крок за крокам, аўтар праводзіць рэканструкцыю рытуалу выпякання хлеба: як высяваецца зерне ў зямлю, як збіраецца ўраджай, малоцішча, як расчыняецца хлеб, гатуецца рошчына, — з павагай да кожнага элемента, які ў сялянскай свядомасці набываў ледзь не магічны статус — дзяжы, хлебнай лапаты, добрага кляновага ліста, на якім пячэцца хлеб, вялікай печы на палову хаты.

Разам з тым, аўтар прыносіў у апісанне рытуалу моцную і вельмі вострую эмоцыю — якраз такую, што можна перажыць толькі ў дзяцінстве і запомніць. Такім чынам рытуал сплятаецца з вельмі асабістымі ўспамінамі. Тая ж печ персаніфікуецца як асоба, як сяброўка мінулых дзён:

*Толькі не будуць ніколі забытымі*
*Дні, калі ў коміне выў дзіка вецер,*
*А ты так умела гасцінна прывеціць,*
*Ты нас акружала цяплом і ласкаю,*
*Ціха расказвала казку за казкаю,*
*Змаўкала, зноў чулася ветра гудзенне,*
*На столі хісталіся прыцемак цені...*

Гэтак і сама каравайная абраднасць з’яўляецца як прывід мінулага, як нешта архаічнае, якое тым не менш моцна жыве ў мове і свядомасці паэта, зноў і зноў нараджаецца праз успамін:

*Кружыцца першае лісце кляновае.*
*Стаіць у скверы ціш вераснёвая.*
*А ўверсе — воблачка, над скверам сінь...*
*Вітаю цябе, мой слаўны верасень!*
*Ты той жа ясны, ледзь-ледзь засмужаны,*
*ты той жа вясёлы,*
*ледзь-ледзь засмучаны.*
*Цябе з тваёй кожнаю прыкметаю*
*я добра помню, добра ведаю.*
*Дзяцінства ніхто не забудзе ніколі.*
*А ты быў мне лепшым*
*сябрам па школе.*
*Хіба не ты, прыветны і сонечны,*
*ранкам якраз такім, як сённяшні,*
*для нас адчыняў усе дзверы школьныя,*
*будзіў званкамі ціш навакольную.*
*І нечым яшчэ ты запомніўся, верасень.*
*Ці то цішынёй на азёрным беразе,*
*ці спелай антонаўкай ды аскомінай,*
*ці, можа, водарам хлебным з коміна?*

Адштурхнуўшыся ад паэмы, якая, зрэшты, абыймае палову кнігі, варта перайсці да вершаў. Найбольш паказальным момантам для мяне з’яўляецца бачанне таго, як паступова перацякае са старонкі на старонку тэматыка твораў. Не аб’ядноўваючы іх у цыклы і не адзначаючы ў змесце, А. Вярцінскі з самага пачатку стварае пэўныя блокі, якія ўцялесняцца толькі ў трэцяй кнізе — «Чалавечы знак». Калі коратка перадаць гэтыя рух і «перацяканне», то можна было б сказаць так: ад паэмы, якая рэканструіруе хлебны рытуал, аўтар пераходзіць да тэматыкі касмічнай (што ёсць агульным месцам ледзь не ўсіх паэтычных кніг таго года — першага «паслягагарынскага»), а пасля да тэмы вайны — мінулай і магчымай. Гэтым нібыта і працягваецца ўніверсальны характар паэмнай «хлебнай містэрыі», але і аддаецца даніна патрабаванням часу. Зноў жа, трэба сказаць, мусовую для ўсіх шасцідзясятнікаў «планетарную» тэматыку А. Вярцінскі (прынамсі, у гэтым зборніку і ў параўнанні з аднакашнікамі па «філалагічнай» генерацыі) падае як мага больш завуалявана і нават, як у вершы «Зімняе сонцастаянне», акуратна падкрэслівае ненармальнасць халоднай вайны:

*Ахутаны быў увесь прыцемкам*
*бясконцым*
*Самы кароткі дзень.*
*Запальвалі ліхтары.*
*Сонца як не ўзыходзіла.*
*Што сталася з сонцам?*
*Не бачыў ніхто ні ранішняй,*
*ні вечаровай зары.*

*Нам неставала дня.*
*І, будучы не ў гуморы,*
*Мы гаварылі зноў нервова аб вайне,*
*Казалі, што часам даводзіць да зморы*
*Трывога пякучая: будзе вайна ці не?*

*Як вечнасць, цягнулася ноч,*
*глухая і сцюдзёная,*
*Далёкая самая з усіх начэй ад вясны.*
*У сонным мазгу ўспыхвалі думкі дзённыя*
*Ды цяжка варочаліся такія ж*
*трывожныя сны.*

*Затое з палёгкай якой мы*
*сустракалі світанне!*
*Убачылі мы і зару, і першы прамень...*
*На гэтым канчалася зімняе*
*сонцастаянне, —*
*Угору пайшоў павольна, ды верна дзень.*

Верш напісаны ў 1961 годзе — за год да разгортвання Карыбскага крызісу, у час якога кіраўнікі ЗША і СССР засталіся ў кроку ад ядзернай вайны. Якраз у той момант, калі ніхто не мог прадказаць, як яно ўсё будзе...

Пасля гэтага верша ў паэта нібыта назіраецца перелом, калі трывога за планетарную будучыню (і няўпэўненасць у самой будучыні) пакрысе спускаецца на зямлю. У літаральным сэнсе — мы найбольш ведаем А. Вярцінскага як паэта грамадзянскага гучання, аднак ягонае вясковае ўслухоўванне і ўгляданне ў змену прыроднага календара, апісанне праяваў гэтай змены ёсць адным з самых цікавых вектараў яго паэзіі. Тут жа, у інтэр’еры вясны, з’яўляецца і чалавек, які адчувае. Гэта ўсё той жа апавядальнік, памятны з «Песні пра хлеб» — толькі дарослы, з досведам перажытага і, так бы мовіць, «сфармуляванага». Тут узнікаюць першыя вольныя вершы, якімі і далей будзе карыстацца А. Вярцінскі, спрабуючы адысці ад апрыклай гладка-ўдарнай сілаба-тонікі пасляваеннай пары.

*— Як хораша! А колькі, скажы, часу?*
*Яшчэ, напэўна, рана? Пяць гадзін!*
*Не можа быць! Жартуеш ты, канечне.*
*Зусім нядаўна ты ка мне прыйшоў.*
*Пагаварыць як трэба не паспелі,*
*І пяць гадзін ужо. Не, не,*
*Гадзіны дзве, не болей. Праўда?*
*— Не, дарагая, не жартую я.*
*Ды што нам да гадзінніка, скажы?*
*— Як разам мы — бягуць-бягуць гадзіны.*
*Нічым іх не спыніць і не суняць.*
*Калі цябе я днём чакаю,*
*Калі чакаю вечарам цябе,*
*На стрэлкі часта-часта паглядаю.*
*Здаецца мне: яны стаяць на месцы.*
*Тады мінуты за гадзін даўжэй,*
*І вечнасцю здаюцца мне гадзіны.*

Першы зборнік Анатоля Вярцінскага можна, магчыма, назваць класічным для беларускага шасцідзясятніцтва. У ім няма адкрытай крытыкі грамадства, але ёсць жаданне гаварыць ад першай асобы, пра свае патаемнае і глыбока адчутае — часам даволі тонка і акуратна, без лішняй рыторыкі.

Час быццам і падзывае да сябе паэта, і даволі настойліва, але той пакуль вагаецца, ці варта адгукацца на гэтыя чары...

**Ціхан Чарнякевіч**

# Святлана Алексіевіч — па-беларуску

**Прыватнае выдавецтва «Логвінаў» мае намер да траўня 2017 года выдаць серыю перакладаў на беларускую мову твораў нобелеўскага лаўрэата па літаратуры Святланы Алексіевіч.**



«Мы даўно хацелі зрабіць новыя пераклады, якія былі б без купюр, сучасныя, — адзначыў дырэктар выдавецтва Ігар Логвінаў. — І сама Святлана Алексіевіч пра гэта думала і вельмі хацела, каб кнігі выйшлі на беларускай мове. Таму пайшла нам насустрач — за правы перакладу мы не плацім».

Па словах І. Логвінава, у беларускамоўнай серыі выйдуць кнігі «У вайны не жаночы твар», «Цынкавыя хлопчыкі», «Апошнія сведкі», «Чарнобыльская малітва» і «Час сэканд-хэнд», перакладам якіх займаюцца Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Барыс Пятровіч і Андрэй Хадановіч. І. Логвінаў растлумачыў, што перакладчыкаў прапанавала выдавецтва, а С. Алексіевіч зацвердзіла іх кандыдатуры.

«Праз месяц ці паўтара перакладчыкі здадуць свае работы, затым пачнецца этап рэдактуры, карэктуры і падрыхтоўкі да друку. Пераклад вядзецца паралельна ўсіх пяці кніг. Мы хочам выпусціць іх усе разам», — сказаў выдавец.

# Пра аўтарскае права

**У Мінску і Магілёве ў межах дзейнасці Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org прайшлі семінары, прысвечаныя аўтарскаму праву.**

Пра тэорыю і практыку абароны аўтарскага права ў Беларусі распавяла юрыстка Вольга Сямашка. Семінары былі арыентаваныя на пісьменнікаў, перакладчыкаў, журналістаў і ўсіх, хто так ці інакш сутыкаецца з пытаннямі аўтарскага права.

Каардынатар Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org Яраслаў Іванюк адзначыў, што варта правесці цыкл такіх семінараў, каб прапагандаваць тэму аўтарскага права сярод людзей, зацікаўленых у гэтым пытанні.

Вольга Сямашка зрабіла кароткія ўводзіны ў гісторыю ўзнікнення аўтарскага права, параўнала беларускае і еўрапейскае заканадаўства ў дадзенай сферы, прывяла прыклады беларускіх судовых спраў, распавяла пра практыку абароны аўтарскага права, уключна з інтэрнэтам.

У другой частцы семінара адбыўся майстар-клас, падчас якога ўдзельнікі спрабавалі скласці дамову паміж пісьменнікам і выдавецтвам, якая максімальна абароніць аўтарскія правы. Па выніках аўтары ўпэўніліся: падчас заключэння дамовы ўсё залежыць ад іх (дакумент гарантавана ахоўвае аўтарскае права, калі ў ім дакладна прапісаныя ўсе ўмовы і пажаданні, увага звяртаецца на кожны з пунктаў).

Калі ж пісьмовая дамова паміж аўтарам і выдавецтвам не падпісваецца, па беларускім заканадаўстве ўсе аўтарскія правы належаць аўтару, бо па факце перадачы правоў не адбываецца.

«Юрыст, як медык, павінен рэагаваць на ўсе запыты грамадскасці. Мне прыемна, што запыт паступіў ад Саюза беларускіх пісьменнікаў, вельмі паважанай арганізацыі, дзе вельмі шмат таленавітых аўтараў, у якіх, аказваецца, ёсць праблемы з аўтарскім правам. Па пытаннях, якія паступаюць, я бачу, што такія семінары эфектыўныя, — пракаментавала Вольга Сямашка свой удзел у праекце. — Чым больш чалавеку гаварыць пра нешта, тым хутчэй ён падключыцца. Калі маўчаць, то сітуацыя з аўтарскім правам у Беларусі будзе, як і раней».

«Мы лічым, што свядомасць аўтарскага права, аховы інтэлектуальнай уласнасці ёсць адносна невялікая ў Беларусі», — падзяліўся ўласным меркаваннем спадар Яраслаў Іванюк. — Лічым, варта гэтую тэму прасоўваць сярод беларускіх аўтараў. Каб, па-першае, заключаліся дамовы паміж аўтарам і выдавецтвам, а па-другое — каб дамовы былі двухбаковыя карысныя, а не толькі давалі перавагу выдавецтву. Выдавецтва — дзяржаўнае, незалежнае — гэта бюракратычная машына. Аўтар — адзін чалавек, трэба клапаціцца, каб яго правы былі найбольш абароненыя. Калі нехта парушае аўтарскае права — ён злодзей, і пра гэта трэба казаць прамым тэкстам».

Сустрэчы па аўтарскіх правах працягнуцца ў бліжэйшы час у іншых рэгіёнах Беларусі. Нагадаем, што на сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў ёсць адпаведны раздзел «Аўтару аб праве», у якім можна знайсці адказы на пытанні, датычныя дзеяння аўтарскага права ў Беларусі.

**Аляксандра Дварэцкая**

# «Вечны ў слове»

**У Горадні прэзентавалі кнігу ўспамінаў пра Генадзя Бураўкіна «Перадусім Беларусь». Упершыню ў адной кнізе надрукавалі апошнія гутаркі з паэтам, яго ўласнае падсумаванне жыцця, творчасці і таксама апошні запавет нашчадкам.**

«Берагчы Беларусь! Працягваць тое, што рабілі і не дарабілі яе лепшыя сыны. І спадзявацца, што ўсе мы — і тыя, што былі, і тыя, што будуць, і тыя, што ёсць, — вечныя: вечныя ў нашай мове, вечныя ў нашай гісторыі, вечныя ў беларускай зямлі, у беларускім слове», — такія словы пакінуў перад смерцю Г. Бураўкін, беларускі паэт, дзяржаўны і грамадскі дзеяч.

Г. Бураўкін цягам жыцця займаў шмат высокіх пасадаў, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, прадстаўніком Беларусі пры ААН, намеснікам міністра культуры і друку, аднак да канца ён заставаўся паэтам.

Паводле Сяргея Шапрана, без падтрымкія Генадзя Мікалаевіча ён бы не адважыўся завяршыць «Гісторыю жыцця Васіля Быкава». Апошнія ўспаміны, якія задакументаваў даследчык перад смерцю паэта, сталі асновай кнігі «Перадусім Беларусь».

«Каб нехта не стаў апошнім беларускім паэтам, было ці не галоўным болем гэтага чалавека. Ён рабіў, што мог. Ствараў нацыянальнае тэлебачанне. Вельмі перажываў тое, што адбылося ў сярэдзіне 90-х гадоў, калі пасля адраджэння пачаўся адкат. Русіфікацыя ішла такімі тэмпамі, як ніколі не было нават у савецкія часы», — распавёў на сустрэчы Уладзімір Някляеў.

Міхась Скобла прыгадаў выпадак, калі ў 1998-м годзе Аляксандр Лукашэнка ладзіў адзіную ў гісторыі свайго кіравання сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі:

«Я быў на гэтай сустрэчы і памятаю, як Бураўкін цэлую гадзіну даказваў Лукашэнку, якой павінна быць Беларусь, што мова павінна быць беларуская. Паўсюль, паколькі яна дзяржаўная. Заходзіў і злева і справа. На ўсялякія хітрыкі ішоў. Але было бачна, які гэта непрыступны мур. Сцяна, высокая і глыбока ўкапаная. Выслухаўшы ўсё гэта, Лукашэнка сказаў: «Ніякай Вам беларускай Беларусі не будзе! Мы за саюз з Расіяй. Мы за дзвюхмоўе». Пасля такіх слоў можна было б упасці ў адчай і беспрасветны смутак. Скласці рукі і нічога не рабіць, але Бураўкін рабіў і зрабіў. І з'езд за незалежнасць правёў. Трэба памятаць, што для Г. Бураўкіна перад усім была Беларусь. Так, як называецца кніга пра яго. І тое, што ён быў першым прадстаўніком Беларусі ў ААН, — гэта вялікае шчасце для маладой краіны. Яе прадстаўляў, па-першае, вопыты дыпламат, па-другое, патрыёт».

Як узгадаў М. Скобла, калі адбывалася першае паседжанне, патрэбен быў сцяг, які трэба было вывесіць на флагштоках перад ААН. Не ведаючы памераў і якім ён павінен быць, у апошнюю хвіліну, уначы, Генадзь Бураўкін разам з жонкай Юліяй Якаўлеўнай са знойдзеных недзе кавалкаў тканіны самі шылі бел-чырвона-белы сцяг. І на наступную раніцу ён лунаў сярод сцягоў іншых краін.

Кніга «Перадусім Беларусь» стала своеасаблівым помнікам Генадзю Бураўкіну, які да канца жыцця шкадаваў, што не ўсё паспеў зрабіць, а тое, што зроблена, магло быць лепшым і цікавейшым. Гэта адзіны выпадак у беларускай літаратуры, калі паэт сам папрасіў запісаць яго ўспаміны, ведаючы, што жыць яму засталося няшмат. Як прыгадаў Сяргей Шапран, яго вельмі хвалявала, што будзе пасля смерці: «Падчас маёй апошняй гутаркі з Рыгорам Барадуліным ён сказаў мне, што смерці няма. І калі я паўтарыў гэта Бураўкіну, ён адказаў мне: «Дзякуй»».

**Паводле «Белсата»**




# «Пяцісотгоднасць» у Гомелі

**У межах кампаніі «Пяцісотгоднасць», арганізаванай Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», адбылася сустрэча слухачоў гомельскай філіі курсаў «Мова Нанова» з пісьменнікамі, прадстаўнікамі выданняў «Гарбузік» і «Дзеяслоў».**

Гомель наведалі рэдактары літаратурна-забаўляльнага альманаха для дзетак «Гарбузік» Паліна Грынчанка і Вольга Мазурава, а таксама паэт, адказны сакратар часопіса «Дзеяслоў» Анатоль Івашчанка. Да гасцей далучыўся знакаміты мясцовы бард Андрэй Мельнікаў.

Гаспадары, выкладчыкі курсаў «Мова Нанова» Юлія Сівец і Мікола Бянько зрабілі экскурс у гісторыю друкаваных выданняў на беларускай мове, згадаўшы першыя беларускамоўныя часопісы і газеты, у тым ліку — для дзетак.

Паліна Грынчанка і Вольга Мазурава распавялі пра ідэю стварэння альманаха «Гарбузік», а таксама правялі майстар-клас па стварэнні і разгадванні рэбусаў.

Гледачы пазнаёміліся з некаторымі тэкстамі свежага «Гарбузіка»: былі зачытаныя лімерыкі Эдварда Ліра ў перакладзе Макса Шчура — сёлетняга пераможцы прэміі імя Ежы Гедройца, а таксама жахалкі Андрэя Хадановіча. Сярод віртуальных гасцей імпрэзы быў гомельскі літаратар Сяргей Балахонаў, лімерыкі якога таксама прагучалі.

Анатоль Івашчанка распавёў пра новы нумар «Дзеяслова» і пазнаёміў слухачоў курсаў «Мова Нанова» са сваімі новымі вершамі ды перакладамі расійскай рок-паэзіі на беларускую мову.

Цягам сустрэчы самыя актыўныя ўдзельнікі мелі магчымасць атрымаць прызы.

**Прэс-служба СБП**

# Трэці том дзённікаў Барадуліна

**У серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны: Людзі Беларусі» пабачыў свет трэці выпуск дзённікаў і запісаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.**

Нататкі, якія склалі кнігу, былі створаныя ў 1979–1982 гадах. Трэці выпуск паказвае Рыгора Барадуліна ў вельмі «загружаны» для яго час, калі ён шмат працаваў над вершамі, артыкуламі, перакладамі, рэдагаваў і рэцэнзаваў новыя кнігі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», вёў перапіску з аўтарамі з усяго СССР, быў пастаянным членам літаратарскіх дэлегацыяў, вядоўцам і ўдзельнікам сотняў літаратурных вечарынаў, канферэнцый і з'ездаў. За гэтыя чатыры гады Рыгор Іванавіч пабываў у працяглых паездках на Кубу, у Балгарыю, Італію, Чэхаславакію, двойчы пабываў на Далёкім Усходзе. Акрамя падарожных уражанняў, а таксама працоўных і побытавых зацемак, кнігу дапаўняюць эпіграмы і вершы, якія нідзе раней не друкаваліся.

Істотным дадаткам да тома з'яўляюцца рэдкія фотаматэрыялы з сям'і паэта: здымкі, малюнкі, копіі рукапісаў. У прадмове ўкладальніца дзённікаў Наталля Давыдзенка паведамляе, што амаль падрыхтаваны да выдання і чацвёрты выпуск «Дзённікаў і запісаў». Папярэднія два пабачылі свет у 2015 годзе.

**Прэс-служба СБП**

# Апокрыф Багдановіча

## Да 125-годдзя з дня нараджэння паэта

Уладзімір МАРОЗ

**Шчаслівы той творца, які магутнасцю свайго таленту змог узняць вядомае і відавочнае для ўсіх да ўзроўню сімвала радзімы. Згадайма: зубр — Мікола Гусоўскі («Песня пра зубра»), бусел — Уладзімір Караткевіч («Зямля пад белымі крыламі»). Максім Багдановіч — «хросны бацька» яшчэ аднаго сімвала — васілька.**

Кветачка гэтая як архетып, як міфалагема Бацькаўшчыны шырока выяўлена ў народных песнях, паданнях, вершах і карцінах. Але толькі Багдановіч здолеў зрабіць вобраз агульнанацыянальным: «І тчэ, забыўшыся, рука // Заміж персідскага узора, // Цвяток радзімы васілька». Гэтыя класічныя радкі верша, а потым і песні, ведаюць усе. Дарэчы, Міхась Стральцоў у сваёй «Загадцы Багдановіча» сімвалічна падказвае, што, называючы Беларусь «радзімай васілька», Багдановіч хацеў сказаць: гэта тая зямля, якая нараджае паэтаў. Пагодзімся з гэтым і мы, згадаўшы вядомае выслоўе «Беларусы — нацыя паэтаў».

Як ішоў Багдановіч да свайго рэальнага, адначасна і метафізічнага, адкрыцця? Мо яшчэ з самых дзіцячых гадоў захавала памяць сціплы букецік някідкіх, але прыгожых кветачак? Бо толькі з запісаў народных песняў, без канкрэтнага зрокавага вобраза, няпроста ўзняцца да ўзроўню знакавасці. Як немагчыма ўявіць васілёк, гледзячы са стромкага адхону вялікай рускай ракі на неабсяжныя заволжскія далягляды ў Ніжнім Ноўгарадзе ці Яраслаўлі. Бо васілёк — кветка інтымная, кветка свойскіх беларускіх палёў, якраз у Беларусі яна выяўляецца найбольш арганічна.

Ведаў, памятаў Максім васілёк з дзяцінства. Таму так узрадаваўся ў сваю першую паездку ў Крым, калі спаткаў гэтую кветку: «Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае // Наш родны, забыты ў цяні васілёк. // «Здароў будзь, зямляча!» Чуць бачны ў даліне, // Панура, нявесела шэпча ён мне: // «Ўспамянем, мой дружа, ў багатай чужыне // Аб беднай, далёкай сваёй старане» («На чужыне», 1908).

І ўсё ж, думаецца, васілёк не перарос бы ў Багдановіча ў сімвал Бацькаўшчыны, каб не яго спатканне з радзімай летам 1911 года, пасля пятнаццацігадовага расстання. Тут, у Вільні, у рэдакцыі «Нашай нівы», у зборы Івана Луцкевіча ён убачыў слуцкія паясы з васільком, што і вылілася потым у верш («Слуцкія ткачыхі», 1912). Але, як падаецца, вобраз, сімвал выспеў у паэта напоўніцу пасля гасцявання на Маладзечаншчыне, у Ракуцёўшчыне. Нішто тут не перашкаджала паэту быць сам-насам з мілым сэрцу наваколлем, неад'емнай часцінкай якога быў і васілёк.

Ён так заглыбіўся ў вобраз, што аднаго верша стала недастаткова. У 1913 годзе з'яўляецца «Апокрыф», твор, які стаіць пападзе багдановічаўскай прозы, таксама адметнай з'явы ў беларускай літаратуры. Тут раскрыта глыбіннасць васілька як вобраза, абгрунтавана прысутнасць гэтай на першы погляд непатрэбнай сіняй кветкі на зямлі, паказаны «суадносіны» яе з душою беларуса. Багдановіч выказаў свой погляд на глыбінную сутнасць мастацтва, на наканаванасць мастака. Адначасна «сінявокі васілёк» стаў сімвалам нацыянальнага адраджэння, паэтычнай кветкай Беларусі.



У «Апокрыфе» (апокрыф — некананічнае евангельскае паданне) апавядаецца, як хадзіў па беларускай зямлі Ісус Хрыстос са святымі Пётрам і Юр'ем. Было тое ў час жніва, калі ўсе людзі рупіліся аб хлебе сваім надзённым. І толькі музыка нічога не рабіў, і было сорамна яму. Ды Хрыстос суцешыў песняра: «Штодзённымі клопатамі поўніцца жыццё людское. Але калі зварухнецца душа чалавека, — толькі песня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песні свае». Яму запярэчыў Пётра, што жыццё чалавека гаротнае, што не да песень тут, а калі нават і песня, то апроч красы павінен быць у ёй спажытак чалавеку. «І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак для душы». І прывёў у прыклад васількі, што ўзраслі паміж збожжа. Здаецца, што і хлеб адбіраюць гэтыя сінія кветкі, але гаспадар не вырве іх, бо з маленства прыгажосць іх прыйшлася да душы. То няхай і растуць, радуюць сэрца. «Я ж кажу вам: добра быць коласам, але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў». А тут і песня жніўная ляцела над зямлёй, дзе былі словы: «няма лепш цвяточка над васілёчка».



Паўстае натуральнае пытанне: чаму якраз форму апокрыфа выбраў Багдановіч для сцвярджэння вобраза васілька як адбітка душы народа, для сваіх глыбінных разваг і высноў? Назваць Максіма Кніжніка хрысціянскім пісьменнікам у глыбокім сэнсе гэтага слова ўсё ж не выпадае. Ёсць у яго вершы «Цемень» важныя згадкі: «Але вось цераз цемень маланка блішчыць, // Асвячае мне вобраз Хрыста... Яго крыж... // Ажываеш, здаецца, душою гарыш. // Але толькі чаму ж так малы гэты час?! // Зноў навокал цемень. Свет зірнуў і пагас. // Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста. // Над зямлёю імгла, у душы пустата». Чым заканчваюцца яны? Безвыходнасцю, якая зразумелая нам у звязку з хваробаю паэта, але якой не можа быць для хрысціяніна па азначэнні. Тым не менш, выдатна ведаў і разумеў паэт, якая кніга ёсць найгалоўнаю для ўсіх хрысціян — Біблія. Таму своеасабліва і «заручыўся» евангельскай падтрымкай, нават форму запісу паўтарыў такую ж (вершы ў раздзелах пазначаны лічбамі).

А можа, пафантазіруем, Максім ведаў і такое паданне? Звязанае яно з гісторыяй здабыцця ў чацвёртым стагоддзі Святога крыжа царыцай Аленай, маці імператара Канстанціна. Сам гэты факт вядомы, але цікава іншае. Чытаючы захапляльны раман «Авантуры майго жыцця» Саламеі Пільштыновай (Русецкай), нашай вядомай лекаркі і вандроўніцы з XVIII стагоддзя, якая родам з Наваградчыны, натрапіў на прыпавесць, блізкую духам Багдановічаму «Апокрыфу». «Гэты святы крыж колькі соцен гадоў у зямлі ляжаў, у вялікай кучы гною і смецця, што з усяго горада габрэі выкідвалі і вывозілі, але святая Кроў, такая слічная і чыстая на крыжы засталася; адна зёлка, што завецца па-русінску васілёк, каля крыжа расла і над ім нахілялася, таму ў праваслаўных цэрквах такі звычай, калі свянцонай вадой крэпяць, дык васільком».

Уявіце сабе: толькі адна з кветак не забылася на пакуты Хрыстовы! Сапраўды, васілёк — кветка боская. У вянках, якімі ўпрыгожваюць беларусы свае крыжы-абярэгі на ростанях, пачэснае месца займае васілёк. А сам крыж — гэта знак любові Гасподняй, знак Яго дабрадаці, што разліта паўсюль. Згадайма таксама, што васілёк мае сакральную ролю і ў шлюбным вянку маладой. Няхай і не ведаў Багдановіч пра васілёк каля крыжа Гасподняга, але ў «Апокрыфе» пайшоў адзіна правільным шляхам...

Папраўдзе, калі ў свой час прачытаў «Апокрыф» Багдановіча, усё вышэйзгаданае асэнсаванне прыйшло не адразу. Найперш запалі ў душу заключныя радкі твора: «І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым, мяккім пылу дарогі сляды. // Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх. // Амін». Чаму якраз яны? Таму што сам пакутлівa думаў аб пануючай на свеце бездухоўнасці. Бо без духоўнага адраджэння не будзе і нацыянальнага. Гэта для мяне бясспрэчная ісціна. Адразу ж у той далёкі ўжо час і верш напісаўся, дзе эпіграфам былі згаданыя радкі Багдановіча.

### Сляды

*Ішоў чалавек па дарозе*
*У вечнай прыкметнай трывозе,*
*Як быццам чагосьці шукаў...*
*І я хваляваўся пачаў.*
*І я да яго далучыўся —*
*Да долу пагляд апусціўся.*
*Шукаю адчайна сляды*
*Таго, хто пазбавіць бяды.*
*Я ведаю пэўна варункі,*
*Што тут Ён хадзіў з паратункам.*
*Заглядваю ў твары людзей,*
*Каб конча не страціць надзей.*
*Дарэмна — пабляклыя твары...*
*А з цемры вылазяць пачвары,*
*Рагочуць — хадзі і гукай,*
*Цяпер гэта наш ужо край.*
*Туманіцца вочы ў адчаі —*
*Дарэмна рупліва шукаю.*
*Няма — затапталі даўно,*
*І знаку нідзе не відно.*
*Ой, гора вялікае, людзі,*
*Грахі нашы ціснуць на грудзі.*
*Святыя шукайма сляды,*
*Інакш не пазбыцца бяды.*

«Апокрыф» Максіма Багдановіча, усведамляў ён гэта ці не, даў пачатак хрысціянскаму накірунку ў беларускай літаратуры. Не толькі адлюстраванаму, дзе ёсць хрысціянскія матывы, вобразы, рэфлексіі, але і прамому, дзе ёсць форма і непасрэдная адсылка да Евангелля, евангельскіх падзей (хай сабе і апакрыфічных).

Што яшчэ можна згадаць? «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзіміра Караткевіча, раман, якому пісьменнік даў падзагаловак «Евангелле ад Іуды». Хоць тут больш народнай гістарычнай стыхіі, чым евангельскіх алюзій. Глыбінна, да прыкладу, асэнсаваць кантрапункт Новага Запавету — дыялог Ісуса Хрыста з Пілатам, беларуская літаратура яшчэ не здолела. У рускай літаратуры ёсць Фёдар Дастаеўскі з «Легендай аб вялікім інквізітары» ў рамане «Браты Карамазавы», Міхаіл Булгакаў з «Майстрам і Маргарытай». Чынгіз Айтматаў у рамане «Плаха» паспрабаваў развязаць гэты кантрапункт. А ў нашай літаратуры вялікі Багдановіч даў знак амаль стагоддзе таму назад...

І ўрок Багдановічавага васілька з «Апокрыфа» мы засвоілі добра. Высока трымаем сімвал Бацькаўшчыны. Згадайма апошні па часе прыклад. У творы Віктара Казько «Сказ пра ката, каторы смяяўся» тры кусцікі васількоў паўстаюць пасярэдзіне нябеснага круга ў містычнай (язычніцкай, хрысціянскай?) відзежы героя. Тут жа і тры неўміручыя радкі Багдановіча. І далей: «Гэта быў след. І хто б яго не зрабіў, на якіх сузор'ях, след гэты быў цалкам зямным. І не проста зямны — тубыльскі. Толькі тубылец мог падкінуць яму такую сціплую, знакавую кветку гэтага куту, гэтага краю. Ключ, ключык яго духу, душы: параднёная назаўсёды з ёй кветка, што адначасова і пустазелле ў жыцце. Але якое пустазелле, калі над ім схіляе галаву колас, калі блакіт яго і ў небе, і ў задуменных вачах вады азёр, рэк, старыц на зямлі, а цяпер во прыкмечаны, адзначаны і сусветам, космасам, ад якога чалавек, гэта яго пшанічнае поле атрымалі пасланне, шыфроўку з букецікаў васількоў. І ён усцешыўся, ласкава ўсміхнуўся васількам. І васількі, здаецца, таксама ўсміхнуліся яму ў адказ».

Жыве, жыве Багдановічаў васілёк! Бо тут вобраз душы народа, якая прагне не толькі хлеба надзённага, але і песняў. Вобраз высокі, адрасаваны ў неба. Як дабрадаць Гасподняя разліта паўсюдь, толькі май свядомае жаданне і духоўную моцу дастаць яе... Так і васількі, знакі Божай любові і дабрадаці, раскіданы паўсюдна па жытнёвых нівах нашай Беларусі. Толькі трэба расплюшчыць вочы і адкрыць душу, каб убачыць і зразумець гэтую глыбокую прыгажосць і далучыцца...

І дзякуй Максіму Багдановічу, што дапамагае нам у гэтым.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (123) | 25 лістапада 2016 | № 45 (510) Новы Час

# Як быць паэткай у сучаснай Беларусі?

**Дыскусія «Забіць у сабе анёла, або Як быць паэткай у сучаснай Беларусі» з удзелам Валянціны Аксак, Вольгі Гапеевай і Насты Кудасавай прайшла ў літаратурным музеі імя Петруся Броўкі.**



Фота Зарыны Кандрацьевай

Мадэравала сустрэчу паэтка і перакладчыца Юля Цімафеева. Дыскусія адбылася пры падтрымцы культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!» і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У віктарыянскай Англіі існаваў парадак, пры якім жанчына мусіла быць «angel in the house» — анёлам у доме. У адным са сваіх эсэ пісьменніца Вірджынія Вулф распавяла, як ёй давялося забіць у сабе гэтага самага анёла, каб стаць творчай асобай. Ці забіваюць у сабе анёлаў беларускія паэткі, высвятляла Юля Цімафеева.

Дыскусія складалася з двух блокаў: у першым аўтаркі адказвалі на пытанні, у другім чыталі вершы. Прадстаўляем найбольш яркія моманты размовы.

### Паэтка ці паэт?

Юля Цімафеева: — Калі казаць пра жаночую паэзію — гэты панятак у розных вуснах мае рознае значэнне. Прыкладам, крытык Леанід Галубовіч неяк у сваім артыкуле пахваліў беларускіх паэтак, якія пачалі «мужнець» — пісаць як мужчыны, а значыць, лепей. А вось калі гаворыць феміністкія крытыкі — гэта ўжо іншае, бо яны робяць акцэнт на жаночым досведзе. Як вы сябе адчуваеце ў межах жаночай літаратуры? Што яна ў вас забірае і што дае? Ці звяртаеце вы ўвогуле ўвагу на гэты панятак — «жаночая літаратура»?

Вольга Гапеева: — Да прапановы паўдзельнічаць маім творам у зборніку жаночай паэзіі я б паставілася дваіста. Я ведаю, што ў грамадстве такі зборнік будзе ўспрымацца хутчэй за ўсё як штосьці пра птушачак, качанятак, кветачкі, несур'ёзнае, другаснае. З гэтага пункту гледжання мне б не хацелася ў такім удзельнічаць, бо ацэнка будзе ісці са знакам «мінус» у патрыярхатным грамадстве мужчынскай літаратуры. Магу, канечне, спадзявацца, што знойдзецца крытык, які будзе стаяць на феміністкіх пазіцыях, паставіцца больш гендарна чуллліва, зможа прачытаць самі творы і не будзе хапацца за назву. Палічыць, што назва тычыцца толькі нейкай біялагічнай прыналежнасці аўтарак да жаночага полу. Але адзін адсотак на тое, што такі крытык з'явіцца. Можна рызыкнуць і пачаць норму расхістваць. Вось выдаць, прыкладам, зборнік «Літаратура XX ст.» і ўнесці туды толькі жанчын, нічога нікому не тлумачачы. Проста паглядзець, якая будзе рэакцыя. Бо існуе шмат зборнікаў, дзе адны аўтары-мужчыны, і ніхто не задаецца пытаннямі на гэты конт. Канечне, выход зіў зборнікі «Жанчыны выходзяць з-пад кантролю» і «Пакахай мяне, калі ласка», і яны так ці інакш былі маркіраваныя як зборнікі жаночай прозы. Таму для мяне заўсёды ёсць рызыка трапіць у ружовае гета. Але калі б у грамадстве былі створаны адпаведныя інстытуты феміністкай крытыкі, выдавецтвы, якія б ведалі, як з гэтым працаваць, я б не баялася быць уключанай у такія зборнікі.

Валянціна Аксак: — Падаецца, што панятак «жаночая паэзія» ўзнік зусім нядаўна. Першая наша беларуская паэтка Цётка — хто яе творы называе жаночай паэзіяй? Ці Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш. Я думаю, што канон літаратуры створаны за часы, калі пачаў актыўна культывавацца мужчынскі шавінізм у нашым грамадстве. Пакуль у культуры былі людзі, якія трымаліся традыцыі старой інтэлігенцкай шляхетнай школы — гэтых панятакаў не было. А калі на троны пайшлі людзі з гразі ў князі, яны і прынеслі гэтыя каноны. Мне здаецца, гэта якраз прыкмета росквіту безкультур'я 70-х гадоў. Потым гэта працягнулася і, на жаль, квітнее. Ад маладзейшых калегаў, якія ў нас ужо знаныя і аўтарытэтныя, даводзіцца таксама чуць пра гэтыя каноны, і гэта сведчыць толькі пра іх узровень культуры. Ні пра якую эстэтыку гаворкі няма. Але мы не мусім ім падпарадкоўвацца. Я не адношу сябе да жаночай паэзіі. Крыўдзіцца на такія сцвярджэнні я ўжо даўно развучылася, бо крыўда прыніжае. Я гэтага не заўважаю.

Наста Кудасава: — Пагаджуся са спадарыняй Валянцінай. Мне ўсё адно. Чаму не кажуць пра мужчынскую літаратуру? Жаночае — толькі калі жанчына напісала? Я не тое што грэбую гэтымі тэрмінамі, але калі мы сустракаемся з калегамі-паэтамі, мы не акцэнтуем увагі на тым, што мы мужчыны і жанчыны — гэта стасункі роўных універсумаў. Мы не падкрэсліваем жаноцкае і мужчынскае ў звычайным жыцці. Чаму гэта павінна падкрэслівацца ў паэзіі? Я не супраць, калі гэты тэрмін важны для навукоўцаў. Калі ў маёй паэзіі бачны мой жаночы досвед — добра. Але мая паэзія — мой выключны дыялог з Богам, і хто як яго назаве і акрэсліць — няважна. На мяне яшчэ ў школе вельмі паўплывала Цвятаева, і хай яна сябе лічыла паэтам — чаму не? У дзяцінстве любіла Яўгенію Янішчыц, але ўсё адно неяк для сябе асабліва не вызначала — жанчына, мужчына.

Вольга Гапеева: — Маё літаратурнае фармаванне ішло пад уздзеяннем аўтараў-мужчын. З жанчынамі-аўтаркамі пазнаёмілася тады, калі распачала самастойныя пошукі, і гэта было пэўнае адкрыццё. Тады ж для сябе і адкрыла гэтую перарваную традыцыю, пра якую пішуць усе феміністкі — даследчыкі літаратуры: складанасць яшчэ і ў тым, што кожны раз жанчынам-аўтаркам трэба прыходзіць і нанова адкрываць літаратурную прастору. Гэта праблема, з якой не сутыкаюцца мужчыны. Уся літаратурная традыцыя перад мужчынамі, ёсць на каго абапірацца, усё прапісана. Для жанчын тут трошкі вакуум, і табе здаецца, што ты кожны раз — першая. І што я, можа, хачу быць чалавекам бясполым у некаторых сітуацыях, а на мяне глядзяць як на жанчыну, не хочуць успрымаць як той універсум, пра які казала Наста.

### Забітыя анёлы

Наста Кудасава: — Мой анёл сам забіўся. Даводзіцца ўвесь час змагацца, каб не забіць да канца, ажыўляць. Я вельмі злы чалавек, калі пішу, мяне лепш не чапаць. Разумею віну перад дзецьмі, калі яны чакаюць увагі. Але пісаць вершы і заставацца сціплай, пяшчотнай, спагадлівай — я не ведаю, як гэта магчыма, не мой выпадак. Але раздражняе, што бачаць знешнасць, вобраз, бо гэта не заўсёды адпавядае таму, што ўнутры. Хай бачаць анёла, а я буду жыць з дэманамі.

Вольга Гапеева: — Можна перанесці тое, пра што казала Вірджынія Вулф, на кожную і кожнага з нас. Але я лічу, што любы творчы чалавек, калі стварае штосьці шчырае, — гэта не зусім тое, чаго ад яго чакаюць у соцыуме. Ва ўсіх нас ёсць ролі, і роля паэта ці паэткі вымагае нетыповых паводзінаў звычайнага чалавека. І таму не тое што даводзіцца забіваць — не забіваць нельга. Бо калі будзеш думаць, хто што падумае, — нічога не атрымаецца.

Валянціна Аксак: — Я люблю свайго анёла. Дэман — анёл, якога не любяць. Але словы пра анёла сказала жанчына-празаік, а проза і паэзія — два розныя сусветы. Янка Брыль параўноўваў празаіка з працавітым аратым, а паэта — з жаваранкам, які спявае над ім у гэты час. У мяне вершы здараюцца, і мне ніколі нішто не замінае. Цяпер я засталася з адным мужчынам дома, а жыла з трыма. Адзін анёл на трох мужчын. Але гэта мне не замінала — гэта як дождж, яго не адменіш. Трапляеш у такі стан, што тут зробіш...

### Цялеснасць

Валянціна Аксак: — Ніколі не зважала, што падумаюць пра мае вершы. Бо так заканчваецца творчая свабода. Калі самацэнзура стараецца падбірацца да горла — я адкідвала яе. Леанід Галубовіч прыгваздзіў мяне — маўляў, я занадта аголеная, нясу адказнасць за пазнавальнасць герояў сваіх твораў. Нашыя з вамі такія сферы пачынаюць успрымацца як аўтабіяграфія. Але не бойцеся быць шчырымі — гэта ратуе. У іншых жанрах, можа, важна, пра што пішаш. У паэзіі ніякага значэння не мае, тут толькі адно пытанне: як напісана. А пра што — пытанне прозы ці кінематографа, тут тэма мае значэнне.

Вольга Гапеева: — Калі я пішу, я думаю толькі пра мову і сябе, не пра чытачоў. А пра цела можна пісаць рознымі шляхамі, не згадваючы яго. Ёсць інтэрпрэтацыя, і я, робячы верш бачным у прасторы, пагаджаюся на пэўную рызыку і мушу быць гатовая, што пачую розныя меркаванні пра залішнюю агаленасць і шчырасць. І так, галоўная праблема — атаясамленне цябе з галоўнай гераіняй верша.

Наста Кудасава: — Не разумею, як думаць, хто што падумае пра мае вершы. Пра цела я не пішу, але для мяне само слова — эратычнае. І гэта не значыць, што я пішу пра цела і сцёгны. У Веры Паўлавай ёсць «легла с недописаными стихами во рту, не могла целоваться». Слова на языку — гэта эратычна, і напісанне верша — эротыка, але трэба пісаць так, каб пра гэта ніхто не здагадаўся, каб адчуў на скуры ці ў жываце. Верш — гэта дотык.

### Публічнасць

Валянціна Аксак: — Публічнасць любому чалавеку, які склаў рукапіс, забяспечваюць выдаўцы. У мяне выступаў было мала, не магу сказаць, падабаецца ці не, — я вельмі доўга адмаўлялася. Для мяне гэта кожны раз стрэс і больш нічога.

Наста Кудасава: — Раней не любіла выступаць, але нешта змянілася. Раней хварэла пасля выступаў, ляжала з тэмпературай, але нядаўна зразумела: калі не пішаш у стол — важна паглядзець людзям, якія прыйшлі, у вочы. Як і любому чалавеку, хочацца выйсці ў людзі, адчуць родныя душы. Ну, тут ужо і ўзрост: хочацца зразумець, навошта я ўсё гэта раблю. Але я не ведаю, што такое быць знакамітай, ведаюць мяне ці не.

Вольга Гапеева: — Пісаць і выдаваць кніжкі — адно, але творчаму чалавеку патрэбны фідбэк: паэты — крыху дзеці, ім трэба, каб іх пахвалілі. Прыемна, калі пляскаюць, калі вершы цытуюцца — жыццё пражытае не дарма. Але чытаць вершы вельмі стрэсава, бо гэты працэс сапраўды можна параўнаць з раздзяваннем. Гэта нейкі шаманскі сеанс магіі — я ўваходжу ў стан, пасля якога і трэсці можа, бо ўкладаеш энергетыку. У такія моманты з цябе шмат сыходзіць. Паэзія — хутчэй аддаванне.

### Ці ёсць будучыня ў паэзіі?

Вольга Гапеева: — Крыўдна за паэтаў, паэзію. Стаўленне бачнае ў палітыцы выдавецтваў, перакладчыкаў: яны хутчэй бяруцца за прозу. Неяк на перакладчыцкай майстэрні я пачула ад адной перакладчыцы, што яна б ніколі не змагла перакласці верш, бо для яе занадта шмат працы ў занадта маленькім кавалку. А для мяне ж верш — як дыямент, з якім ты працуеш і не думаеш нават, што ён займае мала месца. Таму я заўсёды спрабую зрабіць паэзію больш бачнай. Праўда, якія сродкі для гэтага патрэбныя, я не ведаю. Час цяпер больш прагматычны.

Наста Кудасава: — Я пагаджуся з Эклезіястам: што было, тое і будзе. Заўсёды вельмі мала людзей чытала паэзію, але яна заўсёды была жыццёва неабходная. А тое, што мала людзей чытала, — гэта не для ўсіх. Проста трэба збірацца самім, не зважаючы на выдавецтвы, і несці паэзію ў масы.

Валянціна Аксак: — Аптыміст — дрэнна інфармаваны песіміст. Не пры нас першых хаваюць і кнігі, і паэзію. Але хаўтуры заўчасныя. Прырода мудрая, яна не толькі правільных людзей стварае. Заўсёды будуць выключэнні ў выглядзе паэтаў.

Юля Цімафеева: — Найперш хацелася даць слова паэткам, якія (у адрозненне ад паэтаў) не гавораць на такія тэмы ў СМІ, у якіх мала бяруць інтэрв'ю — каб яны выказаліся і яшчэ больш задумаліся, сфармулявалі для сябе тое, пра што ты сама ў сябе не пытаешся часам. А па-другое, хацелася, каб яны пачулі адна адну. У нас не так шмат імпрэзаў, дзе паэткі гавораць з паэткамі, у асноўным паэткі разбаўляюць нейкія мужчынскія калектывы. Таму я задаволеная дыскусіяй. Розныя паэткі, розныя меркаванні, было вельмі цікава...

**Аляксандра Дварэцкая**

# Браце мой кастрычнік



Васіль ЗУЁНАК

***

*Адлятаюць дрэвы-птушкі,*
*Аблятаюць,*
*Залатое — на падушкі —*
*Пер'е пакідаюць.*

*А каму падушкі тыя?*
*Зоркам зімняй ночы:*
*Спіце, сніце залатыя*
*Сны, нябёсаў вочы...*

***

*Вецер ірве лістоту,*
*Яблыню хіліць ніц,*
*Неба нясе самоту*
*Хмарамі без навальніц.*

*Верасня цвет верасовы*
*Мёдна вясну нагадаў,*
*Лета замкнуў на засовы, —*
*Службу кастрычніку здаў.*

*Лён вытрасае кастрыцу,*
*Кужалю сняцца шаўкі:*
*Восень лагодзіць скарыцца, —*
*З ёй ваяваць не з рукі.*

*Бо як не сёння, дык заўтра*
*Песня нахлыне з нябёс, —*
*Вырай той песні аўтар,*
*Вырай, мой спраўджаны лёс.*

*Вырай, што й сам не знае*
*Ўсіх незямных высноў:*
*Ці ён навек адлятае,*
*Ці, можа, вернецца зноў?*

*Што ж, браце мой кастрычнік,*
*Я аб адным папрашу:*
*На ветры, для восені звычным,*
*Не ледзяні душу.*

*А даляглядзаімглёны*
*Не назаўжды — і якраз*
*Будзе святлом блаславёны*
*Восені мудры час!..*

***

*Нібы гадзіннік хто завёў —*
*Па крузе:*
*Вецце — і галлё,*
*Галлё — і вецце, —*
*Ход за ходам —*
*Мяняюцца, як поры года.*

*Калі з лісцём шапоча вецер —*
*Вясна: і ў вецці, і на свеце.*

*А голае галлё галосіць*
*З шалёным ветрам, —*
*Гэта:*
*Восень...*

### Канава

*Я забыўся, дзе той блакіт,*
*Дзе туман той на ўкосным світанні,*
*Дзе нябёсаў зорны санскрыт,*
*Што нясе з прарадзімы пасланне,*

*Дзе асокі над тайнай крыніц,*
*Ім даверанай мудрай вадою,*
*Дзе высокі гнеў навальніц —*
*Суд чыніць над сухменнай бядою...*

*Ды і ты: дзе сама ўжо ты, Нача, —*
*Збегла ў свет — да самага дна.*
*Берагáм захінуцца няма чым, —*
*Як распранутыя да сна...*

*Ці вада, ці бяда бяжыць?..—*
*А канава — галоўны фарватар.*
*І ўжо вучыць цябе, як служыць,*
*Новай выпечкі меліяратар...*

*Гэты высушыць да касцей,*
*Клёку звіліны каналізуе,*
*Што не ў лад з ім у думках расце,*
*Спрагназуе і лакалізуе.*

*І вісіць над табою, як смог,*
*Вешчуна стабільная догма:*
*«Я стараўся, зрабіў, што мог:*
*Будзем жыць так, але нядоўга...»*

*А вада ўсё бяжыць і бяжыць...*
*І канава, канава, канава —*
*Дрэсіруе крыніцы жыць,*
*Каб ні кроку ні ўлева, ні ўправа.*

*Адкажы мне, прачыстая Нача...*
*Сто пытанняў, а ты — адна.*
*Ды маўчанне — як лёс жабрачы...*
*Намаўчаліся, хопіць спаўна!..*

*Не маўчы, не маўчы — адкажы,*
*І з адказам тваім палячу я:*
*Боль зямлі маёй з небам звяжы, —*
*Можа, хтосьці ўсё ж ды пачуе...*

***

*Як мама гаварыла*
*Тым, хто крычыць дарма:*
*— Разумная кабыла —*
*Ары сама...*

### Плыве човен...

*Плыве човен, вады повен,*
*На бок пахіліўся,*
*Як гуляка з перапою,*
*Што не пахмяліўся.*

*Ані чаркі, ані хлеба*
*За душой не мае,*
*А душа — душа, як неба,*
*Ўсе грахі прымае.*

*Плыве човен залачоны*
*Поўняю з арбіты,*
*Лёгкай хваляю хрышчоны,*
*Цяжкаю — заліты.*

*Ён плыве сабе — дняпруе,*
*Начыць ці сажуе,*
*З берагамі не сябруе,*
*З глыбінёй мужуе.*

*А дарэмна! Бераг родны —*
*Як зарука выжыць.*
*Ён з віроў глыбакаводных*
*Выведзе на стрыжань.*

*Плыве човен сам сабою,*
*А куды, не знае.*
*Толькі шлях марскім прыбоем*
*Весляроў гукае:*

*«А дзе ж гэта вы, малойцы,*
*Патапілі вёслы,*
*На якой такой папойцы*
*Пагублялі вёсны?..»*

***

*Той час падступіўся: усё ўспамінаю,*
*Пражытым жыццём зноў жыву —*
*віртуальна.*
*Жыву развітальна, жыву спавядальна:*
*Лягчэй, калі ўсё на зямлі пакідаю.*

*А што застаецца цяжарам на крылах,*
*Што нават стаілася ад успамінаў,*
*Таго не аддам я, таго не пакіну, —*
*Табе давяраю, магіла...*

***

*Збівае Пегас капыты,*
*Падрэзаны крылы Ікаравы:*



*Былое — сон залаты,*
*Цяперашняе — бяздарнае.*

*Ёсць лінія генеральная,*
*Ды ў немачы час заграз...*

*А будучае? Геніяльнае.*
*Шкада, яно будзе без нас.*

***

*Жыцця і смерці крэўнасць спрадвечная*
*Нам Усявышнім наканавана.*
*Толькі смерцю ачалавечана*
*Будзе жыццё тваё — позна ці рана...*

*Мы і родныя ўсе і роўныя*
*Для Яе, што пакліча ў вырай,*
*І яшчэ да Суда Галоўнага*
*Атрымае кожны свой вырак.*
*Пакуль не Страшны,*
*Пакуль зямны —*
*Не ўспамінаюць*
*Грахоў ля труны...*

*Адгалошаны, неагалошаны*
*Будзе вырак суда людскога:*
*Пра нябожчыка — Богам адпрошана —*
*Толькі добрае ці... нічога...*

### Ніколі...

*Як ніколі не ступіш на ўласны цень,*
*Так ніколі не спыніш*
*апошні свой дзень.*
*Як ніколі не высніш пакутную ноч,*
*Так ніколі свой лёс*
*не абыдзеш наўзбоч...*

***

*«Прабачце...» — я кажу на развітанне —*
*Усім і кожнаму, — і зараз, і ў запас...*
*Хоць прамаўчу, калі мяне не стане, —*
*Але прабачце тройчы і ў той час.*

*Хай страшны суд — пакуль зямны што —*
*судзіць, —*
*Я ўсё прыму: я ў дзеі не глядач...*
*Але страшней, чым вырак, як не будзе*
*Каму — на ўсёй зямлі —*
*сказаць «прабач»...*

### Егіпецкі матыў

*Апроч тайны пірамідаў*
*Ёсць яшчэ адна загадка:*
*Бог Асірыс і Ісіда,*
*Паяднанне ўсіх пачаткаў.*

*Супярэчнасць — як найменей —*
*Забаронам нашым стройным:*
*Ва ўзаемнасці сямейнай*
*Муж і жонка — брат з сястрою.*

*Ён — прыроды зберагальнік,*
*Гадавы́х кругоў ахова,*
*І пры смерці ўтаймавальнік*
*Тагасветнай установы.*

*А яна пры ім багіня*
*Лекавання і ўраджаяў,*
*Моцных шлюбаў берагіня, —*
*Толькі б дзетак нараджалі!..*

*Быў адзін тварэц — Бог-бацька*
*І ў Адама з Евай, — пэўна,*
*Вышук лішні, адшукаць каб*
*Найбліжэйшую іх крэўнасць...*

*Міф ёсць міф. Але здзівіцца*
*Маем знак не легендарны —*
*Кветку нашу: брат-сястрыца,*
*Ці інакш: Іван-ды-Мар'я.*

*Роднасць крэўную з каханнем*
*Хто з'яднаў? Якая сіла?*
*Адказаць сам Бог не ў стане.*
*А жыццё — ускаласіла.*

### Найвышэйшая з узнагарод

***Анатолю Вярцінскаму —***
***творцу выдатнага***
***паэтычнага сузор'я,***
***дзе, між іншых, праменяцца***
***зорныя кнігі***
***«Песня пра хлеб» і «Чалавечы знак», —***
***у дзень 85-годдзя***

*Знае Бог: Анатоль Вярцінскі*
*Па жыцці не хадзіў бачком,*
*Прад уладай не гнуўся націнкай,*
*Не сядзеў у закутку маўчком.*

*Гаварыў без прыкрас — а па цэлі —*
*Праўду з самых высокіх трыбун,*
*Каб у тых паджылкі трымцелі,*
*Хто пражэцца ў чыноўны табун.*

*І тварыў натхнёна, адкрыта,*
*Рыфму ў верш не гнаў без патрэб:*
*На́перш трэба пасеяць жыта,*
*Каб спяваць потым песню пра хлеб.*

*Жыў паэт, як належыць паэту:*
*Музе словам пустым не пыліў —*
*Знаў да сэрца яе сакрэты,*
*А зрэдзьчас каньячком весяліў.*

*Не мамоне — служыў народу,*
*Не бадзяўся ў тусоўках гуляк.*
*І вышэйшы за ўсе ўзнагароды —*
*Над усім — Чалавечы меў Знак!*

**18.XI.2016**

### Зямля і неба

*Зямля —*
*гэта: я, ты, ён, яны;*
*Неба —*
*гэта: мы.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (123) | 25 лістапада 2016 | № 45 (510) Новы Час

# І нябожчык усміхнуўся...



Уладзімір МІХНО

**Ён ведаў, бываюць розныя неверагодныя сітуацыі ў жыцці, але каб гэткая... Быць не можа! Аднак, што мы ведаем пра смерць, хоць бачым яе, жывыя, на кожным кроку, нават прывыкаем. Лацвей прывыкнуць, калі паміраеш не ты, а іншыя.**

Колькі ж ён, Афінаген Лявонавіч, пабачыў нябожчыкаў за сваё хай сабе не надта доўгае, але ж не марнае жыццё! Калі быў маленькім ды жыў з бацькамі ў вёсцы, ён, жаўтароты хлопчык, не прапускаў... ніводных хаўтураў. Не важна, хто паміраў — а паміралі большасцю сярэдняга веку мужыкі, з гарэлкі, ды радзей, зморшчаныя, як грыбы пасля першых асенніх замаразкаў, бабулькі. Гэтыя чапляліся за жыццё да апошняга, зачыняліся ад смерці ў хатах, сядзелі зашчэпленымі і ноччу і ўдзень. Але кашчавая ўсё роўна іх падпільноўвала, прыходзіла — што ёй тыя зашчапкі! Такі закон. І бабулькі ўрэшце здаваліся ёй у палон, ляжалі ў дамавіне ціха і смірна. Нос смешна выцягваўся, твар рабіўся прасветлены, вусны ўсёдна як бы ўсміхаліся. Маленькі Афінаген, дачуўшыся пра хаўтуры, смела заходзіў у хату, па-даросламу здымаў шапку перад нябожчыкам і нават уздыхаў, спаважна сядаў на лаву, якіх было панастаўляна ля труны. Людзі ставіліся да яго па-рознаму: хто паблажліва і нават з ухвалаю, во, маўляў, якое разумнае, дарослае дзіця, калі з малых гадоў навучылася паважаць людзей, хто мо і ўхмыляўся, калі пацан з натоўпам дарослых урачыста крочыў на магілкі. Зрэшты, людзям было не да яго. Афінагену ж часта даручалі несці вянок, і хлопчык быў, як ні кашчунна гэта гучыць, велічна-шчаслівы, бо адчуваў у гэты момант сваю значнасць і патрэбнасць людзям, далучанасць да іх спраў, якой яму так не хапала ў жыцці... Не цяжка прывыкнуць да чужое смерці. І яна можа нават здавацца табе прывабнаю. Ды зусім іншая справа, калі паміраеш сам...

Афінаген Лявонавіч нават і не змікіціў адразу, што прыйшоў яго час. З працы ён вярнуўся стомлены, знерваваны. Схапіліся былі з шэфам. Есці не хацелася, але ведаў, што яго ніхто ўгаворваць не будзе, як, бывала, у дзяцінстве ўпрошвала мамка, калі еў нелюбімую пшонную кашу: гэту лыжачку — за мамку, а тую — за татку, а пасля — за бабулю. Зараз вазіцца з ім няма каму, і ён павінен есці тое, што ёсць, і не за каго іншага — за сябе, любімага. Падагрэў на пліце ўчорашні гарохавы суп (а мо яшчэ пазаўчарашні). Добра, суп зранку абачліва пакінуў на балконе, каб не ўкіс. Сярбаў з неахвотаю, запіваючы юшкаю кавалкі непражаванага, чэрствага хлеба. Еў — як быццам ласку рабіў страўніку, каб той не ўзбунтаваўся на рэвалюцыю. Думаць, таксама як і есці, не хацелася. І ён стараўся гнаць ад сябе маркотныя думкі, якія назойліва, як мухі-спасаўкі, круціліся ля галавы, замінаючы сёрбаць гарохавік. Затым прылёг на канапу, як быў, не распранаючыся, у шэрым сваім гарнітуры, што і парадна-выхадны і працоўны, бо іншага проста няма. Трэ было б пераапрануцца, бо скамечыцца касцюм, у чым тады на працу ісці? Але не здужаў. Неадольная лянота і млявасць пацягнулі яго да канапы. Паспеў толькі, перш чым улегчыся, паслабіць гальштук, бо засціла дыхаць. Толькі зараз ён адчуў-зразумеў прычыну тае неадольнае млявасці і лянаты. Затрапятала раптам сэрца, як спалоханы верабейчык у клетцы, гарачая хваля прыліла да скроняў, і яны балюча, трывожна запульсавалі, як струна, напятая скура гатова была парвацца. Нудна пеканула ў грудзях. Ці ўпершыню?! Матор яму не аднойчы ўгражаўся, але ж пакуль працаваў. І ніхто не ведае, наколькі ён, той матор, разлічаны. Вось паляжыць, супакоіцца, і пройдзе ўсё, як праходзіла неаднойчы. Рука міжволі пацягнулася да кішэні, па нітрагліцэрын. Аднак, каробачка нечакана аказалася пустой. І чаму ён не зайшоў па дарозе ў аптэку? Але з чым пойдзеш, калі ў кішэні, побач з пустой каробкаю з-пад лекаў, засталіся во начавадзь толькі дзве пакамечаныя тысячы, і гэта да зарплаты, якая аж у канцы тыдня. Ат, перазімуем!

Афінаген Лявонавіч асцярожна павярнуўся на правы бок, каб даць паслабку сэрцу. Закрыў вочы, у думках папрасіў матор супакоіцца і сцішыўся сам. Раптам адчуў, што ў кватэры не адзін. Яшчэ нехта ёсць? Цікава! Той нехта, аднак, не скрыпеў дзвярыма, ён нячутна прысеў на край канапы, і засталося толькі адкрыць вочы, каб яго ўбачыць. Ды стала страшна. Асцярожна прыпадняў цяжкія, пудовыя павекі і ўбачыў... маму. Даўно яе не бачыў такой блізкай і такой прыгожай. Іх позіркі сустрэліся. Такое шчаслівае хвіліны Афінаген Лявонавіч доўга чакаў, мабыць, з тога самага часу, калі разам з маці адышлі ў нябыт яго featurerознакаляровыя, яркія, поўныя надзей і спадзяванняў дзяцінства і юнацтва, і пачалася шэрая, нудная, адзінокая сталасць, вельмі падобная да старасці... Маці была ўся ў белым, і светлыя строі яшчэ болей надавалі ёй вабнасці. Яна загадкава падняла руку, пяшчотна пагладзіла сына ля скроняў, якія пачалі ўжо сівець, і, не сказаўшы ні слова, знікла... Захацелася падняцца, абтрэсціся ад здранцвення і міражоў, пасмяяцца са сваіх млявых мрояў. Але ні галава, ні рукі не паслухаліся, нават не варушыліся пальцы. Такога з ім яшчэ ніколі не было... у жыцці. У жыцці? Няўжо тое, што



з ім адбылося, і ёсць... Апякла трывожна-халодная думка. Аднак, ён не адчуў ні холаду яе, ні гарачыні. Па ўсім відаць, ён перастаў увогуле што-небудзь адчуваць і валодаць сабою. Ад жыцця засталася толькі магчымасць думаць і бачыць. І ён упершыню па-сапраўднаму жахнуўся, зразумеўшы, што памёр.

Настала самае цяжкое. Афінаген Лявонавіч ляжаў на канапе, нязграбна падкурчыўшы ногі, і не ведаў, колькі яшчэ давядзецца так ляжаць, пакуль яго не ўбачаць. Няўжо ён мусіць засмердзіцца тут, покуль суседзі не агледзяцца ды не паклічуць міліцыю? Ён яшчэ не ведаў, што лёсу было суджана распарадзіцца па-іншаму. А таму моцна хваляваўся, калі толькі нябожчыкі могуць хвалявацца.

Пазванілі ў дзверы, раз, другі, працяжна, доўга, цярпліва. Божа мой! Быць гэткім бездапаможным — чуць, бачыць і ведаць і не

**Захацелася падняцца, абтрэсціся ад здранцвення і міражоў, пасмяяцца са сваіх млявых мрояў. Але ні галава, ні рукі не паслухаліся, нават не варушыліся пальцы. Такога з ім яшчэ ніколі не было... у жыцці**

мець магчымасці падаць хаця якога знаку! Нябожчык намаганнем волі спрабаваў сабраць сілы, каб хаця паварушыць пальцам, аднак сіл не было, палец не варушыўся. Хаця цела яшчэ і не спрацянела зусім, але адубела, ужо не слухалася, адмаўлялася выконваць яго волю. Як было з гэтым змірыцца? І Афінаген Лявонавіч вырашыў моцна хацець, каб яго хутка знайшлі. Можа, Бог злітуецца і нешта прыдумае. Хіба ж ён у жыцці так саграшыў!

І Бог злітаваўся. Дзверы аказаліся незачыненымі. Не было б шчасця... Даведзены да адчаю, знерваваны гаспадар проста забыўся пры жыцці зачыніць дзверы, тым самым пакінуўшы сабе магчымасць быць па смерці хаця па-чалавечы пахаваным. Пазваніўшы разы са два, дасужая суседка на ўсякі выпадак штурхнула дзверы, і тыя адчыніліся. Найперш яна прасунула дапытлівы нос, пачуўшы свежы пах гарохавіка, пасмялела, асцярожна ступіла ў цемру:

— Лявонавіч! Ты спіш?

Жывы ён бы не стаў адказваць, а і сапраўды прыкінуўся б, што спіць, бо дастала. Вечна суе нос куды не просяць. Схаваўшыся пад аблічам ледзьве не самой міласэрнасці, яна ўсяму пад'езду праходу не давала. Бываюць жа людзі, для каго ведаць пра ўсё і пра ўсіх становіцца сэнсам жыцця. Старая насіла, множыла плёткі ды чуткі ад кватэры да кватэры, ад лесвіцы да лесвіцы, ад лавачкі да лавачкі, ад суседа да суседа, балазе самую яе яшчэ добра насілі ногі. Моладзь Веніхі пабойвалася і страшэнна не любіла, бо з-за яе доўгага языка і пільнага вока не было як ні пацалавацца ў цемры, пад лесвіцай, ці за кустом акацыі, у дворыку, ні апрануць чаго мадняцкага. Абавязкова дапільнуе, і трапіш пад раздачу. Старыя пацвельваліся з яе дапытлівай зайздрасці, аднак таксама хавалі ад яе сваю шчырасць, каб не апынуцца распранутымі на яе бязлітасным языку. Даставалася і гэтым і тым. Аднаму Веніха пляла пра другога, гэтаму — пра таго. Афінаген Лявонавіч жыў адзінока і адчужана, трымаючы дзверы на зашчапцы, аднак Веніха гатова была пралезці і ў замочную дзірку, каб толькі паболей даведацца і пра яго жыццё. Свае ж таямніцы суседка трымала за сямю замкамі, і ў яе заўсёды і ўсё было добра, лепей за ўсіх.

А ён жыў ад людзей наводшыбе, бо быў упэўнены: людзі не паспагадаюць, а толькі падштурхнуць цябе ў вір, пакпяць, паздзекуюцца. Шчырасць нікому не патрэбна.

На працы Афінагена Лявонавіча неўзлюбілі. Напачатку, калі быў малады-перспектыўны, зайздросцілі. У яго і адукацыя, у яго і атрымоўвалася лепей, як у каго. О, не дай Бог, калі людзі бачаць, што ты разумней за іх. Шэф мо не адну ноч не спаў, перажываючы, як бы малады спецыяліст не падседзеў яго. І таму спіхваў свайму падначаленаму тую работу, якая не паддавалася іншым. Як той Папялушцы злая мачыха — ледзьве не пясок з макам загадваў перабіраць. А калі Нямодны (так звалі Афінагена Лявонавіча ў аддзеле) адным махам разгроб тыя завалы, шэф ашалеў ад зайздрасці, бо ён разумеў, што сам так хутка і спрытна ніколі б тае работы не зрабіў. Ішлі гады. Калегі драліся па службовай лесвіцы, ды не заўсёды паспяхова, а Нямодны, па натуры не кар'ерыст, толькі пацвельваўся з іх марных намаганняў ды спакойна сабе працаваў. Каму такое можа спадабацца? А куды і чаго было пнуцца, калі тая службовая лесвіца пачыналася і заканчвалася не за хмарамі, а ў кабінеце аднаго шарагавага вытворчага аддзела, дзе іх, супрацоўнікаў, сядзела, як бобу на градзе. Смешна было бачыць, як мухі боўтаюцца ў сыраватцы з надзеяй збіць з яе масла. Сваёй іроніі Нямодны і не хаваў, за тое і атрымоўваў. Тым часам іх шэф Кудлаты, нарэшце зразумеўшы, што крэсла пад ім пакуль неківаецца, па-ранейшаму, аднак, не мог супакоіцца. Ён зноў шалеў, на гэты раз ад грошай, якіх яму ўсё здавалася мала, хоць гроб пад сябе ўсё, што толькі можна было згрэбці. І каб можна было яшчэ болей забагацець, разгнаўшы сваіх падначаленых і застаўшыся ў аддзеле адзін, ён, мусіць, не задумваючыся, так і зрабіў бы. Ды, на шчасце, над ім стаяў яшчэ Глаўк, які

раз-пораз прыводзіў Кудлатага да памяці.

Пакуль шэф плаваў у масле, падначаленыя ваявалі між сабою за тую ж сыраватку, у якой боўталіся. І з адчаю яго калегі пачалі піць. Пайшла мода «гудзець» напрыканцы працоўнага дня, не важна, ці была нагода ці не. Зрэшты, нагода заўсёды знойдзецца. «Замочвалі» хрысціны, радзіны, хаўтуры, балазе таннага «чарніла» ў суседнім гастраноме хапала. Тапілі ў віне свае крыўды і свае раздраі. Афінаген Лявонавіч і тут аказаўся наводшыбе, ён дэманстратыўна пазбягаў тых п'яных гуляў, уцякаў ад іх дадому, дзе хоць і не было яму надта файна, ды не было і прыкра. І за тое атрымаў ад калегаў яшчэ дзве мянушкі — Сквапнага і Адшчапенца. Як кажуць, што ж, не лезь пад нож... Так, ён ведаў цану заробленай капейцы, бо гэтая капейка ніколі не давалася яму лёгка, каб лёгка можна было кідаць яе на вецер.

Вось так і прайшло яго жыццё... Затое зараз усё будзе па-іншаму. У яго іншы статус — ён нябожчык! Нікому не трэба даказваць, што ты не вярблюд. Не трэба думаць пра грошы, сэрца атручваць, усведамляючы, як шмат у жыцці бязглуздзіцы. Сэрца ў яго ўжо няма, не вытрымала, парвалася, цяпер халоднае і нямое. Засталася толькі душа, якая пакуль гасціць у спруцянелым, як чужым, целе...

— Лявонавіч! Ты спіш?

Успыхнула святло. І Веніха асцярожна, як па прысаку, падыбала да канапы. Ухапіла яго збялелую, нежывую руку, сама раптам збялела на палатно, войкнула, прыпусціла да дзвярэй.

Ага, яна ж мёртвых як агня баіцца. Успомніў, як Веніха спалохалася ўласнай маці ў труне, і стала зусім весела, быццам бы ён, Афінаген Лявонавіч, і не паміраў ніколі, а толькі во прылёг на хвілінку, каб прыкальнуцца-пасмяяцца з жывых, адчуўшы сябе вольным і самадастатковым без іхняй хцівасці і двурушніцтва.

А праз колькі хвілін у кватэры ўжо тоўпіўся народ...

Людзі не ўсе злыя. Свет не без добрых людзей. Хоць яны на тым, жывым свеце і ў меншасці. А як у іх, жывых, ставяцца да розных меншасцяў, Афінаген Лявонавіч ведаў добра... А потым яго распранулі дагала, каб памыць. Зусім жа не брудны, акурат учора прымаў душ. Ды што зробіш — традыцыя. Жывыя прыдумалі сабе розныя традыцыі і законы, без якіх жыць не могуць, хаця ад іх жа самі і пакутуюць. Патрэбна нябожчыку лазня?! Было страшэнна сорамна, хоць вочы прадавай, за сваё аголенае бездапаможнае цела, якое абмывалі не толькі вадою, але і языкамі.

— Авой! Як жа дайшоў, нябога, — здзівілася бабуля, што жыла паверхам вышэй, — скура ды косці. Можа й не еў нічога. Праз тое і сканаў.

— Ды сэрца ў яго.

— А-а! Сэрца! Адзінокі. Не было каму сэрца сагрэць. Хоць бы хто супчыку зварыў... Няўжо нікога з родных няма?

— Далёка, едуць.

— А-а! Едуць. Во цяперака паваўчэлі людзі. Па смерці толькі і з'язджаюцца...

Закрыць бы вочы, хаця і так ужо яны закрытыя. Не любіў ніколі Афінаген Лявонавіч, каб яго шкадавалі. Закрыць вочы... Шкада, што нябожчыкі ўмеюць бачыць і чуць, нават калі на вачах ляжаць медныя пятакі. Здавалася, трэба быць удзячным суседзям, што не пакінулі яго калець па смерці карчаком. Ды як жа вытрымаеш, калі вунь корпаюцца ў шафе, шукаючы яму новую прасцінку на божую пасцель, і скародзяць яго, нежывога, языкамі, як баронамі:

— Падумаць толькі, ні прасцінкі новай, ні навалачкі.

— Дажыўся! А куды грошы свае складваў? Вось жа ў труну з сабою не возьме.

А раптам вазьму... А новы камплект ляжыць вунь крыху ніжэй, у шуфлядзе, ды ён жа сам не адгукнецца. Божачка! Хутчэй бы ў труну з гэтага брыдкага белага свету ды вечкам накрыцца, схаваўшыся ад злых языкоў!

І вось ён у труне. Цеснаватая, не павернешся. Кудлаты заказаў у заводскай цяслярцы саматужную, каб зэканоміць грошы. Добра, што хапіла ў аддзеле грошай на вянок. А ці добра?! Патрэбны яму тыя поліэтыленавыя кветкі ў дарунак ад людзей, якія самі ж яго ў труну і загналі дачасна. Не павернешся... Шчасце, што варочацца не трэба. Ляжы сабе ціха-спакойна, трымай у спруцянелых руках паперкі з царквы — прахадную на той свет. Нехта ж во пастараўся... Збегалі ў царкву... Яны вераць у Бога? Аксціцеся! Каб людзі задумваліся пра справаздачу перад Усявышнім, то не тварылі б такога пры жыцці, ад чаго нават нябожчыкам няёмка. Ляжы тут, слухай іхнюю дэмагогію. Муляе саламяная падушка. Зусім не весела стрыножаным-звязаным нагам. Ды што рабіць, не падымешся і не паправіш. І, зноў жа, хочаш не хочаш, а даводзіцца прымаць іх, жывых, умовы гульні. Суцяшае толькі тое, што гэта ненадоўга, што гульня хутка скончыцца, развяжуць ногі, рукі. І тады — на неба! А там, пад іншым начальствам, хто ведае, як яно ўсё павернецца. Новая мятла па-новаму і месці будзе. Людзей ён сабраў не так шмат па смерці, бо быў ім і пры жыцці не вельмі патрэбны. Плакаць ля труны не было каму. Сваякі вунь усё едуць, як і пры жыцці. Мабыць, даедуць толькі кватэру дзяліць. Дзецьмі ён не абзавёўся, не было яму на тое дазволу ад Усявышняга. Няма каму плакаць — і не трэба. Плакаць трэба было па жывым, а зараз навошта ліць кракадзілавы слёзы?

Пралежваючы бакі ў труне, накрыты цюлем, знятым з акна ўласнае кватэры, Афінаген Лявонавіч яскрава ўяўляў свае памінкі. Во будзе радасці калегам! Кудлаты нікуды не дзенецца, адшкадуе на якую скрыню гарэлкі, вядома ж, за кошт завода. Ну, пап'ю-уць! Пры жыцці пашкадаваў яму нармальнага акладу. Як хацеў, як мог, таптаў свайго канкурэнта, нават калі ўжо бачыў, што той і не канкурэнт яму зусім. Растаптаў сэрца, а зверху, каб не бачылі, прыкрыў поліэтыленавым вянком. Прыкольна! Нап'юцца — хаця б не пабіліся. Праўда, ён ужо тое не ўбачыць, бо навернуць зверху глыжэўя, пад два метры, і застаўбяць крыжам, каб не вылез. Не хвалюйцеся, адтуль ён ужо не палезе, бо не ваўкалак жа... І не дурань — лезці зноў на гэты знялюбеўшы свет. Там, пад крыжам, куды зацішней.

Калі выносілі з пад'езда, ён нават слязіну пусціў. Такое нябожчыкам дазваляецца, і таму ніхто не здзівіўся. А калі ж паплакаць, як не цяпер? Як-ніяк, пражыў тут, у гэтым горадзе, у гэтым доме, пад'ездзе цэлае жыццё, хай сабе й не такое доўгае, дый невясёлае. Як не расчуліцца, калі, няглядзячы на халодны вецер, за тваёю труною ўсё ж ідуць людзі, чужыя людзі. І хай сабе кожнага з іх прывёў сюды свой інтарэс, як некалі і самога яго ў дзяцінстве, не важна, галоўнае, гэтыя людзі былі з табой у жыцці і засталіся ля цябе па смерці. Гэтак разважаў Афінаген Лявонавіч па дарозе на гарадскі пагост, гайдаючыся ў кузаве старэнькага заводскага «ГАЗіка». Заняты сваімі сентыментальнымі думкамі, ён нават і не заўважыў, як яго везлі праз горад. Побач з труною не было каму сядзець. І то няблага. У кузаве, на адзіноце, добра думалася. Не заўважыў, як неслі да магілы. Магілы сваёй ён не мог пабачыць, бо ляжаў дагары. Затое бачыў сіняе-сіняе неба, якое прываблівала сваёю бяздоннаю загадкавасцю, і было ўсцешна думаць, што неўзабаве туды адляціць у вечную вандроўку яго спакутаваная душа. Ён бачыў сосны, яны дружалюбна і жалобна махалі на развітанне галінамі. Гэта — яму! Чаму ў жыцці нам даводзіцца мець справу не толькі з небам і соснамі, але і...

Выхапіў-абудзіў яго з дум знаёмы голас:

— Таварышы! Сёння мы праводзім у апошні шлях высокакваліфікаванага спецыяліста, нястомнага працаўніка і найлепшай душы чалавека...

Вельмі цікава! За ўсё сваё жыццё ён так і не дачакаўся. Не пачуў у свой адрас таго, што мусіць цяпер слухаць. Хочаш паслухаць, які ты быў пры жыцці — кладзіся ў труну. Не, ён, безумоўна, ведаў, што Кудлаты ніколі не гаворыць тое, што думае. Але ведаць — адно, адчуваць жа на сваёй скуры — зусім іншае. Эх! Каб можна было павярнуцца ў труне азадкам да гэтага двурушніка!.. Шкада, што смерць скавала Афінагена Лявонавіча яшчэ болей, чым нават быў скаваны пры жыцці, што заціснула ў такую клетку, у такое становішча, што, зноў жа, цяжка каму-небудзь пярэчыць.

... — Наш аддзел будзе заўсёды добрым словам успамінаць цябе, паважаны калега, дарагі сябра Афінаген Лявонавіч! Пухам табе...

Як бы гэта злаўчыцца плюнуць яму ў морду? Дзе ўзяць слюняў? Нябожчык раптам сабраў апошнія сілы і вялікім намаганнем волі... усміхнуўся...

Нехта заўважыў яго непрацяглую ўсмешку, калі закрывалі вечка труны. Але надта не здзівіліся. Усміхацца нябожчыкам таксама часам дазваляецца. Ніхто нават і не здагадаўся, што гэты нерашучы чалавек перад тым, як сысці ў магілу, адважыўся нарэшце на свой апошні пратэст. Ён пацвельваўся з жывых, як бы хацеў ім сказаць: я пажыў, а вы — паспрабуйце...

# Набліжэнне зімы



Павел КАСПЯРОВІЧ

## Лісце

*Мокне лісце пад цяжкім дажджом,*
*Растаптанае разам са смеццем,*
*Некранутае злом і дабром,*
*Аніводнай падзеяй у свеце.*

*Ні вайной, ні крывёй, ні слязой,*
*Ні пакрыўджаным нечым сумленнем.*
*Ні кастрычніцкай шэрай тугой,*
*Ні маім выпадковым натхненнем.*

*Не баліць яму, што назаўжды*
*Абляцела яно з гэтых дрэваў,*
*Што ідуць цэлы тыдзень*
*дажджы*
*Сумнай музыкай восеньскіх спеваў.*

## Крумкачы

*Як быццам вароны са сметнікаў,*
*У пошуках дзе б чаго з'есці ім,*
*Ідуць з-за мяжы прапаведнікі,*
*Нібыта нясуць Дабравесце нам.*

*Ад іх неспатоленых позіркаў*
*Душа мая ў пяткі хаваецца.*
*Бацькі і дзяды нашы з могілак*
*З агідай у нас узіраюцца.*

*Што сталася з нашымі дзеткамі,*
*Дзе рэшткі былое іх годнасці.*
*Мы сталі маўклівымі сведкамі*
*Знішчэння сваёй непаўторнасці.*

*Ах вось каб убачыць наперад нам,*
*Што будзе з любімай Айчынаю...*
*Як несці тужлівай Рагнедаю*
*Айчыне ярмо крумкачынае.*

## Настальгія

*Шкада, што не сходзіш у госці*
*Да светлай сваёй маладосці,*
*Не пройдзеш па вузкай сцяжынцы,*
*Што выведзе проста ў дзяцінства.*
*Дарэмна глядзіш ты на глобус,*
*Туды не даедзе аўтобус.*
*Туды не ляцяць самалёты,*
*Туды не бягуць цягнікі.*
*Ні лесам туды, ні балотам*
*Не пройдзе ніхто нацянькі.*

*Глядзяць са старых фатаздымкаў*
*На нас хлапчукі і дзяўчынкі.*
*Гучыць у знямелай душы*
*Самотны матыў «настальжы».*

## Роздум

*Ні надыход снегападу,*
*Ні набліжэнне зімы*
*Не забароніць улада,*
*Не спынім ніколі і мы.*

*Так ёсць, так было і так будзе*
*Да самых апошніх часоў.*
*За снежнем прыходзіць*
*студзень,*
*Увесну прыходзіць любоў.*

*За смерцю прыходзіць вечнасць,*
*У вечнасці пекла і рай.*
*Дзе кожнаму знойдзецца месца,*
*Якое — ты сам выбірай.*

*Ці справа стаяць, ці злева,*
*Авечкаю быць ці казлом.*
*Каму прысвячаць свае спевы,*
*Ісці за дабром альбо злом...*

***

*Няма больш страшнейшага*
*глупства,*
*Чым скончыць жыццё*
*самагубствам.*
*Няхай ты і геній мастацтва —*
*Вар'яцтва заўсёды вар'яцтва.*

*Не трэба быць мужным героем,*
*Каб скочыць з акна з перапою.*
*Не трэба вялікім быць творцам,*
*Каб стаць самазабойцам.*

*А мы ўсё стварaем куміраў*
*Са звыклых, сляпых дэзерціраў,*
*І крочым за імі з юнацтва*
*У змрок па дарозе вар'яцтва.*

***

*Ад веку халодныя зімы*
*Зняволіваюць нашу Радзіму.*
*І носіць яна, як вярыгі,*
*Ільды да прыходу адлігі,*
*Аж покуль пад спеў крыгаходу*
*Вясна не абвесціць свабоду.*

## За веру і любоў

*Навіны ад сенату —*
*У Рыме сёння свята.*

*Для рымскіх грамадзян*
*Катуюць хрысціян.*

*Натоўп вакол арэны*
*Пускае з вуснаў пену.*

*Галодныя звяры*
*Чакаюць да пары.*

*Для знаці і рабоў*
*Ліецца сёння кроў...*

*Адно ім толькі трэба —*
*Відовішчаў і хлеба.*

*За веру і любоў*
*Пральецца сёння кроў!*

# «Як месяц, адзінокі...»



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

### Позна

Васіль плакаў. Малады і дужы мужчына рыдаў, як дзіця. Жонка з дачкой былі на лецішчы, і ніхто не чуў ягоных хліпаў. Ён плакаў, як тады, у дзяцінстве, калі памёр яго ўлюбёны Кеша. Няшчасная птушка спруцянела на балконе за ноч, бо яе забылі занесці ў хату. Яшчэ тады, у пяць гадоў, ён паабяцаў сабе, што кожную суботу будзе згадваць чыюка, якога так недарэчна страціў.

Цяпер яму таксама даводзіцца хаваць свайго гадаванца, пацучка, на якога ён апошнім часам зусім забыўся. Ды й было, па шчырасці, неяк не да Шарля — так звалі грызуна. Неўзабаве пасля таго, як яны з жонкай купілі сабе жывёлку, Наташа даведалася, што цяжарная. Гэта змяніла ўсё іх жыццё. Спачатку, вядома, Васіль глядзеў звераняткa, штодня мяняў яму пілавінне, выпускаў пагуляць па кватэры, бавіўся з ім падоўгу, але калі нарадзілася Алена, усё стала іначай.

Наташа вельмі стамлялася быць маці ўсе дваццаць чатыры гадзіны на содні, і ладная частка хатніх справаў легла на Васіля. Выбіраць не даводзілася. Часу заставалася хіба на тое, каб прыбраць у клетцы і самому дапаўзці да ложка.

Так ішлі дні, месяцы, пацучок рабіўся маркотнейшым, мала еў, пачаў чмыхаць. Давялося везці яго ў ветлячэбніцу, а пасля калоць уколы. Спачатку Васіль шкадаваў Шарля, але потым усё гэта пачало назаляць яму, а часам і злаваць. Нарэшце Шарль нібыта ачуняў, нават паднабраў вагі. Але прыйшоўшы аднойчы з працы, гаспадар заўважыў, што пацучок неяк дзіўна паводзіцца: яго трэсла, як у ліхаманцы, чорныя бусінкі-вочкі заплюшчваліся, быццам на сон, але ён супраціўляўся і ледзь трымаўся на лапках, каб не ўпасці. Мужчына не ведаў, што здарылася, але прадчуванні былі невясёлымі. Ён узяў грызуна з клеткі і пагладзіў, але Шарль дрыжэў усё мацней, пакуль сутаргі не сунялі і ягоныя павекі не зліпліся. Назусім.

Васіль апусціўся на канапу, і слёзы папаўзлі з вачэй. Не таму, што гэтая смерць была нечаканай і раптоўнай, а таму, што ён, Васіль, так няўдзячна абышоўся са сваім маленькім сябрам. «Лепей бы й не заводзіць нікога, — думаў ён, — навошта так мучыць жывое стварэнне? Але ж так сталася, абставіны так склаліся, нічога не паробіш, — спрабаваў ён апраўдацца перад сабой, — так, вядома, нічога не папішаш, але...»

Калі Вася быў маленькім, любіў жывёлак. Бацькі былі радыя, што дзіця цікавіцца прыродай. Але нікога, большага за хамяка, не дазвалялі трымаць у хаце. Хлопчык марыў пра сабаку. Аднойчы нават крадком прыцёг шчанюка. Ён знайшоў яго на балотах сярод іншых суродзічаў, такіх самых паўсляпых, безабаронных, цёплых і мяккіх. Дзе была іхняя маці — невядома. Можа, на паляванні, можа, так куды адбеглася. Васіль схапіў здабычу і пабег дамоў. Там ён напаіў сябра малаком. Шчанюк смешна тыцкаўся носам у талерку і сёрбаў бела-ружовым язычком.

Бацька́м, вядома, не спадабалася ідэя з сабакам, і яны нават не спрабавалі патлумачыць малому, чаму ён павінен вярнуць яго назад. І Васілю, са слязьмі, давялося адпусціць шчанюка.

Чамусьці цяпер прыгадалася гэтая даўняя гісторыя, і быццам апынуўся ў дзяцінстве, з той толькі розніцай, што цяпер трэба было самому рабіць выбар. Так, ён ужо не малы дзіцёнак, і шкадаваць яго няма каму. Маці прыязджае да іх у госці, але да іх — занадта гучна. Унучка — адзінае, што яе цікавіць. А яна ж такая маленькая, безабаронная. Глядзі, сыночак, не пакрыўдзі.

Тэлефонны званок перапыніў плач. Званіла Наташа.

— Ну як ты там? Не сумуеш?

— Сумую. Што далей?

— Што з табой? Чаго ты такі злы?

— Шарля больш няма. Ён памёр на маіх руках. Уяўляеш?

— А чаго ты хацеў?.. Трэба было глядзець звера. Ну нічога, купім табе іншага. Гэта ўсё, што здарылася?

— Гэта мне трэба было лепей глядзець?! А ці быў у мяне час?! Скажы! Нічога, што я ўвесь час быў заняты выключна вамі?

— А як ты думаў? Малое дзіцё займае шмат часу. Што... думаеш, мне вельмі хораша? Думаеш, я не стамляюся? У цябе праца 8 гадзін, а ў мяне і ўдзень, і ўночы. Кінь ужо румзаць. Ты мужык ці смаркач?

Васіль кінуў слухаўку. «Дурніца!» — падумаў ён і захліпаў яшчэ мацней.

«Ты быў, як месяц, адзінокі...» — чамусьці прыйшоў яму ў галаву Багдановічаўскі радок.

Яго знайшлі праз тры дні. У нейкім прытоне, ледзь жывога і чорнага ад гарэлкі. Васіля было цяжка пазнаць. Ён быў такі нікчэмны, безабаронны... і ўвесь час румзаў, як маленькі хлапчук.

### Лісцік

Ён толькі з'явіўся на свет, вылузнуўся, як неонава-зялёны агеньчык, з чырвона-бурай пупышкі-свечкі. Маленькі лісцік рос і дужэў, ягоныя мяккія, падобныя да крылаў, пласцінкі рабіліся мацнейшымі, колер іх цямнеў, станавіўся насычана-смарагдавым. Па ягоных жылках цяклі, пульсавалі жыццёвыя сокі, якіх дрэва не шкадавала для зялёнага юнака. Каштанавы лісцік быў малады і прыгожы і бачыў, як побач з ім, на суседніх галінках нараджаліся непаўторныя і стройныя сяброўкі. Яны былі апранутыя ў пышныя бальнія сукенкі. Цнатліва-белыя, з лёгкай жаўцінёй — сапраўднае ўцяленне першароднасці і чысціні.

Лісцік цешыўся, што можа бясконца любавацца вытанчанымі дасканалымі формамі маладых красуняў. Але тыя не спяшаліся адказаць на ягоную ўвагу ўзаемнасцю. Яны ўважалі сябе князёўнамі, каралёўнамі, асобамі вышэйшага кшталту. Навошта ім нейкі там нягеглы, вялізны невыхаваны лісцік? Кветкі нават пакеплівалі з хлапечай праставатасці ды наіву. Але каштанавы ліст не крыўдзіўся, ён усё адно любіў ганарыстых дзяўчат, захінаў іх ад дажджоў і ветраў, пякучага сонца і граду. А яны смяяліся, бавіліся з мятлікамі ды іншымі кузюркамі. Пасля некаторыя суквецці чырванелі, быццам ад сораму, а гэта магло значыць толькі адно — неўзабаве з ружовай кветачкі з'явіцца калючы круглы плод...

Лета хутка мінула, і белыя пялёсткі некалі прыгажэйшых маладых кабет пакрысе асыпаліся, а на іх месцы пачалі з'яўляцца гольтыя зялёныя шарыкі, маладыя й задзірыстыя дзецюкі. Яны таксама ўважалі сябе каранаванымі асобамі і не любілі ліста, ужо парыжэлага, маршчыністага дзеда. Але ён быў вельмі добрым, яму гэтыя гарэзы былі замест унукаў, і хоць памаўзлівыя каштаны не-не дый калолі пры зручным моманце старога, той усё адно любіў іх і трымаўся на галінцы з апошніх сілаў, каб затуліць і зберагчы малых свавольнікаў.

Каштанавы ліст згадаў часы маладосці, калі ягоныя далоні поўніліся сокаў, і ён добра памятаў усё да драбніцаў, бо тое ж было так нядаўна, здавалася, яшчэ ўчора. А цяпер? Сябры, суседзі патрохі адляталі ў край, адкуль не вярнуцца. Самотныя і закінутыя.

Лісту было ўсё цяжэй утрымлівацца на галіне. Надышла восень, і адзін за другім каштаны падалі долу. Безабаронныя, яны ляжалі на халоднай зямлі, іх падбіралі, кідалі, шпурлялі, ціснулі, і яны гінулі ў страшэнных пакутах. Лісту было шкада няшчасных, але ён не ўмеў гаварыць і не мог крыкнуць: «У зямлю! Лепш закапайце іх у зямлю! Пахавайце небаракаў!» За каштанамі адляталі ў лепшы свет і лісты, гнаныя халоднымі вятрамі.

Надышоў лістапад, і стала зусім кепска. Сівер паабрываў рэшту і без таго ўжо скурчанага, высахлага лісця, і толькі адзін, апошні, з шапкай сівых валасоў на галаве ліст ледзь-ледзь трымцеў і чапляўся ценькай кволай ножкай за жыццё. Ён адчуваў свой блізкі канец і не спадзяваўся ні на што; наадварот, хацеў як мага хутчэй скончыць ужо напатрэбнае нікому самотнае існаванне. Навошта каму стары хворы ліст? Дрэва перазімуе, на наступны год з'явяцца новыя, маладыя атожылкі — і ўсё пачнецца наноў. Чаму так?

Адказу ён не дачакаўся, бо ўбачыў, што ў паветры залунала старая з сярпом у руках-карэннях. Гэта была смерць. Імгненне — і лязо сярпа прасвісцела ў паветры, перацяўшы апошнюю жылку, якая лучыла дрэва з лістом.

І ён узняўся ў вышыню, каб закружляць у сваім фінальным танцы.

# Зоры вакол



Алег НІКУЛІН

Хай шукаюць таго,
Хто паслаў мяне ў свет,
У якім нельга жыць,
У якім я, паэт,
Не магу гаварыць.

***

*Цемра. Зоры вакол...*
*Ноч уверсе і ўнізе.*
*Апусцілася ў дол*
*На трывалай адлізе*
*Ўся прырода і спіць*
*Перад яркім усходам.*
*Ціха вецер шуміць*
*Па зямлі карагодам.*

***

*Адчуваецца холад*
*У драўлянай душы.*
*Спакушаецца голад*
*Па-за ёй, на мяжы...*

*Бы крумкач, яна дзюбу*
*Точыць і кіпцюры.*
*Адлятае на згубу,*
*На прастор, за муры.*
*Што ёй тут, а што там быць...*
*Усё роўна — бяда.*
*Яе змогуць праславіць*
*Толькі кроў ці вада.*

***

*У душы столькі слёз!*
*Не злічыць іх ужо...*
*Хай ляцяць да нябёс,*

### Белыя вершы

1

*Прыдуманы свет*
*Прыдуманымі людзьмі*
*Заўсёды будзе прыдумваць сябе,*
*Каб выжыць.*

2

*Хлусня на хлусні*
*Пабудавала хаціну,*
*Каб смяяцца*
*Самой з сябе,*



*Не маючы гумару.*

*Яе хата,*
*Што вечна стаіць*
*На касцях падманутых*
*Вернікаў,*
*На жаль,*
*Ёсць само жыццё*
*І спакой Сусвету.*

***

*Лёгка смерць барацьбой спакушаць*
*Нам, паэтам, у гэтай краіне,*
*Дзе даўно немагчыма шукаць*
*Іншай долі, якая не кіне*

*Нашы душы за межы Зямлі,*
*За аблокі і ўсе далягляды,*
*Каб яны прыляцець не змаглі*
*У палон адзінокай блакады.*

***

*Іду. Не ведаю, куды.*
*Наперадзе — святло.*
*Заўжды ўцякаю ад бяды,*
*Бо крохкае жытло...*

*Знайду — рассыплецца ізноў.*
*Шукаю новы дом.*
*Хачу зрабіць свой свет з мурой*
*І стаць гаспадаром.*

# Пад абярэгам берагіні

## Іскрынкі з Гасцявой кнігі музея



Сяргей ПАНІЗЬНІК

**20 сакавіка 1979 года ў вёсцы Цінкаўцы, што пад Бігосавам у Верхнядзвінскім раёне, ад Канстанціна Пірага, родзіча Параскі Іванаўны Белавус, народжанай у вёсцы Забалотцы пад Дзісной, была набыта хатка пад саламянай страхой.**

Дзякуючы добрым людзям, а найперш майму даўняму сябру Фёдару Кудзянаву, запусцелая хатка стала пераўвасабляцца ў музейную сядзібу. Так гэты прыбераг Дзвіны стаў для мяне прыстанкам для спаўнення творчай працы: даследавання Асвейскай трагедыі. І ў выніку пошукаў з'явіліся выданні дакументальнай прозы: «Пасля вогненных вёсак...» (1980), «Браніслава» (1985), «Освейская трагедия» (1992). А музей у гонар былой гаспадыні, народжанай на Дзісеншчыне, стаў называцца так: «Хата бабкі Параскі». З пазнейшай дабаўкай, што ён знаходзіцца на «Шляху з Грэкаў у Варагі».

Для этнаграфічнай калекцыі збіраліся «помнікі працы», для літаратурнай — кнігоўня з дарчымі надпісамі пісьменнікаў... Разлічвалася, што сядзіба будзе служыць краязнаўчым асяродкам для пазнання гістарычнага мацерыка Прыдзвіння. У Гасцявой кнізе сталі з'яўляцца ўражанні-зычэнні наведнікаў...

У 80-х тут звязваў у вузел навуковых ніці з розных кантынентаў, каб аздобіць ім грэка-варажскі шлях, нястомнік Адам Мальдзіс. Гародчык бабкі Параскі доўга памятаў яго праполку, нібыта лехі з трускалкамі былі старонкамі карэктуры новай кнігі Адама Іосіфавіча.

А паэту Дзмітру Чараднічэнку з Кіева пашчасціла прыбыць на Дзвіну 16 жніўня 1985 года. У маім перакладзе з украінскай яго радкі гучаць так:

*Дзякую брату*
*за хлеб і за хату*
*і за тую Дзвіну,*
*у якой я пабачыў*
*беларускіх нябёс сінізну.*
*Я й Слову падзяку нясу:*
*адчуў яго сілу, красу...*
*Дзякую і прыхіляю*
*да Вашага дому я зноў*
*душу сваю і любоў.*

Калі Дзмітро заахвоціўся агледзець порт-сядзібу з боку Грэкаў, то рыжскі мастак Вячка Целеш — з боку Варагаў. Ён толькі што закончыў беларускую «кругасветку»: наведаў Дзісну, Лепель, Полацак, Віцебск, Оршу, Мінск... 12 ліпеня 1986 года свой узнёслы запіс ён закончыў такімі радкамі: «Няхай «Хатка» стане сапраўдным агеньчыкам для Прыдзвіння і нясе людзям любоў да роднага краю, роднай Беларусі, да гісторыі, культуры, мовы».

Развітацца з 80-мі гадамі дапаможа Гасцявая кніга, дзе пакінуў запіс львоўскі паэт Уладзімір Лучук. Маіх даўніх сяброў Уладзіміра і яго жонку Аксану Сенатовіч я спачатку азнаёміў з Лявонпалем (Лапацінскія і на Валыні жылі), а потым мая сям'я частавала іх у Цінкаўцах. Вось «Вітальная віція» Уладзіміра Лучука. Верш пераклаў, адзначаючы 80-годдзе з дня нараджэння аўтара (27.8.1934–24.9.1992).

*Шчаслівая вяла нас доля*
*З лявонпальскага прыволля.*
*У хаце бабулькі Параскі*
*Пазналі мы промнікі ласкі.*
*Штовечара шчыра суседзі*
*Гасціліся ў нас на бяседзе.*
*І гаспадару Сэргію*
*Сардэчна співаем віцію:*
*— Хай з хаты бабулькі Параскі*
*Узносяцца чары, як з казкі, —*
*Каб Люда, твая дружына,*
*Цвіла як у лузе каліна,*
*А донечка Веранічка*
*Прыгожай расла, як сунічка!*

А што пакінулі нам 90-я гады мінулага тысячагоддзя? Смела скажу, што Антон Бубала — мой суаўтар па тэме Асвейскай трагедыі. Але ў вершах, прысвечаных цінкаўскаму музею, ён непераўзыдзены гумарыст. Вось урывак з яго «кайфа»:

*Гляджу на маціцу я закапцелую,*
*Патыліцу скрабу я ўспацелую,*
*Бо полымя ў каміне аж гудзе...*
*А за сталом бясєдайка йдзе!*

1993 год аказаўся вельмі багатым на прызнанні. Вось радкі Уладзіміра Яфімавіча Якаўлева, намесніка старшыні Верхнядзвінскага выканкама ад 3 ліпеня (перапісваю без перакладу!): «Вялікі дзякуй, што Вы ёсць. Поспехаў Вам, паважаны Сяргей Сцяпанавіч!». Крыху пазней У. Я. Якаўлеў падпісаў падрыхтаваны для вышэйшага начальства тэкст «Характарыстыкі» з такімі словамі: «С. С. Панізнік доўгія гады аддана служыць Віцебшчыне, Прыдзвінню, Верхнядзвіншчыне. У вёсцы Цінкаўцы Бігосаўскага сельсавета знаходзіцца яго «Хата бабкі Параскі», або літаратурная сядзіба «На шляху з Грэкаў у Варагі», якая з'яўляецца сапраўдным музеем помнікаў сялянскай працы мінулых часоў... С. С. Панізнік — нястомны падзвіжнік, энтузіяст, чалавек вялікіх творчых магчымасцяў. Ён аддана і бескарысна служыць культуры нашага раёна».

Дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Верхнядзвінскага раёна Валянціна Іосіфаўна Крук, якая паспрыяла дзейнасці музея, магла ведаць усе падрабязнасці маіх творчых высілкаў. А вось што «з налёту, з павароту» змог зафіксаваць Лявон Баршчэўскі? Гасцявая кніга сведчыць пра не абы-які талент пісара, і не толькі земскага:

*Які тут слаўны каларыт:*
*І пах, і водар наскі!*



*Панізьнік — творца й барацьбіт —*
*У хаце у Параскі!*
*Усё — спрадвечнае, як свет,*
*Усё — як песня матчына.*
*Усё грунтоўна і як след*
*Слядком вякоў пазначана!*

9 жніўня 1993 года да клічнікаў Лявона і Навум Гальпяровіч далучыў свае паэтычныя клічнікі:

*Не! Нашай мовы дух не знікне*
*І ўжо не счэзне спакваля,*
*Калі ў нас ёсць Сяргей Панізнік*
*І ёсць прыдзвінская зямля!*

Удумлівымі празаічнымі радкамі «засвяціўся» ў Гасцявой кнізе вучоны муж Пятро Васючэнка. У чэрвені 1996 года мы ў Полацку ўспаміналі Янку Купалу. Потым на станцыі Баравуха, дзе служыў Ян Дамінікавіч у 1916 годзе, адкрывалі мемарыяльную дошку. Ушанаваўшы вяра, адправіліся ўніз па Дзвіне. Я запрасіў калегаў — супрацоўнікаў Літаратурнага музея Янкі Купалы Антаніну Хатэнку і Фаіну Ваданосаву наведаць Цінкаўцы. Далучыліся Мікалай Ільніцкі, Галіна Ладзісава, Алесь Аркуш. «Некаторыя экспанаты музея без перабольшання бясцэнныя», — так афармляла агульнае меркаванне Валянціна Кудлацкая ў віцебскай газеце «Народнае слова» (1996 г.).

Забягу наперад... Тая ж газета ў 2004 годзе змясціла мой допіс пра цінкаўскі музей і здымак, на якім ля Хаты бабкі Параскі стаяць Антон Бубала, Генадзь Бураўкін, Валянціна Кудлацкая, Навум Гальпяровіч, Валянцін Блакіт і я. Ад той сустрэчы застаўся надпіс на кнізе «Конь незацугляны»: «Слаўнаму і любімаму Сяргею Панізніку — у хаце бабкі Параскі. З нізкім паклонам Генадзь Бураўкін. 10.VI. 1998 г.»

На Шлях з Грэкаў у Варагі трапілі таксама кнігі з подпісамі ад А. Пісьмянкова, П. Ламана, А. Мальдзіса, Л. Хмяльніцкай, І. Жарнасек, Ф. Сіўко, П. Васючэнкі...

Час чытае новыя старонкі жыцця. А я — старонкі Гасцявой кнігі... План работы літаратурна-этнаграфічнага музея на 1999 год быў надзвычай багаты. 18 красавіка ў Бігосаўскім Доме культуры прайшоў літаратурны вечар, прысвечаны 20-годдзю заснавання музея. У гэты ж дзень мяне парадавалі вясёлыя наведнікі з Расіцы. Пішу з націскам на другім складзе, бо так вучыў Антон Бубала:

*Паспеў ты зрадніцца з пакутнай зямліцай,*
*Дзе Дрыса з Асвеяй, ды Сар'я з Расіцай...*

20 красавіка пакінула аўтографы «моладзь з Бігосава». А 21-га — палачане: старшыня Полацкага гістарычнага клуба «Вытокі» Міхась Баўтовіч, манах манастыра Св. Барыса і Глеба брат Юрась Камлыга. Абнародую такія зычэнні Уладзіміра Губскага: «Хай Госпад наш Ісус Хрыстос і Найсвяцейшая Маці нашая Багародзіцца заўсёды апякуюцца Вашым музеем!».

Выступіў я і на навукова-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай радаводу Лапацінскіх (Сар'я–Лявонпаль, 28–29 траўня). А летам 1999 года ў Верхнядзвінску праходзіла Першае рэгіянальнае свята мастацтваў Прыдзвіння «Дзвіна–Двина–Daugava». На канферэнцыі выступіў разам з Н. Сулецкай, С. Дзядзінкінай, А. Сухаравым, А. Бубалам, В. Ермалёнкам, А. Сухарукавым... А ў сваім музеі «насыціў» экспанатамі выставу, прысвечаную Янісу Райнісу: паспрыяла гэтаму праца вучоным сакратаром Літаратурнага музея Янкі Купалы.

У 1999 годзе Калегія ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама прысвоіла званне «народны» музею-сядзібе «Хата бабкі Параскі Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Верхнядзвінскага раёна» — за дасягненні па набыцці і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны.

У пачатку красавіка 2000 года я быў запрошаны ў Шайцераўскую школу на літаратурную вечарыну, прысвечаную творчасці земляка Тараса Хадкевіча. Адтуль у Цінкаўцы ніхто не трапіў, затое 3 красавіка Гасцявая кніга папоўнілася каштоўным запісам: «Тое, што мы пабачылі ў гэтай цудоўнай хаце, у гэтым Музеі, варта нашых самых дарагіх беларускіх святыняў!!! Тут жыве душа Беларусі, асвечаная любоўю і плёнам гэтай любові, вялікім плёнам! Вечна жыць гэтаму жывому Дому! Галіна Дзягілева (Беларускі паэтычны тэатр «Зьніч»)».

Ніжэй — подпісы ўсіх задзейнічаных у гэтай творчай групе, з якой я выступаў і ў Валынцах, і ў Каханавічах.

Многія старонкі Гасцявой кнігі трэба перакладаць: тэксты напісаны на англійскай, нямецкай, латышскай, літоўскай мовах. Затое японец Косіно Го сам пераклаў уласнае пасланне на рускую і беларускую мовы. А вось такія дівосныя радкі і перакладаць не варта: «Мы, Вокально-хореографический Ансамбль из г. Десногорска очень рады, что есть люди, которые так бережно хранят культурное наследие Великого Братского Белорусского славянского народа. 02.06.2002 г.» І каля трыццаці расіян падпісаліся пад гэтымі словамі.

У лютым 2003 года ў раёне адзначалі 60-годдзе Асвейскай трагедыі. Я прыехаў з укладзенай мною кнігай народнай памяці «Дзеці вайны». Неабыякавая падзея і такая: у той час мне было нададзена званне Ганаровага грамадзяніна Асвеі.

А 2004 год зноў быў юбілейным для музея. Споўнілася 25 зімаў і летаў з той пары, як я, пераступіўшы парог хаты бабкі Параскі, убачыў прысценны ручнік-абярэг. У вышытых сюжэтах — памяць русаляў XI–XII стагоддзяў. Ідыяграма вады — знак з эпохі неаліту. Зырчэлі выявы Берагіні, Вясны-Лады. Гэты ручнік «перанёсся» потым на вокладку майго зборніка «Пры сьвячэньні...»

Не маркоцілася хатка і ў жніўні 2004 года. Пажадалі «...значных поспехаў у развіцці музея і творчасці аўтара» А. Муха з Еўпаторыі, Л. Абуховіч і М. Абуховіч з Наваполацка, сям'я Мухаў з вёскі Баліны.

Адчувальным быў дотык ласкі не толькі з Еўпаторыі. Аляксандр Аўсяннікаў і Уладзіслаў Перац у жніўні перадалі паклон з С.-Пецярбурга і Ельца: «...успомнілі карані свае, удыхнулі часцінку беларускай духоўнасці».

А 5 верасня 2004 года паэтка Наталка Пазняк з Кіева была зачаравана прыберагам Дзвіны:

*Жыццё — бы ў кліпе стэп:*
*Да шчасця шлях не гразкі...*
*Як смачна пахне хлеб*
*На ручніку Параскі.*
*Калі — камін пячэ,*
*А поруч — добрі друзі, —*
*Размову ткаць лягчэй:*
*Мы як чмялі на лузе.*
*Душа ўваскрэсла ў нас:*
*Настоена на мяце.*
*Задумваецца час:*
*Мы ж у сакральнай хаце.*
*Прысядзем на парог.*
*Хай паспрыяюць продкі,*
*Каб з тысячы дарог*
*Быў шлях сюды кароткі.*
*Мы вернемся ў той сад,*
*Дзе з ласкай кветка-краска...*
*...Завуць на свой пасад*
*Панізнік і Параска.*

...Доўга самоцілася на стале Гасцявая кніга. З апошніх запісаў просяцца словы пра тое, што 30 верасня 2008 года Л. Лямневіч, В. Фесіна, Р. Бабашка ад імя ўдзельнікаў семінара арганізатараў адукацыі Віцебскай вобласці пажадалі: «...росквіту музею, цікавых гасцей, натхнення, здароўя, новых плённых сустрэч!».

Новыя сустрэчы былі. Былі і перамовы з паважанымі асобамі раёна. Але не было ўхвалена маё памкненне перадаць у дарунак раёну музейную сядзібу, каб было каму апекавацца цікавымі наведнікамі на тысячагадовым Шляху з Грэкаў у Варагі.

З ручніком-абярэгам бабкі Параскі адсвяткаваў чарговую гадавіну музея і прамаўляю на кужаль: «Берагіня — Вялікая Багіня Маці-Зямля-Карміцелька! Вясна-Лада! Удзячны вам і Уладару нябёсаў за асвячэнне абдоймаў з Айчынай, да якой прытуляліся вашыя і мае госці. Не змаркоцімся ў незабыўнасці».

# Лепешаў і я



Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**Яшчэ ў далёкія студэнцкія часы прыдумалі жарт: ініцыялы выкладчыка з'іначылі на такі лад: Лепешаў і я.**

Падкрэслілі такім чынам, што ён быў у жыцці літаральна кожнага з нас, студэнтаў. Як пасля заставаўся побач з намі, ягонымі калегамі. З кожным з нас.

## Дзякуй, дзякуй

Той раптоўны востры боль, што ўвайшоў у сэрца ад жалобнае весткі, праз усе развітальныя дні пераадольваўся пачуццём удзячнасці лёсу за тое, што ён быў у маім жыцці. За тое, што быў мне не толькі Настаўнікам, калегам, але і старэйшым Сябрам, якіх у мяне нават менш чым адзінкі. Ні з кім так доўга не размаўляла праз тэлефон, як з ім. Не, я была далёка не адна, каму ён тэлефанаваў і з кім размовы доўжыліся бясконца. Але мы з ім аднолькава ўспрымалі тое, што робіцца ў свеце, аднолькава перажывалі за Украіну, за нашу беларускую бяду, чыталі адны перыёдыкі, абменьваліся кнігамі, прачытанае заўсёды абмяркоўвалі. Пра тое ў маім вершы «Летні меланж, 2014»:

*Гадзінамі з І. Я. Лепешавым*
*гаворым,*
*бядуем:*
*што ж там, як Украіна,*
*і што пішуць нашыя*
*НН, НВ, НЧ...*
*(усё з ім чытаем).*
*Чорная, страшная пляма —*
*збіты боінг...*
*І ўжо звыкла зусім:*
*зноў Ізраіль, Палестына...*

У канцы размовы Іван Якаўлевіч абавякова казаў: «Дзякуй Вам за тое, што патэлефанавалі». Калі ж сам тэлефанаваў: «Дзякуй Вам за размову».

## Так ён працаваў

Пра адзін незвычайны выпадак, які надзвычай ярка характарызуе Івана Якаўлевіча як вучонага-працаўніка, распавёў Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч.

Гэта было яшчэ ў мінулым стагоддзі. Неяк перад самым Новым годам, калі ўжо праводзіць стары селі, зазваніў тэлефон. Натуральна, падумалася: нехта хоча павіншаваць. Тэлефануе Лепешаў: «У Вас там кніга ёсць... Паглядзіце, калі ласка, мне трэба... Я якраз пішу...»

У той час, калі ўся тая бязмежная краіна святкавала Новы год, ён працаваў над сваёю чарговай кнігай. Ён пісаў. Для яго не было нічога, апроч працы. У ёй знаходзіў адхланне, задавальненне. Праца была ягоным шчасцем.

## У цемры

У той страшнай цемры ГУЛАГу (заўсёды называў лічбу — колькі дзён і начэй быў там), калі станавілася невыносна, Іван Якаўлевіч чытаў вершы. Любіў класіку, беларускую, рускую, асабліва любіў Купалу, Твардоўскага, Куляшова. Накрываўся з галавою, хаваўся ад усіх і чытаў. Лячыў сваю душу паэзіяй.

Другая цемра ўпрытык падышла да яго на схіле жыццёвага шляху, у шпіталі. Быў якраз вельмі нядобры час: перад пачаткам ацяпляльнага сезона. Не дай Божа трапляць у шпіталь такою парою. Літаральна да апошняга дня чытаў кнігі, газеты. Але рукі мерзлі так, што ўтрымаць нават газету было цяжка. Тады ён накрываўся і ў цемры чытаў вершы. Тыя ж, улюбёныя: Купалы, Твардоўскага, Куляшова...

## Нічога не баяўся

Прайшоў вайну. Быў паранены. Насіў у целе асколак. Быў незаконна асуджаны. Прайшоў ГУЛАГ. Выжыў. Ці меў ён страх? Безумоўна. Але ў апошнія гады ён не баяўся нічога. Бо страх свой перажыў.

Выратоўваў ратаваць мову. Сабраў некалькі дзясяткаў подпісаў пад зваротам да кіраўніка дзяржавы ў абарону мовы. Многія падпісаліся. Зразумела, што быў то марны лямант.

Адзін з нямногіх, хто не баяўся даць інтэрв'ю Радыё Свабода. Адзіны з усіх выкладчыкаў ГрДУ, хто апошнім часам друкаваўся ў «Народнай волі».

## Е.б.ж.

Часам чула ад Івана Якаўлевіча:
— Хацеў сказаць ёй: «Е.б.ж.», але падумаў, ці зразумее?
— Сказаў яму: «Е.б.ж...»

Што азначала гэтая абрэвіятура? — «Если буду жив». Чаму па-расейску? Бо адтуль, дзе не было вядома, ці выжыве. З ГУЛАГу. Дзе мова была руская. Дзе з яго асабліва здзекаваўся зямляк-«прыдурак»: «Ты белорус! Бульбаш! Я по выговору твоему слышу».

Вярнулася гэта ў апошнія гады. Калі таксама не ведаў, ці будзе жыць.

Самы вялікі клопат нашага Настаўніка — ягоныя кнігі. Навуковыя працы. Выходзілі толькі ў дзяржаўных выдавецтвах. Гэта была справа прынцыпу. Патрэбна была вялікая настойлівасць, цярплівасць, часам упартасць, каб дабіцца чарговага выдання. А гэта ў яго было. Колькі даводзілася яму тэлефанаваць, часам і ездзіць у той нябліскі Мінск!

Пра ўсё гэта распавядаў у тэлефонных размовах найперш.

Калі часам чуў на тым баку провада, што выданне пераносіцца, што мо на наступны год, хацелася яму сказаць сваё «е.б.ж.». Але гаварыў не заўсёды. Бо ці зразумеюць? Калі чалавеку ўжо не толькі за 80, але і за 85, і здароўе ягонае ніякае, то ці можа быць ён пэўны, што будзе жыць, што дачакаецца праз той цэлы год?

Ён выдаў усе свае запланаваныя кнігі.

## Дзе той інтэрнэт?

Магчымасці інтэрнэту ўспрымаў як нешта незвычайнае, як цуд. Калі раней прасіў, тэлефануючы: «Паглядзіце, там у Вас у кнізе тое і тое павінна быць. Мне трэба цытату спраўдзіць», то апошнім часам казаў: «Папытайце ў свайго гугла, мо падкажа». І ўсё дапытваўся: «Дзе той інтэрнэт? Што такое тая віртуальная прастора? Недзе ж яна ёсць...»

Дзівіўся часам: «Колькі ўсяго ў артыкуле, гэта ж трэба аўтару так шмат звестак сабраць». Калі падказвала, што на тое інтэрнэт ёсць, моцна расчароўваўся: «Дык ён сам не шукаў? Што гэта за работа?! Вось нам раней, каб нешта знайсці, трэба было горы літаратуры перакапаць».

Сам кампутар засвоіць так і не захацеў. Усё жыццё верна служыла яму друкарка.

## Апошняе свята ветэрана

Напярэдадні Дня Перамогі Іван Якаўлевіч хадзіў на святочныя сустрэчы ва ўніверсітэт. Заўсёды запрашалі. Апошнім разам сышоў, не дабыўшы да канца. Не вытрымаў таго, што ўхвалялі, за што ўздымалі чарку афіцыйныя ветэраны. Зусім і не ветэраны. Бо ён тады ўжо быў адзіным і апошнім ва ўніверсітэце, хто ваяваў. І адзіным рэпрэсаваным.

Тэлефанаваў, расказваў, як не вытрымаў, як устаў і сказаў ім усё, што пра іх думае. Сказаў: «Я сыходжу!» І сышоў...

Гэта было ягонае апошняе святкаванне Дня Перамогі, якую ён успрымаў па-быкаўску.

## Апошнія кнігі

Тым апошнім летам Іван Якаўлевіч чытаў не меней, чым заўсёды.

Застаўся даволі вялікі запіс, зроблены вясною супрацоўнікамі ўніверсітэцкага музея. Расказвае пра сваю сям'ю, пра дзяцінства. Пра многае. Гаворыць няспешна, удумліва. Без недарэчнасці не абышлося: асоба, што рабіла той запіс, пытанні задае па-руску. Дзе ж у ГрДУ ўзяць беларускамоўную?

Вось жа, між іншага гаворыць і пра чытанне. Пра тое, што ўсё жыццё чытаў. Сёння гэта гучыць як ягоны тэстамент: «Чытайце!»

Калі набыла кнігу Паўла Севярынца «Беларуская глыбіня» ў часе прэзентацыі ў нашым горадзе і прапанавала пачытаць, узяў не вельмі ахвотна: «Ну што Севярынец? Публіцыст. Але давайце. Хай, калі так хваліце».

Гэта была апошняя кніга, якую не проста прачытаў, а перачытаў двойчы. «Але ж і кніга! Як ён гэтак усё сабраў, як глыбока ўсё вывучыў! Недарэмна ж — глыбіня. Не ведаў, што Севярынец такі цікавы пісьменнік». Кнігу трымаў у сябе вельмі доўга, што для яго не было характэрным: звычайна вяртаў хутка. Папрасіў: «Хай яшчэ пабудзе. Такая добрая кніга». Бедаваў толькі: «Нікому гэтую кнігу даць нельга: ніхто з нашых не прачытае». Між шпіталямі, калі заходзіла да яго, вярнуць



**Іван Лепешаў.** Фота Радыё Свабода

забыўся. Перажываў: «Я ж кнігу Вам не аддаў». Суцяшала: «Нічога, я яе прачытала. Аддасце, як вернецеся». Не вярнуўся...

А самая апошняя, падараваная Івану Якаўлевічу кніга — «Методыка шчасця» Алеся Мікалаевіча Белакоза. Аўтар перадаў яе праз Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча, які, ведаючы, што збіраюся ў шпіталь, перадаў мне. Прачытаць цалкам так і не паспеў. Але пазнаёміўся, штонішто, як сказаў, прачытаў.

Ён быў вялікім Чытачом.

## Апошні артыкул

Напісала пра апошнюю кнігу Івана Якаўлевіча «Пошукі і роздум». Даслала артыкул у «новачасную» «Літаратурную Беларусь». Прасіла змясціць у кастрычніцкім нумары, каб нагадаць чытачам пра ягонае дзевяностагоддзе. Але рэдактар запярэчыў: «Не будзем чакаць так доўга. Надрукуем у вераснёвым нумары».

Той нумар газеты яму перадалі з дому. Расказвае мне, што чытаў. Пра розныя іншыя артыкулы гаворыць. А пра той не кажа. Пытаюся: «Ці чыталі артыкул пра сваю кнігу?» — «Ну што Вы! Самы першы прачытаў. Не проста чытаў, а чытаў два разы».

Калі наведвалі яго, бачыла той нумар «Літаратурнай Беларусі» на ягонай тумбачцы.

Гэта быў апошні артыкул пра створанае Іванам Якаўлевічам, які ён прачытаў.

## Не паспелі

А вось кнігу да ягонае круглае даты выдаць не паспелі.

Рыхтаваць яе пачалі яшчэ з зімы.

Усе ведалі, што Іван Якаўлевіч хворы, што трэба спяшацца. Але ўсе чакалі 90-годдзя. Ды і выдавецтва ў Гародні, дзе нашы кнігі выходзяць, толькі адно — ЮрСаПрынт.

«Краявіды роднай мовы» — так яе назвалі. Узгаднілі назву з ім. Сказаў сваё звычайнае: «Няхай».

Сыход Івана Якаўлевіча прымусіў зрабіць рэдакцыйныя праўкі ва ўжо гатовы макет. Не ўсё, праўда, і выправілі.

А ён так яе чакаў! Штоpазу па тэлефоне пытаўся, што з кнігай. Пытаўся і ў апошнюю сустрэчу ў шпіталі...

Не дачакаўся.

## Па розных шляхах

Усе мы, ягоныя вучні, ішлі ўслед за Іванам Якаўлевічам. Так усе сцвярджалі, развітваючыся з ім. Але ці так гэта было насамрэч? Хто, як не ягоныя вучні, выкінулі з планаў універсітэцкага выдавецтва «Этымалагічны слоўнік прыказак» — апошнюю вялікую навуковую працу вучонага (яе ён усё ж выдаў у Мінску, у дзяржаўным выдавецтве), пасля інтэрв'ю для «Радыё Свабода» забаранілі прэзентацыю гэтага выдання, якую самі і прапанавалі? Праўда, ён тае забароны нават не заўважыў. Ад самага пачатку, калі з ёю завяліся, казаў: «Навошта тая прэзентацыя?» Ніколі ні адной кнігі свае не прэзентаваў.

У апошні дзень, калі ўсё ж быў атрыманы дазвол на развітанне з былым вучоным у корпусе беларускай філалогіі ўніверсітэта, усе мы таксама ішлі ўслед за ім. Каб пасля памінак вяртацца не разам. Усе прайшлі па адной вуліцы, але рознымі групамі, рознымі шляхамі. Ганаруся нашай сябрынай: Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, Ігар Васільевіч Жук і мы з таленавітай Надзеяй Чукічовай. Размаўлялі пра Івана Якаўлевіча, пра службу ў саборы. Святар чамусьці вельмі многа гаварыў. Тлумачыў, што адбываецца з душою ў першы, трэці, дзявяты, саракавы дзень. Заклікаў у часе службы, зразумела, маліцца, а яшчэ светла згадваць таго, хто адышоў: «Калі на душы ў вас стане светла, надыдзе супакаенне, значыць, малітвы прынятыя Небам»...

На саракавіны па Івану Якаўлевічу сабралася нас вельмі мала.

На гадавіну збярэмся?..

## Не ў сваю дывізію...

Ён меў узнагароды таго, ваеннага часу. Юбілейных не прызнаваў. Хоць і выдаваліся, як усім ветэранам. Ад ордэна Францыска Скарыны, якім яго хацелі ўзнагародзіць да юбілею, катэгарычна адмовіўся. Па зразумелых прычынах. А вось ад ганаровага месца на могілках адмовіцца ўжо не мог. Ён і не ведаў, што ветэранаў хаваюць асобна, у прэстыжным першым сектары. Калі і думаў пра вечнае, то толькі пра свае кнігі, пра сваю працу.

У тым сектары спрэс тыя, хто ваяваў на розных франтах. Не абавязкова з фашыстамі. Хто мае заслугі перад краінай. На жаль, у нас гэта блытаюць з уладай, сістэмай. Між іх знайшліся нават тыя, хто і перад вечнасцю не прызналі сілы вышэйшай, нябеснай. Вусцішна было ўглядзецца свежыя магілы без крыжа. Узгадалася, калі глядзела на здымкі суседзяў Івана Якаўлевіча з медалёвымі грудзьмі, як ён «адсвяткаваў» з такімі свой апошні Дзень Перамогі.

Сказала, што і там ён будзе ім сваю праўду даносіць. А Ігар Васільевіч дапоўніў, падкарэктаваўшы паэта: «Не ў сваю дывізію пайшоў...».

# «Чорны кот», Дамініка, Муня-птушкавод ды іншыя

**Гэтым разам у сваім аглядзе чарговага (84-га) нумара часопіса «Дзеяслоў» я пастараюся ні на што іншае, апроч саміх тэкстаў, не адхіляцца.**




Пачну з найбольш яркіх, уразлівых і насамрэч вартых адзнакі і чытацкай увагі твораў.

Аднастылёвая, бессюжэтная па сутнасці, манатонная гісторыя жыцця маладога творцы-кампазітара, якая (маладая жанчына) апынулася ў замежжы... Па-першае, можна сказаць, што гэта спроба выснаваць філасофію творчасці ў жанры мініяцюрнай эсэістыкі, прафесійна зведзенай у адно адмыслова сатканае палатно...

Па-другое, як для мяне, гэта як бы ўсведамленне ўласнай творчай адпрэчанасці, а таксама спроба ўявіць сябе праз кагосьці старонняга, хто валодае тваёй падсвядомасцю *(«Ён пісаў пра сутнасную бяздомнасць музыкі ў нашу эпоху»)*... Ну і, па-трэцяе, гэта завуаляваная тэза пра нацыянальнае, якое вылузваецца з наднацыянальнага. Пра месца мастацтва і творцы ў сучасным свеце.

Прыкладна такі суплёт уражанняў, развагі высноў пакідае новая аповесць **Ігара Бабкова** «Эва Дамініка: лінія фронту». Вельмі цікавую рэмарку робіць гераіня падчас канцэрта пасля свайго вяртання на Радзіму напрыканцы аповесці: *«Неістотна, у якіх абставінах мы заўтра прачнемся, падумала яна раптоўна. Сніць нас хтосьці ці прыдумвае. Неістотна, ці мае ён план і які менавіта. Важна, што ва ўсіх нашых снах, усіх лабірынтах, усіх магчымых рэальнасцях у нас ёсць для каго быць музыкай».*

Пагаджуся і раю вам пачытаць новы твор мінулагодняга лаўрэата прэміі Гедройца. Не з прычыны яговых колішніх лаўраў, а з нагоды апублікавання ім неардынарнага і таленавітага літаратурнага тэксту.

Пісьменнік **Валерый Казакоў** пачынае публікацыю рамана «Чорны кот». Раман павінен выклікаць палеміку ў грамадскіх колах, асабліва ў нацыянальна заангажаваных, але, як для мяне, то ён дазваляе паспалітаму беларускаму чалавеку, у тым ліку і свядомаму, азірнуцца на мінулае сваёй Айчыны і паразважаць пра былое халодным розумам... Трэба пазначыць, што празаічныя творы пісьменніка В. Казакова заўжды інтрыгуюць — на мяжы рэальнасці (амаль дакументальнай) і рамантычна-прыгодніцкай фантазіі. Цікава, што, спрабуючы прымірыць у адным жанры гэтыя дзве сутнасці і нават прывесці іх да пэўнай гармоніі, ён як пісьменнік не церпіць творчай паразы. Цяпер што да зместу, сюжэту і самой мастацкай ідэі рамана. Малады опер органаў бяспекі РБ Вячаслаў Скарга займаецца разгадкай нацыяналістычнага супраціву ў Беларусі падчас вайны і ў пасляваенны час; ён задаўся мэтай разабрацца ў асобных людзях, іх учынках, дзеях, а таксама ў ідэйнай ды ідэалагічнай скіраванасці таемнай аперацыі, якая называлася «Чорны кот». Падчас выпісанай аўтарам гісторыі вельмі цікава адсочваць эвалюцыйную зменлівасць поглядаў маладога опера КДБ Вячаслава, што робіць яго асобу ўсё больш адкрытай у пытаннях уласнай нацыянальнай годнасці і самавызначэння... На маю думку, галоўнай тэмай і ўнутранай (хоць і не надта выпуклай тэкстава) ідэяй рамана ўсё ж з'яўляецца спроба аналізу і вызначэння самасвядомасці беларускага, іх стаўленне да родавай, айчыннай і дзяржаўнай суверэннасці, іх ментальная адпрыродна-ўнутраная прага да аб'яднальнай ідэі, цярпімасці і цэласнасці нацыі і ўсяго беларускага народа як такога... У аўтара даволі ясны моўны склад выкладання тэксту і строгі традыцыйны стыль пісьма. Словам, раю пачытаць, разудмаца... Цвяроза і халаднага і захопленага паглынання тэксту. Зазначу, што ў аўтара не было мэты перапісаць гісторыю на свой капыл. А вось пераасэнсаваць яе з сённяшняга пункту погляду — так.Таму, як я ўжо зазначыў вышэй, стаўленне да гэтай кніжкі ў людзей розных палітычных светапоглядаў не будзе аднапалярным. Але і гэта, я лічу, таксама будзе сведчыць на карысць твора, яго разгаласу і чытацкай прыцягальнасці.

Нечаканы ўразіў цудоўны, арыгінальным стылем выпісаны **Масеям Кульбакам** аповед з глыбінь псіхалогіі затоенага яўрэйскага жыцця, які называецца «Муня-птушкавод і яго жонка Малкелэ». Мастацкія маргіналіі жыццяпісу пакалечанага, забітага і забытага чалавека з птушыным душой, выдатна перастрораныя Вольфам Рубінчыкам з ідыш на беларускую мову.

Адметная нізка вершаў **Аксаны Данільчык.** Паэтку прыцягваюць і хвалююць знешнія праявы жыцця, якія працягваюць жыць унутры чалавека... Своеасаблівыя метафары таго сусперажывання. Хоць уласна ў мяне ёсць адчуванне, што сучаснай паэзіі бракуе менавіта сярмяжнай пакутлівай рэалістычнасці, якая колісь вымала чытацкую душу вонкі...

Паэт, эсэіст і публіцыст **Міхась Скобла** нявогляддзь паўстаў на парозе свайго паўвекавога жыцця. Віншуем! Найперш, вядома, з важкім творчым плёнам. Рэдакцыя друкуе нізку вершаў юбіляра пад назовам «Кансервацыя агню» (апошнім часам цягне Міхася да розных таемных закрытасцяў, я тут маю на ўвазе і назву яго нядаўняй кнігі «Саркафагі страху»). Творы М. Скоблы маюць глыбока нацыянальны замес, а лірыка заўжды грамадзянска-бунтоўная, нястрымная, як вершнік, і нечаканая ў сваіх натуральных праявах.

Лірычны, песенны, фальклорна-бытавы верш паэта **Леаніда Дранько-Майсюка** сёння, у святле пашанотнага ўзросту, вельмі цёпла кладзецца мне на душу. Ён піша пра сваю Давыд-Гарадоччыну, але, чытаючы яго, мне ўспамінаецца мая Клечччына, а ўсім нам — наша агульная Бацькаўшчына — Беларусь.

*Што значыць пакінуты*
*волі сляпой*
*Той сімвал на страшнай вадзе?*
*Багацце, якое губляем з табой...*
*Радзіма, якая ў бядзе...*
*Ці проста нічога,*
*трызненне адно...*
*Ці мала што сніцца каму,*
*Аднак жа здаецца адзіным яно*
*І родным здаецца, таму...*

Даўнавата ўжо не даводзілася чытаць новых вершаў **Сяргея Законнікава.** Звычайна яны з традыцыйна грамадзянскім матывам, таму гэтая яго нізка па-добраму здзівіла, найперш — шчыра-шчымлівай споведдзю перад немінучым «розвітам», як ён сам тое называе. Такім вершам вершаў:

*Як небяспечна мяняемся мы!*
*А за спіною — дыханне зімы...*
*Не перапішаш начыста быццё.*
*Мамачка, мама...*
*Каб жа знаццё...*

Віленскія міні-казкі **Адама Глобуса** — гэта такія метафарычна-містычныя показкі-прыпавесці, выбудаваныя на рэаліях асобных людзей і іх незвычайных учынках. Чытанне даволі напружанае і патрабуе зваротнай чытацкай рэакцыі і разважлівых высноў. Прывяду цалкам казку «Залатыя рогі»:

*«Маладой віленчанцы Антаніне Сініцынай спадабаўся анёл. Жанчына так закахалася, што лётала за ім неадчэпна. Куды анёл — туды і Сініцына. Залыцанні жанчыны скарылі крылатага прыгажуна. Яны пачалі цалавацца і любіцца. Антаніна дзвюма рукамі ўчапілася ў анёльскі німб. Анёл ускінуў галаву. Німб хруснуў. У руках жанчыны застаўся вялікі кавалак бясцэннага ўпрыгожання, а на анёльскай галаве ўзніклі залатыя рогі. Так у нашай Вільні і з'явіўся першы чорт».*

**Усевалад Сцебурака** ўвесь дастатку ў сваіх вершах не змяшчаецца. Тым больш, што і самі вершы заўважныя, чытаюцца ўзахоп, бунтуюць унутры. Сам паэт наконт іх выказваецца гэтак:

*А калі ўсё ж твору —*
*лёс на свет з'явіцца*
*(музы час той ведаюць —*
*іншым не відно),*
*тут у слухачы ўжо можна й*
*не прасіцца —*
*сам паэт заявіцца*
*з вершам заадно!*

Россып мініяцюр пад агульным назовам «Вокны» прапануе **Алесь Емяльянаў-Шыловіч.** Не першы раз чытаю яго малую лірычную прозу і атрымліваю гэткі скразнякова-свежы наталюючы ўдых, своеасаблівы тонус для перадумовы ўласнай творчасці.

У маладой мастачкі з Гайнаўкі, што на Беласточчыне, **Кацярыны Сянкевіч**, час ад часу, і вершы здараюцца вартымі ўвагі. Хоць яна можа мне і запярэчыць:

*Маё жыццё патрабуе*
*асэнсавання,*
*нечаканага.*
*А ты чакаеш*
*і нечаканае асэнсаванне перада мной*
*не ты адкрываеш.*
*Адкрываюць яго тыя*
*што чытаюць мае вершы*
*а ты чытаеш маю прыгажосць.*

Апавяданне «Кара» **Вольгі Мікалайчык** зроблена добротна. Густы, змрочна-крывавы тэкст зладаваны з прыгодаў беларускай валанцёркі ў часе падзей, што адбываюцца ва Украіне. Цынічна кажучы, — кошт і сутнасць сабачага і чалавечага жыцця на адлегласці стрэлу і міласэрнасці... Псіхалогія чалавека на мяжы выжывання, як фізічнага, так і духоўнага... Па сутнасці — пашыраны (метафарычны) сцэнарый кароткаметражнага мастацкага фільма.

Рэспект **Андрэю Хадановічу.** Яго абеларушаны Шарль Бадлер проста выдатны. Каб не займацца бяздоказным хваласпевам (французскай не валодаю, параўноўваю з перакладамі на рускую мову), працытую пару шэдэўральных строф з верша «Смерць мастакоў»:

*О, колькі год табе яшчэ*
*насіць каўпак,*
*Звінець званочкамі й крыўляцца,*
*вечны блазне?*
*Сумуеш па красе,*
*як па свабодзе вязні, —*
*Карыкатурны жрэц,*
*пародыяў мастак.*
*Хоць бачыцца мішэнь,*
*але пацэліць — як?*
*І прадаеш душу без гневу і прыязні,*
*Каб толькі Ідэал*
*разгледзець падрабязней...*
*І нішчыш накіды, і плачаш,*
*як маньяк!*

Л. Хейдарава міла-душэўна і сардэчна-кранальна перадала беларускаму чытачу пачуцці і подумкі лірычнай украінскай паэткі **Таццяны Якавенкі.**

Штрыхі да творчага партрэта **Змітра Віталіна** публікуе Віктар Жыбуль. Як на мой погляд, такія літаратурна-чалавечыя адкрыцці і прасвятленні, якія робіць Віктар, вельмі істотныя для гісторыі нашай літаратуры і для папаўнення яе біяграфічных, творчых і мастацкіх здабыткаў. Паэт Віталін, які пад псеўданімам доўгі час жыў забытым у Адэсе, не растраціў і не загубіў талент, нягледзячы на свой пакручасты чалавечы і літаратурны лёс.

Друкуюцца і невядомыя вершы З. Віталіна. Вось радкі аднаго з іх:

*Паэзія — ты крываточыца,*
*Ты — раны незагойнай боль.*
*А як карціць, а як жа хочацца*
*Пайсці ў найстрашную з няволь.*
*Так, я — нявольнік твой, паэзія,*
*Нявольнік той, што сам прыйшоў*
*У кайданы твае жалезныя*
*Не толькі целам, а й душой.*

Заканчэнне электроннага ліставання **Таццяны Сапач** пададзена ў публікацыі С. Дубаўца. Такая жывая Таніна цёплая, трапяткая ды іранічна-ўсмешлівая душа, нават не верыцца, што не вернецца...

**Мікола Гіль** заканчвае публікацыю лістоў, атрыманых ім падчас працы рэдактарам тыднёвіка «Літаратура і Мастацтва».

Пра жыццё і творчы лёс заходнебеларускіх паэтаў з Дзятлаўшчыны (Івана Пышко — псеўданім Гарасім Прамень, Івана Івашэвіча — Пятрусь Граніт і Аляксандра Лебедзева — Васіль Струменя) піша ў сваім літаратуразнаўчым нарысе **Сяргей Чыгрын.**

**Анатоль Астапенка** заканчвае свае біяграфічна-мемуарныя запісы пра жыццё і творчы лёс выдатнага нашага празаіка, паэта і крытыка Міхася Стральцова.

Напрыканцы нумара вы можаце пазнаёміцца з аналізам арыгінальнай творчасці паэткі Марыі Вайцяшонак і новага зборніка вершаў пінчанкі Алены Ігнацюк, пра якіх напісалі **Л. Галубовіч** і **У. Сівіцкі.**

Рубрыка **«Дзеяпіс»** дапаможа чытачам адшукаць патрэбныя ім кнігі.

Таму — не пакідайце мовы сваёй і чытайце кніжкі свае...

**ЛеГал**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*
*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*
*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*
*Будзьма разам!*

ПРЭМІІ

## Букераўская прэмія

**Яе ўпершыню ў гісторыі атрымаў амерыканец...**



Лаўрэатам Букераўскай прэміі 2016 года стаў Пол Біцці за раман «Распродаж». Ён — першы амерыканскі пісьменнік, якому прысудзілі самую прэстыжную брытанскую літаратурную ўзнагароду.

Пераможцу абвясцілі 25 кастрычніка ў Лондане. Ён атрымаў чэк на 50 тысячаў фунтаў стэрлінгаў (каля 61 тысячы долараў ЗША).

«Распродаж» — сатырычны раман пра расавую палітыку ў ЗША. Яго герой — чарнаскуры мужчына, які спрабуе вярнуць рабства і сегрэгацыі ў адным з прыгарадаў Лос-Анджэлеса.

«The New York Times» уключыў раман у пералік найважнейшых кніг 2015 года. Вострыя гумар і знішчальную сатыру ў рамане высока ацанілі крытыкі, аднак Пол Біцці сябе не лічыць сатырыкам. Ён мяркуе, што крытыкі звяртаюцца да камічнага ў творы, каб не гаварыць пра яго сур'ёзныя аспекты.

Букераўскую прэмію прысуджаюць з 1969 года. Да 2014-га лаўрэатамі маглі быць толькі грамадзяне Вялікабрытаніі, Ірландыі і краін Брытанскай Садружнасці. Цяпер жа пераможцам можа стаць пісьменнік з любой краіны, які піша на англійскай мове.

У мінулым годзе прэмію атрымаў ямаец Марлон Джэймс за раман «Кароткая гісторыя сямі забойстваў».

## Літпрэмія — за адзін сказ

**Раман «Сонечны гарсэт» ірландца Майка Маккормака атрымаў прэстыжную прэмію Голдсмітскага ўніверсітэта Лондана. Уся кніга складаецца з аднаго сказа.**

Па сюжэце 223-старонкавага рамана, інжынер з захаду Ірландыі Маркус Конуэй ненадоўга ўваскрасае з мёртвых у дзень памінання памерлых. «Палітыка, сям'я, мастацтва, шлюб, здароўе, грамадзянскі абавязак і экалогія — толькі некаторыя з тэм, якія аўтар закранае ў расповедзе, выкананым лірычнай, але моцнай прозай», — пракаментаваў рашэнне журы яго старшыня прафесар Блэйк Морысан. Паводле яго слоў, пісьменніку ўдалося нестандартна адлюстраваць жыццё звычайнага рабацягі.

51-гадовы Майк Маккормак стаў трэцім за апошнія тры гады аўтарам з Ірландыі, які атрымаў прэстыжную ўзнагароду і прыз — 10 тысячаў фунтаў стэрлінгаў.

Літаратурная прэмія лонданскага Голдсмітскага ўніверсітэта за інавацыі ў літаратуры была заснавана ў 2013 годзе. На яе могуць прэтэндаваць брытанскія ды ірландскія пісьменнікі.

Майк Маккормак пачаў літаратурную кар'еру ў 1996 годзе. Тады за дэбютны зборнік апавяданняў ён атрымаў ірландскую літаратурную прэмію «Rooney Prize».

# Суаўтар Шэкспіра — Крыстафер Марло?

**Брытанскага пісьменніка Крыстафера Марло прызналі суаўтарам «Генрыха VI» Уільяма Шэкспіра, пішуць сайты са спасылкай на «The Guardian».**



Такую выснову зрабіла каманда з 23 навукоўцаў з пяці краін. З дапамогай камп'ютарных тэхналогій яны высветлілі, што К. Марло ўдзельнічаў у стварэнні трох частак «Генрыха VI». У часе даследавання было ўстаноўлена, што 17 з 44 п'ес Шэкспіра было напісана ў суаўтарстве з іншымі пісьменнікамі і драматургамі.

Прозвішчы Марло і Шэкспіра з'явіліся на тытуле акадэмічнага выдання твораў Шэкспіра, якое Оксфардскі ўніверсітэт выпусціў сёлета 27 кастрычніка.

Крыстафер Марло — англьскі паэт і драматург. Яго самым вядомым творам лічыцца п'еса «Трагічная гісторыя доктара Фаўста». Дыскусіі пра яго дачыненні да твораў Шэкспіра пачаліся ў XVIII стагоддзі. Паводле адной з версій, Марло інсцэніраваў сваю смерць у 1593 годзе і пісаў пад імем Шэкспіра...

# Невядомыя творы Фіцджэральда

**Апошнія неапублікаваныя творы амерыканскага пісьменніка Фрэнсіса Скота Фіцджэральда выйдуць вясной 2017 года, паведаміла «The Guardian».**



Зборнік апавяданняў Фіцджэральда пабачыць свет у амерыканскім выдавецтве «Simon & Schuster». Гэтыя творы былі напісаныя больш за 80 гадоў таму, але ні разу не публікаваліся. Яны захоўваліся ў прыватных калекцыях.

Пісьменнік стварыў некалькі тэкстаў у сярэдзіне і напрыканцы 30-х гадоў для выдавецтва «Charles Scribner's Sons», аднак яны так і не былі апублікаваныя з-за «неадпаведнасці стылю і тэмы гісторый Фіцджэральда запытам выдавецтва».

«Замест таго, каб змяніць свае творы пад дыктоўку рэдактараў, Фіцджэральд палічыў за лепшае, каб яго працы засталіся неапублікаванымі ў той час, калі ён адчуваў патрэбу ў грошах», — паведамілі навіны.

Невядомы зборнік твораў Фіцджэральда будзе называцца «Я б памёр для цябе» і быў напісаны ў той час, калі пісьменнік знаходзіўся ў гарах Паўночнай Караліны, а яго жонка Зельдэн жыла ў санаторыі непадалёк.

У 2017 годзе таксама ўпершыню выйдзе «Аповесць пра Берэна і Люцыен» Джона Толкіна.

# Імпарт кніг з Расіі ва Украіну скараціўся ў 10 разоў

**З 2012 па 2015 год імпарт кніжнай прадукцыі з Расіі ва Украіну паменшыўся з 33 да амаль 3,7 мільёна долараў ЗША.**

Пра гэта падчас гадзіны пытанняў да ўраду ў Вярхоўнай Радзе Украіны заявіў віцэ-прэм'ер Украіны па гуманітарных пытаннях Вячаслаў Кірыленка (як паведаміла «Еспресо.TV»).

«Афіцыйная статыстыка, і гэта вельмі цікава, паказвае стабільнае падзенне імпарту расійскіх кніг ва Украіне. Вось 2012 год: імпартавана на 33 мільёны долараў, у 2013 годзе — 23 мільёны, у 2014 годзе — пачатак рускай агрэсіі — на 12 мільёнаў долараў імпарт з Расіі кніг, у 2015 годзе — ужо 3,7 мільёна долараў», — сказаў В. Кірыленка.

Ён адзначыў, што цяпер, паводле ацэнак асацыяцыі выдаўцоў і кнігараспаўсюднікаў, за восем месяцаў гэтага года ва Украіну з Расіі ўвезена кніг не больш чым на 2 мільёны долараў.

«Аднак «шэры» імпарт працягвае квітнець, і менавіта там хаваецца антыўкраінская прадукцыя, якая распальвае міжнацыянальную варожасць, не прызнае права на існаванне Украіны, бэсціць нашых байцоў і добраахвотнікаў», — адзначыў віцэ-прэм'ер Украіны.




# Казка Стывена Кінга

**Стывен Кінг выдасць дзіцячую казку пра антрапаморфны паравоз, паведаміла «The Guardian». Кніга будзе называцца «Чарлі Ту-Ту» («Charlie the Choo-Choo»). Кінг апублікуе яе пад псеўданімам Берыл Эванс.**

У казачнай гісторыі распавядаецца пра хлопчыка Джэйка, які сустрэў «жывы» чалавекападобны паравоз. «Ты выглядаеш шчаслівым, але я думаю, гэта ўсяго толькі маска. Думаю, ты анікольк не шчаслівы, а Чарлі — гэта не тваё сапраўднае імя», — гаворыць Джэйк у кнізе.

«Чарлі Ту-Ту» ўвойдзе ў цыкл раманаў С. Кінга «Цёмная вежа». Ілюстратарам кнігі стаў Нэд Дэмерон.

«Цёмная вежа» складаецца з некалькіх раманаў, напісаных на сумежжы фэнтэзі, жахаў, навуковай фантастыкі і вестэрна. Серыя ўключае персанажаў і сюжэтныя лініі іншых, не звязаных адна з адной, кніг. Экранізацыя першай часткі цыклу «Стралец» з Мэцью Макконахі ў галоўнай ролі выйдзе ў лютым 2017 года.

**Дар'я Кучарэнка, vsiknygy.net.ua**

# Месца пахавання Хармса

**Даследчыкі з аргкамітэта прэміі Даніїла Хармса знайшлі магчымае месца пахавання пісьменніка, якое, паводле папярэдніх дадзеных, знаходзіцца на Піскароўскіх могілках (паведаміў «РИА Новости» старшыня аргкамітэта Аляксандр Марс).**

«Да такой высновы (з верагоднасцю 95 адсоткаў) прыйшоў аргкамітэт прэміі Даніїла Хармса ў часе двухмесячнай аналітычнай і пошукавай працы», — сказаў суразмоўца агенцтва. Паводле яго слоў, даследчыкаў цікавіла лагістыка вывазу цел да месцаў пахаванняў у лютым 1942 года, калі памёр Хармс, з раёна Арсенальнай набярэжнай і Арсенальнай вуліцы. А. Марс адзначыў, што, па дакументах Піскароўскіх могілак, целы з гэтага раёна вывозіліся туды. Гэта ўскосна пацвярджаюць і іншыя дакументы, а таксама ўспаміны відавочцаў, дадаў ён.

Нацыянальная прэмія Даніїла Хармса ў галіне літаратуры і мастацтва заснавана прыватнымі асобамі ў 2016 годзе.

Даніїл Ювачаў (творчы псеўданім — Хармс) нарадзіўся ў 1905 годзе ў Пецярбургу. Ён вядомы як удзельнік аб'яднання «ОБЭРИУ» («Аб'яднанне рэальнага мастацтва») і аўтар некалькіх кніг для дзяцей. Пісьменнік быў арыштаваны паводле паклёпніцкага даноса, а ваенны трыбунал загадаў утрымліваць Д. Хармса ў псіхіятрычнай лякарні.

Даніїл Хармс памёр 2 лютага 1942 года ў час блакады Ленінграда, у аддзяленні псіхіятрычнай лякарні турмы «Кресты».

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Дональд Трамп — магільшчык фемінізму

Алег НОВІКАЎ

**У заходніх СМІ пашыраецца версія, што адной з галоўных ахвяр перамогі Дональда Трампа апынуўся жаночы рух.**

Толькі ў 9 з 50-ці штатаў ЗША мужчын колькасна больш за жанчын. Стаўка на жаночае пытанне ўвесь час праяўлялася ў працы паліттэхнолагаў Клінтан, якія стваралі яе апаненту вобраз ненавісніка жанчын, і ў тым ліку адкапалі моцны кампрамат пра вульгарныя паводзіны Трампа з жанчынамі. Нарэшце, вакол штабоў Клінтан вярцелася прорва жаночых грамадскіх актывістак, якія, тэарэтычна, павінны былі трансляваць выбарчыя тэзісы Хілары жанчынам на месцах.

Беручы пад увагу тое, колькі рэсурсаў было выдаткавана на гэта пытанне, вынік галасавання выглядае, мякка кажучы, парадаксальным. Большасць белых жанчын ЗША (53 працэнты) зрабілі выбар на карысць Трампа. Уражвае і колькасць прыхільнікаў рэспубліканца сярод лацінаамерыканак: кожная чацвёртая абрала Трампа, прабачыўшы нават тое, што ён адкрытым тэкстам абяцаў ледзь не масавыя дэпартацыі.

Заходняя прэса задае пытанне: як могуць жанчыны-выбаршчыкі галасаваць за чалавека, які нават сваіх сябровак называў «свіннямі»? Як пасля гэтага не пагадзіцца з версіяй, што 8 лістапада фемінізм у Злучаных Штатах сканаў?

Існуе шмат версій таго, чаму жанчыны падтрымалі Трампа, у тым ліку самых незвычайных. Напрыклад, некаторыя лічаць, што выбар на карысць Трампа быў калектыўнай праявай схаваных у глыбіні свядомасці


Фота www.lenta.ru

жанчын-выбаршчыкаў сантыментаў наконт пазітыўнага вобразу бацькі. Маўляў, заможны Трамп са сваімі шматлікімі дзецьмі чымсьці нагадаў патрыярха сямейства, і, быццам, гэта вызначыла жаночы выбар.

Калі не згадваць экзатычныя версіі, дык значна часцей кажуць пра фатальны пралік піяршчыкаў Клінтан. Адзначаюць, што палітычныя тэхнолагі не ўлічылі доўгатэрміновай рэакцыі на абвінавачванні Трампа ў кепскім стаўленні да жанчын. Яго брутальныя споведзі наконт таго, якімі сродкамі трэба дамагацца жаночых сімпатый, спачатку выклікалі сярод амерыканак шок. Паводле дадзеных «Wall Street Journal», па гарачых слядах скандалу Клінтан нарасціла сабе рэйтынг за кошт 20 працэнтаў жаночага электарату.

Аднак з часам стаўленне да Трампа сярод шматлікіх жанчын, асабліва з бедных сем'яў, пачало мяняцца. Забабоны Трампа нагадалі жанчынам паводзіны мужчын з іх сацыяльнага асяроддзя. Як следства, сам мільярдэр атрымаў рысы кагосьці, магчыма, не ідэальнага, аднак пазнавальнага і

> **”**
> **Як могуць жанчыны-выбаршчыкі галасаваць за чалавека, які нават сваіх сябровак называў «свіннямі»? Як пасля гэтага не пагадзіцца з версіяй, што 8 лістапада фемінізм у Злучаных Штатах сканаў?**

прадказальнага. На гэтым фоне Клінтан так і засталася для простых людзей чужым і незразумелым экспанатам палітычнай кунсткамеры.

Сваю ролю адыграла і шырокая медыя-кампанія па дыскрымінацыі Трампа, якая выклікала жаданне (у тым ліку сярод жанчын) неяк дапамагчы слабаму і няшчаснаму. Прынамсі, гэтым матывуюць падтрымку Трампа шмат удзельнікаў інтэрнэт-праекту Women For Trump.

Але хапае і тых, хто тлумачаць перамогу Трампа следствам памылковай стратэгіі жаночага руху ў апошнія часы. Пасля таго, як феміністкі дамагліся права на аборты, яны сканцэнтравалі ўвагу на барацьбе супраць побытавых дамаганняў — так званых «sexual harassment». На думку шмат каго, такая формула мала карэлюецца з асноўнымі прыярытэтамі жанчыны ў часы эканамічнага крызісу. На першым месцы ў цяперашняй іерархіі жаночых прыярытэтаў — патрэба эканамічных гарантый для забеспячэння і развіцця сябе, сваёй сям'і і дзяцей. Між тым, тэма жаночага беспрацоўя мала гучала ў выступах Клінтан.

У гэтым плане левыя выданні адзначаюць, што 8 лістапада прайграў не жаночы рух, а яго неаліберальная мадэль, якая ігнаруе той факт, што жанчыны — гэта найбольш сацыяльна ўразлівая і бясправная катэгорыя ва ўмовах сучаснага капіталізму. Праўда, з іншага боку, трэба прызнаць, што сацыяльная праграма Клінтан была больш прагрэсіўнай, чым у Трампа. У выпадку яе рэалізацыі захоўвалася сістэма агульнай медычнай дапамогі, якую падчас кампаніі атакаваў Трамп.

Падчас дэбатаў узнікла таксама пытанне — наколькі жаночыя (і ў прынцыпе любыя грамадскія арганізацыі) сапраўды маюць выхад на соцыум? Ёсць меркаванне, што выбары давялі некампетэнтнасць лідараў трэцяга сектару. Грамадскія арганізацыі, маўляў, ператварыліся ў закрытую прафесійную карпарацыю, далёкую ад грамадства. Як следства, феміністкам трэба думаць пра новыя інстытуты свайго руху.

Трэба прызнаць, што шмат феміністычных арганізацый адмовілася ад падтрымкі Клінтан. Тое, што яна зрабіла тэму гендэра прыёмам у выбарчай барацьбе, гэтыя актывісткі называлі «цынічнай эксплуатацыяй геніталій», здрадай традыцыям руху суфражыстак, якія дамагаліся права жанчын на свядомы выбар. Калі верыць гэтай фракцыі феміністак, не трыумф Трампа, а магчымая перамога Клінтан была б катастрофай для фемінізму. Паколькі ўся палітыка адміністрацыі Клінтан аўтаматам успрымалася як учынкі каманды прэзідэнта-феміністкі, ідэю жаночага раўнапраўя можна было лёгка дыскрэдытаваць — асабліва ў краінах, якія маюць канфлікты з ЗША.

Паколькі клінтанаўская версія фемінізму шмат кім сярод саміх феміністак аспрэчвалася, заяўляць пра крызіс усяго руху падаецца катэгарычным і заўчасным. Нездарма ёсць думка, што феномен Трампа, наадварот, з'яўляецца для феміністычнага руху своеасаблівай тэрапіяй. Ён прымусіць актывістак адмовіцца ад прынцыпу «business as usual» у сваёй працы і шукаць новыя накірункі. «Нам павінна быць сорамна за тое, што мы прайгралі 8 лістапада, аднак гэты сорам не павінен паралізаваць нашу дзейнасць і мару пра жанчыну-прэзідэнта ЗША. Аднак гэты прэзідэнт-жанчына не павінна быць кандыдатам ад медыя і незразумелых спонсараў», — адзначае адно з феміністычных выданняў.

Дарэчы, Белы дом без жанчын не застанецца. Дональд Трамп ужо пачаў браць сваю дачку Іванку на ўсе афіцыйныя мерапрыемствы. У тым ліку гаворка ідзе пра сустрэчы, дзе прысутнасць старонніх асоб забароненая пратаколам. Пішуць, што Іванка будзе моцна ўплываць на знешнепалітычны курс ЗША, сімвалізуючы таксама значную ролю жанчын у жыцці краіны.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь прагаласавала супраць рэзалюцый па трох краінах — КНДР, Ірану, Сірыі, а таксама па Крыме, патлумачыўшы гэта «паслядоўным непрыманнем крывадушных падыходаў да тэмы правоў чалавека», а на адрас Мінска пачалі сыпацца абвінавачванні ад украінскіх суседзяў. Новая ўкраінская дыпламатыя не дапускае існавання самастойнай знешняй палітыкі ў краінах, суседніх з Украінай? Так, не дапускае: суседзі проста абавязаны скакаць гапак пад украінскую дудку. А калі гэтага няма, украінскія дзеячы паводзяць сябе так, быццам Беларусь — не суверэнная дзяржава, а вёсачка дзе-небудзь у Палтаўскай вобласці, сельскі галава якой раптам адмовіўся падпарадкавацца цэнтру.

**«Фонд стратегической культуры» (Расія)**

Быццам падсмейваючыся з украінцаў, Лукашэнка прапанаваў арганізаваць выбары на акупаваных тэрыторыях Данбаса, а таксама пераркрыць некантраляваную Кіевам частку ўкраінска-расійскай мяжы. (...) Не будзем падрабязна спыняцца на механізмах правядзення выбараў у самой Беларусі, дзе за 20 гадоў міжнародная супольнасць не прызнала вынікі ніводнай з гэтых кампаній. Ясна, што гэты дзівосны план быў бы выгадны выключна РФ.

**«Деловая столица» (Украіна)**

Меркаванае яшчэ ў 2015 годзе далучэнне Беларусі да расійска-ўкраінскага канфлікту ў якасці своеасаблівага «арбітра» нарэшце адбылося — беларускі лідар Аляксандр Лукашэнка загаварыў пра магчымасць арганізацыі Мінскім урадам выбараў на некантралюемай афіцыйным Кіевам тэрыторыі 40-мільённай дзяржавы. Анансаванае «ўступленне ў гульню» афіцыйнага Мінска азначае фактычнае закрыццё яшчэ аднаго спрэчнага пытання — забеспячэння кантролю за украіна-расійскай мяжой у Данецкай і Луганскай абласцях.

**«Новый взгляд» (Расія)**

Гэта (галасаванне Беларусі па Крыме) не нож у спіну. Проста ў нас могуць быць пэўныя ілюзіі. Здаецца, што за фасадам падзей у Беларусі ўсё проста. Ніхто не думае пра тое, якая колькасць апазіцыянераў там сядзяць у турмах. Рэжым Лукашэнкі нічым не лепш за рэжым Пуціна. Акрамя таго, Беларусь — гэта саюзная з Расійскай Федэрацыяй дзяржава. У іх ёсць сумесныя вайсковыя падраздзяленні і сумесная сістэма СПА. Мы вельмі радаваліся таму, што Лукашэнка адмовіўся размяшчаць у Беларусі расійскую авіябрыгаду, але мы забываем пра тое, што замест гэтага ён прапанаваў размясціць там ракеты. Ён успрымае NATO як варожы блок. У лютым 2014 года Беларусь галасавала супраць тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, хоць нас падтрымалі 110 дзяржаў. Агрэсія з таго боку можа з'явіцца ў любы момант — не толькі таму, што сам Лукашэнка гэтага захоча, але і таму, што ён часткова не кантралюе сітуацыю.

**«Громадське» (Украіна)**

У кантэксце таго, што палітычны дыялог Беларусі і Украіны на вышэйшым узроўні не развіваецца мінімум з канца 2014 года (пасля апошняга візіту Лукашэнкі ў Кіеў), і ўлічваючы нядаўні непрыемны інцыдэнт з беларускім самалётам, у многіх аспектах блізкія краіны знаходзяцца на недазвальнальна нізкім узроўні адносін. Хто ў гэтым вінаваты? Безумоўна, львіная адказнасць у гэтым ляжыць на Кіеве, які не праводзіць актыўную і, што асабліва важна, рознабаковую знешнюю палітыку, а толькі глядзіць на Захад у чаканні то траншу, то «бязвіза», то яшчэ нейкіх плюшак. Але і Беларусь адыграла пэўную ролю ў пагаршэнні міждзяржаўных адносін Кіева і Мінска. Выходзячы з гэтага, трэба рабіць несуцяшальныя высновы: адносіны Украіны і Беларусі стаяць на мяжы халоднай вайны.

**УНІАН (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. Ёсць намер стварыць квазідзяржаву

Калі верыць некаторым крыніцам, Анкара нацэлілася на стварэнне ў Сірыі новай квазідзяржавы. Пра гэта сведчаць апошнія, на першы погляд, не вельмі лагічныя дзеянні турэцкіх войскаў, якія пад прыкрыццём барацьбы з курдскімі сепаратыстамі восенню ўварваліся ў Сірыю. Асноўная частка ваеннай групоўкі вядзе наступ на горад Эль-Баб, які ўтрымліваюць баевікі «Ісламскай дзяржавы». Такая настойлівасць, на думку экспертаў, тлумачыцца намерам Анкары стварыць там устойлівы плацдарм пад новае дзяржаўнае фармаванне. Паколькі туркам дапамагаюць часткі ўмеранай апазіцыі, то размова можа ісці пра стварэнне адміністрацыі, альтэрнатыўнай рэжыму Асада, якая хутка будзе прызнаная Анкарой у якасці законнага дзяржаўнага органа. На думку экспертаў, гэта першы крок на шляху да рэальнай атамізацыі Сірыі. Між тым, усё прызнаюць, што пазіцыя ЗША на гэты конт наўрад ці будзе адназначнай. Нават адміністрацыя Абамы выступала за захаванне адзінства Сірыі і ігнаравала просьбы курдаў — асноўных саюзнікаў Злучаных Штатаў. А ад Эрдагана можна чакаць чаго заўгодна. Застаецца дадаць, што ў Турцыі ёсць нядрэнны досвед па стварэнні нефармальных дзяржаў. У сярэдзіне 1970-х гадоў на турэцкіх штыках была створаная рэспубліка Паўночны Кіпр.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Голас у абмен на каналізацыю

У Кыргызстане 11 снежня пройдуць выбары ў органы мясцовага самакіравання. Хоць гэтыя выбары ў параўнанні з барацьбой за месца ў парламенце заўсёды былі больш спакойнымі, ажыятаж тут таксама прысутнічае. Інакш бы ў справу не ішлі розныя сумнеўныя тэхналогіі з мэтай атрымаць голас выбаршчыка. Гэтым разам далей за ўсё пайшлі ў сталіцы, дзе для мабілізацыі жыхароў палітыкі пачалі працаваць з саветамі жыхароў дамоў — дамкамамі. З боку выбарчых штабоў ім прапануюць здзелку: калі ўсе жыхары дома галасуюць за пэўную партыю, дык партыя ў адказ робіць рамонт дома, выпраўляе хібы каналізацыі і гэтак далей. Прычым, рамонт павінен быць зроблены да дня галасавання. Цікава, што пры ўсім заганным характары такой практыкі, ідэю «абмяняць галасы на каналізацыю» дэмакратычная грамадскасць вітае. Справа ў тым, што пасля таго, як выбары завершацца, выбіць што-небудзь з дэпутатаў становіцца значна складаней.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### УКРАІНА. Ці быў Бог на Майдане?

Украіна адзначыла трэцюю гадавіну Еўрамайдана, які пачаўся 21 лістапада 2013 года. Найбольш незвычайную імпрэзу з нагоды гадавіны зрабіла, безумоўна, адна з кафедраў Украінскага Каталіцкага Універсітэта. Кафедра праводзіць канферэнцыю «Ці быў Бог на Майдане», каб сярод іншага давесці, што на Майдане прысутнічала ірацыянальная сіла. Прысутнасць той сілы тлумачыцца цудам, калі людзі ў межах мірнага пратэсту перамаглі злачынны рэжым Януковіча. Каб непасрэдна давесці агучаную ідэю, арганізатары звярнуліся да ўдзельнікаў падзей, якія ў той час мелі кантакт з Богам. На грунце споведзяў сведкаў у межах канферэнцыі адбудзецца адпаведная секцыя. Як лічаць арганізатары, даказаная прысутнасць трансцэндэнтага фактару ў сталіцы Украіны падчас тых падзей дапаможа ўкраінскаму грамадству паверыць у сябе і ставіць перад сабой глабальныя планы. Канферэнцыя адбудзецца 15 снежня.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ШВЕЦЫЯ. Гендэрная прыборка снегу

Вельмі арыгінальна адрэагавала мэрыя Стакгольму, якую кантралюе кааліцыя эсдэкаў і «Зялёных», на апошні снегапад, што выклікаў сапраўдны хаос у горадзе. Муніцыпальныя чыноўнікі заявілі, нібы ў будучыні ў падобных выпадках будуць ужываць прынцып «Справядлівая гендэрная прыборка снегу». Сутнасць яго ў тым, каб перш за ўсё чысціць ходнікі, а ўжо пасля — дарогі для транспарту, не кажучы пра аўтабаны. Такі падыход у мэрыі тлумачаць тым, што па статыстыцы жанчыны і пенсіянеры пры снежным надвор'і, у адрозненне ад мужчын, менш карыстаюцца машынамі. Пры гэтым няздольнасць людзей праз снег перасоўвацца па ходніках выклікае больш буйныя праблемы для інфраструктуры горада, чым снежныя заторы на аўтабане. У такім выпадку практычна не працуюць школы, дзіцячыя сады, дробны гандаль. Каб падтрымаць іх працу і абараніць уразлівыя сацыяльныя групы, перавагу будуць надаваць перш за ўсё прыборцы пешаходнай часткі. Застаецца дадаць, што правая апазіцыя ў гарсавеце заклікала ўвесці «справядлівую гендэрную ўборку снегу» як мага хутчэй, каб улада пераканалася ў памылковасці сваіх распрацовак.

**Паводле нямецкай прэсы**



Фота www.euromag.ru

# Арыенцір у цяжкія часы

Алег НОВІКАЎ

**Ангела Меркель 20 лістапада абвясціла пра свой намер у чацвёрты раз балатавацца ў нямецкія канцлеры. Пра яе шанцы на выбарах, якія адбудуцца ўвосень 2017 года, «Новы Час» размаўляе з актывісткай нямецкай партыі «Левыя» Францыскай Віслер.**

***— Ангела Меркель агучыла жаданне ў чацвёрты раз узначаліць федэральны ўрад. Наколькі нечаканым гэта было для нямецкай публікі?***

— Напэўна, асабліва сюрпрызу тут не было, бо пра такі сцэнар даўно казалі. Аднак некаторы прысмак сюрпрызу ў заяве Меркель прысутнічаў. Хапала крытыкаў такога кроку. Напрыклад, некаторыя палітолагі казалі, што чацвёрты тэрмін Меркель надае маральнае алібі Уладзіміру Пуціну балатавацца ў чацвёрты раз у прэзідэнты Расіі ў 2018 годзе.

***— Ці паўплывала нядаўняя сенсацыйная перамога Трампа на рашэнне Меркель ісці на выбары?***

— Думаю, так. Сенсацыйны поспех Дональда Трампа, які ў нямецкай палітычнай дыскусіі мае адмоўны статус папуліста і ледзь не рэінкарнацыі Гітлера, напужаў большасць немцаў. Узнікла пачуццё пагрозы, непрадказальнасці, разгубленасці. Натуральна, фігура Меркель, якая адстаяла амаль тры тэрміны каля дзяржаўнага стырна, сімвалізуе нейкую стабільнасць, надзею на заўтра. Гэта чытаецца і ў выбарчым лозунгу яе будучай кампаніі: «Арыенцір у цяжкія часы — за больш паспяховую Германію і Еўропу». І, у прынцыпе, першыя апытанні сведчаць, што фактар Трампа дапамог Меркель аднавіць свае пазіцыі ў рэйтынгах. Пакуль яна — абсалютны лідар выбарчай гонкі.

***— Раней перспектыву чацвёртага прэм'ерства Меркель моцна крытыкавала кіраўніцтва Саюза хрысціянскіх сацыялістаў (CSU) — баварскіх партнёраў хрысціянскіх дэмакратаў (CDU). У Мюнхене не падабаліся занадта ліберальныя погляды канцлера на пытанне міграцыі. Зараз лідар баварцаў Хорст Зеехофер чамусьці гучна вітае яе канцлерскія амбіцыі...***

— Відавочна, што Мюнхен і Берлін дасягнулі нейкай згоды. Я не выключаю, што наладзіць дыялог зноў жа «дапамог» Трамп. Яго поспех завоблачна ўзняў рэйтынгі еўрапейскіх правых папулістаў — асноўных канкурэнтаў у тым ліку і нашых кансерватараў. У такіх умовах пытанне мігрантаў часткова страціла прыярытэт. Першасная задача кансерватараў — не дапусціць, каб правы электарат міграваў у лагер папулістаў з AfD — «Альтэрнатывы для Германіі».

***— А як «Альтэрнатыва для Германіі» рэагуе на рашэнне Меркель? Ці ёсць у іх шанец даць бой кансерватарам?***

— Спікеры AfD характарызуюць рашэнне Меркель як «завочнае банкруцтва», паколькі, паводле іх словаў, нават перамога кансерватараў не дапаможа вырашыць балючыя праблемы краіны: міграцыю, падпарадкаванне дыктату ЕС, разбурэнне нацыянальнай ідэнтычнасці немцаў. Калі Меркель зноў стане канцлерам, тыя праблемы, мяркуюць, будуць намагацца не афішаваць, што на самай справе толькі пагаршае стан рэчаў. Што тычыцца супрацьстаяння AfD і блоку CSU-CDU, дык пакуль дыспазіцыя бакоў не зразумелая. Тут шмат што будзе залежаць ад вясенніх вынікаў выбараў у Нідэрландах і Францыі.

***— Нямецкае выданне «Cicero» нядаўна апублікавала даследаванне, паводле якога толькі адзін нямецкі палітык можа скласці канкурэнцыю Меркель у барацьбе за пасаду канцлера. Гэта эсдэк Франк-Вальтэр Штайнмаер, які зараз ачольвае МЗС. Аднак нядаўна стала вядома, што Штайнмаер збіраецца на пасаду прэзідэнта ФРГ, і, быццам, яго кандыдатуру не супраць падтрымаць і Меркель. Атрымліваецца, што сацыял-дэмакраты ўжо зараз канстатуюць няздольнасць супрацьстаяць кандыдату ад кансерватараў?***

— Хутчэй за ўсё, на выбары сацыял-дэмакраты пойдуць пад кіраўніцтвам свайго старшыні Зігмара Габрыэля. Цяжка ацаніць градус яго харызматычнасці, аднак трэба памятаць, што аўра Меркель таксама не такая яскравая, як раней. Пасля шэрагу правалаў CDU на апошніх зямельных выбарах, яна згубіла імідж «непераможнага палітыка».

***— Прыкладна з кастрычніка Берлінам кіруе так званая «rot-rot-gruene» — кааліцыя эсдэкаў, «Зялёных» і «Левай». Калі левыя партыі атрымаюць большасць у Бундэстагу, ці магчымы федэральны варыянт «rot-rot-gruene»?***

— Патэнцыйна так, аднак уявіць, як будзе працаваць такая канструкцыя ў рэальных умовах, не хапае фантазіі. Левыя партыі могуць знаходзіць адзінства на лакальным узроўні, дзе існуе свая спецыфіка праблемаў. У Берліне, напрыклад, яны прапанавалі вельмі добры праект вырашэння жыллёвага пытання за кошт будаўніцтва новых дамоў і выкупу аб'ектаў нерухомасці для таго, каб пасля рабіць з іх даступнае жытло. Аднак на федэральным узроўні — іншая тэматыка. Напрыклад, цяжка ўявіць усходнюю палітыку такой кааліцыі. «Зялёныя» актыўна крытыкуюць Маскву, эсдэкі прапануюць шукаць з ёй прагматычны дыялог, а «Левыя» — увогуле за стратэгічны альянс ФРГ з Расіяй. Сярод нізавога актыву «Левых» пануе татальнае негатыўнае стаўленне да эколагаў. Пра які блок можа ісці размова? Трэба быць рэалістам — хутчэй за ўсё, краінай і пасля 2017-га будзе кіраваць вялікая кааліцыя кансерватараў і сацыял-дэмакратаў.

***— Ці зменіцца нешта ў Германіі па выніках выбараў? Зноў паўстане вялікая кааліцыя пад кіраўніцтвам Меркель?***

— Ліберальныя выданні баяцца, што чацвёрты кабінет Меркель стане ўрадам не рэформаў, а стагнацыі. Аднак на фоне таго, што адбываецца ў свеце, наш бюргер менавіта за стагнацыю і гатовы галасаваць.

# Назарбаеў, Нурсултан, Елбасы, Астана-Елбасы…

Алег НОВІКАЎ

**У парламенце Казахстана нечакана ўзнікла ідэя — перайменаваць сталіцу Казахстана ў гонар кіраўніка краіны Нурсултана Назарбаева.**



Фота www.naftemporiki.gr

Калі пасля правалу жнівеньскага путчу ў 1991 годзе на прасторах СССР распачаўся парад суверэнітэтаў, казахская эліта практычна да апошняга цягнула з абвяшчэннем незалежнасці. Адпаведная заява, паводле якой Казахская ССР набывала атрыбуты незалежнай дзяржавы, была апублікаваная толькі 23 лістапада. І, натуральна, праз 25 гадоў прайсці міма гэтай даты было проста немагчыма. У мінулую сераду ў Астане адбылося ўрачыстае пасяджэнне казахскага парламента, які павінен быў прыняць адпаведны дакумент з нагоды падзей 25-гадовай даўніны.

Хаця фармальна пасяджэнне дэпутатаў было прысвечанае юбілею незалежнасці, асноўнае месца ў выступах дэпутатаў нечакана заняла фігура Назарбаева. Практычна кожны, хто выходзіў на трыбуну, акцэнтаваў увагу на ролі Елбасы ў будаўніцтве незалежнага Казахстана. Вось адна з тыповых прамоваў: «Дэкларацыя да 25-годдзя незалежнасці Казахстана — гэта дакумент, які звернуты не толькі да сучаснікаў, але і да будучых пакаленняў. Яны павінны ведаць, адкуль і як пачынаўся шлях нашых поспехаў, у чым складаецца неацэнная заслуга лідара нацыі Нурсултана Назарбаева перад сваёй краінай і перад сваім народам».

Панегірыкі дзяжурна заканчваліся заклікамі адзначыць ролю Назарбева ў тэксце дзеючай Канстытуцыі. Такое адзінства думак дае падставу падазраваць, што тэма акцэнтавання ролі Елбасы ў асноўным законе была ўзгодненая загадзя. Аднак падчас імпрэзы ў сваім парыве засведчыць любоў да Елбасы дэпутаты нечакана выйшлі з-пад кантролю.

Зламаў зацверджаны алгарытм нехта Султанаў, які, выступаючы перад калегамі, раптам вырашыў, што згадкі пра Нурсултана Абішавіча ў тэксце Канстытуцыі замала. «Я лічу, што горад Астана заслугоўвае, каб насіць імя першага прэзідэнта Рэспублікі Казахстан — стваральніка, заснавальніка горада. Ёсць у свеце такія прыклады, і я думаю, што наш народ гэтага заслугоўвае», — падзяліўся думкамі парламентарый.

Сваімі словамі Султанаў, па-сутнасці, адкрыў скрыню Пандоры. Кожны з дэпутатаў, хто пасля дарываўся да мікрафона, вітаў ідэю перайменавання Астаны. Паралельна ўзніклі новыя аргументы за тапанімічную рэформу. На думку дэпутатаў, новая назва сталіцы дапаможа фармаванню нацыянальнай свядомасці, росту аўтарытэту дзяржаўнасці, інтарэсу суайчыннікаў да гісторыі і гэтак далей. Пасля заканчэння пасяджэння кулуарна былі агучаны канкрэтныя прапановы новай назвы сталіцы: Назарбаеў, Нурсултан, Елбасы, Астана-Елбасы і нават Нурсултан-сіці.

Называюцца і канкрэтныя тэрміны, калі Астана атрымае новую назву. Гэта можа адбыцца да канца года. Паводле казахскіх законаў, перайменаванню павінна папярэднічаць рэзалюцыя ніжняй палаты, якую пасля зацвярджае Сенат. Пасля законапраект трапляе на стол гаранта, які можа альбо падпісаць дакумент, альбо даслаць яго на дапрацоўку ў парламент, альбо, нарэшце, накласці на закон вета. Праўда, апошні варыянт падаецца малаверагодным.

У выпадку рэалізацыі праекту горад, у якім сёння знаходзіцца казахская дзяржаўная адміністрацыя, паставіць рэкорд па колькасці назваў. Гэта будзе ўжо пятая. Назву Астана сталіца Казахстана атрымала ў 1998 годзе. Раней гэты горад называлі Акмала, Цаліnаград і Акмалінск.

Тое, што праект віталі некаторыя міністры, а афіцыёз ахвотна дае эфір прыхільнікам новай назвы Астаны, сведчыць, што перайменаванне — справа амаль вырашаная. Тым больш, што прапанова цалкам кладзецца ў логіку стварэння культу Назарбаева. У краіне хапае аб'ектаў і рэчаў, якія называюцца ў гонар Нурсултана — ад універсітэтаў да асаблівага гатунку кветак. Прыкладна за тыдзень да згаданага пасяджэння дэпутатаў адбылася прэзентацыя новай купюры наміналам у 10 тысяч тэнге, на якой выяўлены першы кіраўнік дзяржавы.

**Жыхары правінцыі з вялікім задавальненнем абмяркоўваюць, як цяпер будуць называць жыхароў сталіцы: назарбаеўцы і назарбайкі, або нурсултаны і нурсултанкі**

Агульная згода наконт перайменавання горада ў калідорах улады моцна кантрастуе з настроямі ў сацыяльных сетках. У фейсбуку ідэя новай назвы шмат каму падаецца неадэкватнай — на фоне цяперашняй рэцэсіі. Калі ўжо ў бюджэце і з'явіліся нейкія сродкі, дык, як пішуць на форумах, лепш накіраваць іх на дадатковую сацыяльную падтрымку дзяцей ці пенсіянераў.

Казахская апазіцыя, натуральна, асудзіла ідэю, зрабіўшы праекцыю на гісторыю Туркменістана. Там адным з этапаў фармаваня культу Ніязава таксама было перайменаванне гарадоў.

А вось расійскія дзяржаўнікі віталі ідэю новай назвы для Астаны, быццам намякаючы, што такой пашаны заслугоўвае і Пуцін. Хутчэй за ўсё, тапанімічныя працэсы ў Казахстане не застануцца без увагі ў суседніх краінах. Прынамсі ў Таджыкістане, дзе таксама тэрмінова ствараецца культ прэзідэнта.

Цікава, што ў казахскім сегменце інтэрнэту, які традыцыйна скептычна ўспрымае ініцыятывы з блоку ўлады, з'явілася і група аматараў перайменавання. Гэта жыхары іншых гарадоў, як правіла — абласных цэнтраў. Іх, што характэрна для правінцыялаў у кожнай краіне, раздражняюць памеры інвестыцый, якія Назарбаеў кідае ў Астану. Жыхары правінцыі з вялікім задавальненнем абмяркоўваюць, як цяпер будуць называць жыхароў сталіцы: назарбаеўцы і назарбайкі (у выпадку перайменавання гораду ў Назарбаеў) або нурсултаны і нурсултанкі (калі сталіцу перайменуюць у Нурсултан).

Але жарты правінцыялаў з жыхароў сталіцы могуць быць заўчаснымі. У казахскіх сацсетках можна знайсці і думку пра тое, што перайменаваннем сталіцы ўзвялічванне Назарбаева не скончыцца. Справа ў тым, што казахі — цюркская нацыя, а ў гісторыі вядомы факт, калі продкаў цяперашніх туркаў называлі асманамі — у гонар кіраўніка дзяржавы, султана Асмана Газі. Як бачым, аналогіі напрошваюцца самі сабой.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Найджэл Фарадж



Брытанскі палітык, ідэолаг руху за выхад Вялікабрытаніі са складу ЕС, экс-старшыня еўрафобскай Партыі Незалежнасці Аб'днанага Каралеўства нечакана стаў прычынай незвычайнага канфлікту паміж Лонданам і Вашынгтонам.

А ўсё з-за кадравай палітыкі Дональда Трампа. Апошні заявіў, што менавіта Фараджа бачыць на пасадзе брытанскага пасла ў ЗША. З улікам таго, што Фарадж лічыцца кумірам Трампа (брытанец быў першым іншаземцам, з якім Трамп размаўляў пасля перамогі), не выключана, што ён таксама будзе нефармальна выконваць функцыі дарадцы новай прэзідэнцкай адміністрацыі.

Той факт, што Трамп пачаў прызначаць дыпламатаў без кансультацый з брытанскім МЗС, стаў непрыемным сюрпрызам для кансерватыўнага ўраду Тэрэзы Мэй. Нягледзячы на тое, што адносіны паміж краінамі ад часоў Другой сусветнай вайны маюць статус «асаблівыя», Форын-офіс яўна не ў захапленні ад ідэі Трампа. Міністр замежных спраў Борыс Джонсан аспрэчыў прапанову Трампа, паколькі, па яго словах, Англія і так мае добрага пасла ў Вашынгтоне.

Сам Фарадж пазітыўна ўспрыняў запрашэнне з-за акіяну. Каментуючы прапанову Трампа, ён не адмовіў сабе ў задавальненні таксама пнуць Джонсана і ўвесь брытанскі Кабмін, які, маўляў, не можа прабачыць Фараджу тое, што прайграў яму рэферэндум. Як бы ні склалася кар'ера Фараджа, інтарэс з боку Трампа да яго асобы вельмі карысны. Зараз у Англіі раскручваецца скандал наконт махінацый Фараджа фондамі падчас агітацыйнай кампаніі рэферэндуму.

### Ідоя Мендзія



Старшыня Партыі сацыялістаў Краіны Баскаў (PSE) падпісаў дамову з Баскскай Нацыяналістычнай партыяй (PNV) наконт фармавання новага кааліцыйнага рэгіянальнага ўраду. У прынцыпе, навіна — не самая сенсацыйная, калі б не тэкст урадавай дамовы.

Сацыялісты нечакана пагадзіліся са старой ідэяй нацыяналістаў перагледзець так званы «Статут Гернікі» — закон пра межы аўтаноміі Краіны Баскаў у складзе Іспаніі, які быў падпісаны ў 1979 годзе. Новы статут, на думку сацыялістаў і нацыяналістаў, павінен гарантаваць рэгіёну больш правоў, а ў дадатак вырашыць пытанне Навары — суседняга краю, які баскі лічаць сваёй гістарычнай тэрыторыяй. Паводле параграфаў Статуту ў рэдакцыі 1979 года, Наварскі край застаўся па-за межамі Краіны Баскаў, хаця і атрымаў правы на самакіраванне. Баскам паабяцалі праз нейкі час правесці па гэтым пытанні дадатковы спецыяльны рэферэндум. Пазней Мадрыд пра абяцанне забыўся.

У Мадрыдзе навіну з Краіны Баскаў успрынялі вельмі балюча, бо цяперашняму ўраду Народнай партыі (PP) яўна хапае каталонскага пытання. Таксама сярод іспанскіх дзяржаўнікаў выклікае трывогу набіраючы моц незалежніцкі трэнд сярод сацыялістаў у Каталоніі, Краіне Баскаў і іншых іспанскіх рэгіёнах. Застаецца дадаць, што распрацоўку новага праекту статуту пра аўтаномію Краіны Баскаў новы ўрад PNV-PSE плануе скончыць на працягу васьмі наступных месяцаў.

### Дзмітрый Мядзведзеў



Імя расійскага прэм'ера і экс-прэзідэнта нечакана ўсплыло ў справе Аляксея Улюкаева — былога міністра эканамічнага развіцця, які быў затрыманы пры спробе атрымання хабару.

Паколькі былы міністр быў чалавекам заможным, тэма хабару выглядае неяк дзіўна. Таму высоўваюцца іншыя версіі наконт прычын арышту Улюкаева — у тым ліку і палітычная. Лічыцца, што арыштаваны быў сябрам ліберальнай фракцыі Крамля, якую таксама называюць «група Чубайса». Гэта група, быццам, мела свае погляды на палітычныя працэсы ў Расіі і выступала супраць фракцыі дзяржаўнікаў-патрыётаў. У тым ліку яна прапаноўвала высунуць ад улады на выбарах 2018 года Мядзведзева, а не Пуціна.

Скандал з Улюкаевым цалкам падрывае апаратныя і палітычныя ўплывы Мядзведзева і зніжае яго шанцы на прэзідэнцтва. У сувязі з фактычным разгромам «групы Чубайса», усе чакаюць хуткую адстаўку прэм'ера.

# Жывая традыцыя

## Да 110-годдзя газеты «Наша Ніва»

Алег ДЗЯРНОВІЧ

**Ці могуць выданні канца ХХ і пачатку ХХІ стагоддзяў атаясамлівацца з заснавальнікамі традыцыі? Што можа азначаць існаванне аднаго выдання для развіцця цэлай культуры? Каб адказаць на гэтыя пытанні, пагартаем «Нашу Ніву», якая 23 лістапада адзначае 110-гадовы юбілей.**

З'яўленне такой газеты, як «Наша Ніва», сведчыла пра дасягнуты ўзровень развіцця беларускага грамадства і стала магчымым дзякуючы лібералізацыі. У 1905 годзе ўрад Расійскай імперыі вымушаны быў змякчыць сваю цэнзурную палітыку, а таксама стаўленне да нацыянальных меншасцяў. Вільня, былая сталіца Вялікага Княства Літоўскага, зноў стала цэнтрам шматнацыянальнага культурнага жыцця. 10 (23) лістапада 1906 года тут выйшаў першы нумар тыднёвіка «Наша Ніва», і гэтым самым была запачаткаваная цэлая эпоха ў развіцці не толькі беларускай культуры, але і грамадства.



Naša Niwa

U zali Żalezna-darożnaho Krużka

Biełaruskaja Wiečerynka

«Наша Ніва» пераўтварылася ў цэнтр масавай грамадскай інфармацыі, дала пачатак сапраўднаму рэнесансу інтэлектуальнага жыцця, інспіравала творчасць цэлай плеяды пісьменнікаў, творы якіх сталі класікай беларускай літаратуры ХХ стагоддзя — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна...

У рэдакцыі газеты працавалі найбольш выдатныя беларускія літаратары, публіцысты і палітычныя дзеячы. Першым выдаўцом і рэдактарам быў Жыгімонт Вольскі, у далейшым — Аляксандр Уласаў. Вялікую арганізацыйную работу па выданні газеты вёў Іван Луцкевіч, стваральнік славутага віленскага Беларускага музея. З 1909 года сакратаром газеты, а ў 1912–1913 гадах фактычна яе рэдактарам быў Вацлаў Ластоўскі. Тут працаваў і Якуб Колас. У лютым 1914 годзе рэдактарам «Нашай Нівы» стаў Янка Купала, які кіраваў газетай да восені 1915-га — да канца першага этапу выхаду газеты.

Публіцыстыка «Нашай Нівы» вызначалася высокім аналітычным узроўнем і заўжды абапіралася на сур'ёзныя статыстычныя матэрыял, як, напрыклад, гэта тычылася аналізу сацыяльна-эканамічнага стану гарадоў Літвы і Беларусі (нізка артыкулаў на гэтую тэму распачалася з матэрыялу пра Вільню).

Але ж і ў той першы перыяд свайго існавання «Наша Ніва» спазнала ціск цэнзуры. За арганізаваную ў 1907 годзе дыскусію па аграрным пытанні, у тым ліку за артыкул «Зямельная справа ў Новай Зеландыі», супраць рэдактара Аляксандра Уласава быў распачаты судовы пераслед. Некалькі разоў наклад газеты канфіскоўваўся, рэдакцыя плаціла штрафы.

Тым не менш «Наша Ніва» паспяхова выконвала функцыі газеты, не ў апошнюю чаргу дзякуючы больш чым 3 тысячам сталых і часовых карэспандэнтаў, якія дасылалі інфармацыю і свае матэрыялы ў рэдакцыю. Такая шырокая сетка карэспандэнтаў з'яўляецца адным з феноменаў выдання. Як адзначалі сучаснікі, для многіх людзей «Наша Ніва» была першай прачытанай імі газетай і першай крыніцай інфармацыі, якая не несла казённай адзнакі.

Гісторыя «Нашай Нівы» — яркая старонка ў гісторыі Вільні. Выданне выходзіла ў друкарні Марціна Кухты, прадавалася ў першай літоўскай кнігарні Юргіса Шляпяліса, рэгулярна змяшчала рэкламу літоўскіх перыёдыкаў. З рэдакцыяй сябравалі вядомыя літоўскія дзеячы пачатку ХХ стагоддзя: Ёнас Вілейшыс, Юргіс Шаўліс і Сцяпонас Кайрыс (муж паэткі Алаізы Пашкевіч). Жонка Вацлава Ластоўскага, вядомая літоўская пісьменніца Лаздзіну Пяледа разам з мужам жыла ў самой рэдакцыі, дзе ў іх гасцявала і яе сястра. Частымі гасцямі «Нашай Нівы» былі паэт, драматург і перакладчык Людас Гіра, мастак Антанас Жмуйдзінавічус, многія іншыя прадстаўнікі літоўскай інтэлігенцыі.

«Наша Ніва» стала творчай літаратурнай лабараторыяй. Паэтычная і празаічная творчасць аўтараў характарызавалася то строгім рэалізмам, то нацыянальным рамантызмам, але заўжды вызначалася дэмакратычнай скіраванасцю. Культурная адкрытасць «Нашай Нівы» выявілася таксама ў тым, што ад пачатку, пакуль дазвалялі сродкі, газета друкавалася двума шрыфтамі — кірыліцай і лацінкай (так было да кастрычніка 1912 года).

Сам кшталт сучаснай беларускай літаратурнай мовы, асноўныя правапісныя і граматычныя нормы, словаўтваральныя тыпы былі выпрацаваны, дзякуючы функцыянаванню выдання і жывой моўнай практыкі на яго старонках. Прыход







у літаратуру і журналістыку вялікай колькасці аўтараў з розных куткоў Беларусі дазволіў замацаваць як норму найбольш пашыраныя моўныя з'явы. Артыкулы прасоўвалі погляд, што мова — нацыянальнае багацце беларусаў, народны скарб, у якім сабрана і захавана тое, што ўздымае чалавека на найвышэйшую ступень культуры. У далейшым гэтая мова альбо ўдасканальвалася, альбо наўмысна дэфармавалася, як тое было ў Савецкім Саюзе ў 1930-х гадах.

Але «Наша Ніва» была не толькі газетаю. Вакол рэдакцыі ўзнік цэлы шэраг аўтаномных культурных і сацыяльных праектаў. «Наша Ніва» пераўтварылася ў кніжнае выдавецтва ды выконвала функцыю каардынацыйнага выдавецкага цэнтру.

Асабліва папулярнымі былі «Беларускія календары» — альманахі, у якіх чытачы знаходзілі не толькі звычайныя даведачныя звесткі, але і літаратурныя творы. Выдавецтва выпускала таксама асобныя кніжкі, арыгінальныя і пераклады. У 1912-м у Вільні пачаў выходзіць сатырычны часопіс «Крапіва», а сельскагаспадарчы аддзел «Нашай Нівы» перарос у самастойны часопіс «Саха», які з канца 1913-га выдаваўся ў Мінску.

Іван Луцкевіч пачаў пры рэдакцыі збор калекцыі для будучага беларускага нацыянальнага музея. Супрацоўнікі газеты дапамагалі станаўленню Першай беларускай тэатральнай трупы Ігната Буйніцкага. Шмат увагі надавалася папулярызацыі прыродазнаўчых, эканамічных, прававых і аграрных ведаў. Маштаб здзейсненага і зададзеныя імпульсы дазволілі гісторыкам і культуролагам акрэсліць перыяд развіцця беларускай культуры пачатку ХХ стагоддзя як «нашаніўскі», маючы на ўвазе якасныя і колькасныя змены ў станаўленні сучаснай культуры і грамадства.

Выхад «Нашай Нівы» перапыніла Першая сусветная вайна. 7 жніўня 1915 года за подпісам Янкі Купалы выйшаў апошні нумар штотыднёвіка.

Спроба аднаўлення газеты была здзейсненая ў 1920 годзе таксама ў Вільні: 28 кастрычніка тут выйшаў першы нумар грамадска-палітычнага і літаратурнага штотыднёвіка «Наша Ніва». Рэдагаваў газету Антон Луцкевіч, а ад трэцяга нумара — Знамяроўскі. У цэнтры ўвагі выдання былі падзеі вакол так званай Сярэдняй Літвы — буфернай дзяржавы паміж Польшчай, Літвой і Савецкай Расіяй. Гэтае дзяржаўнае ўтварэнне на тэрыторыі Віленскага краю знаходзілася пад польскім кантролем, і для аўтараў выдання лёс Віленшчыны сігналізаваў пра падрыхтоўку падзелу тэрыторыі Беларусі паміж Расіяй і Польшчай. У снежні 1920-га «Наша Ніва» была забаронена польскай вайсковай цэнзурай.

Пад нацысцкай акупацыяй і савецкім кантролем, нават тэарэтычна тэма аднаўлення выдання «Нашай Нівы» не магла ўзнікнуць.

Нацыянальнае абуджэнне ў Літве і Беларусі зрабілі магчымымі рэалізацыю самых смелых праектаў. Ад мая 1991 года ў Вільні «Наша Ніва» зноў пачала выходзіць, гэтым разам пад рэдакцыяй Сяргея Дубаўца.

Газета заняла абсалютна арыгінальнае месца сярод іншых беларускіх перыёдыкаў. Выданне запачаткавала вельмі шырокую канцэпцыю культурнага дыялогу, практыку пазбаўлення ад нацыянальных комплексаў. Таму на старонках «Нашай Нівы» значнае месца занялі дыскусіі на універсальныя тэмы, а таксама з'явілася вялікая колькасць перакладаў. Узнавілася традыцыя выкарыстання беларускай лацінкі. У цэнтры ўвагі апынулася таксама сінтэтычная культура Вільні як спадчыны Вялікага Княства Літоўскага і мадэль узаемаадносінаў народаў рэгіёну.

У выніку палітычных і сацыяльных змен у Беларусі стала актуальнай праблема паўнавартасных медыяў. Таму ў 1996 годзе было прынята рашэнне пра перанос рэдакцыі ў Мінск і трансфармацыю «Нашай Нівы» ў выданне грамадска-палітычнага характару, што і адбылося ў 1997-м.

Ад 2000 года газету рэдагуе Андрэй Дынько. Распачаўся перыяд новага эксперымента — у газеце з'явіўся такі жанр, як журналісцкае расследаванне, адначасова павялічылася пэўная скандальнасць, прыцягальнасць для шырэйшай публікі загалоўкаў артыкулаў. Ад заснавання і да 4 снежня 2008 года газета друкавалася «тарашкевіцай». Цяпер жа газета выходзіць афіцыйным правапісам, пераход на які ў свой час спарадзіў актыўныя дыскусіі прыхільнікаў ранейшых культурных мадэляў.

Адзін з самых рашучых крокаў рэдакцыя зрабіла ў разліку на інтэрнэт. Андрэй Дынько ўзяўся курыраваць гэты напрамак, газетнай версіяй працягваў займацца Андрэй Скурко. Ад 1 ліпеня 2016 года газета зноў выходзіць у фармаце штомесячніка, а сайт выдання не дублюе друкаваную версію. Цяпер «Наша Ніва» — гэта ў першую чаргу інтэрнэт-сайт nn.by.

Нягледзячы на перапынкі, традыцыя выдання «Нашай Нівы» існуе ўжо больш за 100 гадоў. Для беларускай прэсы гэта сама па сабе ўнікальная з'ява, памножаная тым, што «Наша Ніва» ніколі не была пад кантролем таталітарных сілаў, гісторыя ўплыву на прэсу якіх такая багатая ў нашай частцы Еўропы. Немагчыма пераацаніць ролю «Нашай Нівы» ў фармаванні беларускай літаратурнай мовы і гуманістыкі. Невыпадкова творчыя набыткі газеты сталі тэмаю манаграфічных і дысертацыйных даследаванняў гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, лінгвістаў, культуролагаў, спецыялістаў у галіне масавых камунікацыяў.

Легенду беларускага друку немагчыма ўявіць без віленскіх перыядаў, газета не магла б узнікнуць без творчай атмасферы шматэтнічнай Вільні, дзе зараз памятнымі шыльдамі ўвекавечаныя мясціны, звязаныя з дзейнасцю рэдакцыі ў 1906–1915 гадах. «Наша Ніва» застаецца культурным сімвалам і жывой традыцыяй.

«Новы Час» віншуе калег «нашаніўцаў» з 110-годдзем легендарнай газеты!

# Антычная спадчына Беларусі: міфы і рэальнасць

Алесь КІРКЕВІЧ

**Пра экспедыцыю Нерона па Нёмане, рымскія знаходкі ў Беларусі ды легітымнасць, набытую праз авалоданне антычнай спадчынай, распавядае гісторык Аляксей Казленка.**

Кожны беларускі школьнік з урокаў гісторыі засвоіў як мінімум некалькі момантаў пра стасункі старажытнай Беларусі і Антычнага свету. Гэта міф пра неўраў, якія ўмеюць ператварацца ў ваўкоў, апісаны Герадотам. Гэта легенда пра рымляніна Палямона і яго каманду, якія нібыта сталі заснавальнікамі дынастыі вялікіх князёў літоўскіх. Ну і пра рымскія манеты, якія час-почас трапляюцца беларускім археолагам.

Каб разабрацца, дзе праўда, а дзе прыдумкі, а таксама вызначыцца, што ж яднала Беларусь са старадаўнім Рымам і Грэцыяй, мы звярнуліся да гісторыка, кандыдата навук, выкладчыка БДУ ды адмыслоўца па вайсковай справе антычнасці Аляксея Казленкі.

### Міф пра Палямона — пытанне прэстыжу і легітымнасці

***— Як сучасная навука ставіцца да міфа пра падарожжа ў Беларусь рымскага двараніна Палямона, апісаны ў нашых летапісах?***

— Гэта тыповая міфатворчасць, якая мае аналагі і ў іншых еўрапейскіх народаў: міф пра бацькоў-заснавальнікаў, павязаны з эпохай антычнасці. Напрыклад, франкі выводзілі сябе нават не ад рымлянаў, але ад траянцаў — іх продкам, згодна Фрыдэгару, быў малодшы сын Гектара. А паколькі Гектар у Трої меў большую ўладу за Энея, які нібыта заснаваў Рым, дык і Францыя нібыта больш важная і сур'ёзная дзяржава… Падобны міф — гэта прэтэнзія на суверэнітэт і магчымасць уладарыць.

Кожны хацеў прывязаць да антычнасці калі не тэрыторыю, дык хаця б паходжанне. Бо калі варыянт з тэрыторыяй для італійцаў ці французаў «пракатваў», то палякам, літоўцам ды беларусам было значна цяжэй. Тады — браўся дынастычны варыянт.

***— То бок, гэта пытанне прэстыжу для таго часу?***

— Не столькі прэстыжу, колькі легітымнасці, абаснавасці права на ўладу. Выведзены ад рымскіх імператараў радавод дапамагаў больш эфектыўна кіраваць сваімі падданымі.

Рымская імперыя разглядалася як дзяржава "як такая", чыя абаснаванасць не выклікае ні ў каго пытанняў. Калі ты нашчадак Рыму — падданыя цябе слухаюцца, а суседзі ўспрымаюць усур'ёз.



**Аляксей Казленка:**

**«У 1950-х ва Украіне не хапала працоўных рук, і ўкраінскія вярбоўшчыкі актыўна ездзілі па беларускім Палессі, збіраючы працоўных. Там плацілі нашмат больш, чым у беларускіх калгасах**

***— А для падданых Рым з яго гісторыяй не быў абстракцыяй, улічваючы ўзровень асветы таго часу?***

— Размова ж ідзе пра інтэлектуалаў, з якімі пытанні пра ўладу і вырашаліся, якія маглі падняць паўстанне супраць улады і абаснаваць гэта — у тым ліку гістарычна.

Зараз Еўрасаюз спансуе тыя ж археалагічныя даследаванні датычныя антыкі, бо ў ёй знаходзяць ідэю першага адзінства Еўропы. Бо Рымская імперыя — гэта адзіная Еўропа 2000 гадоў таму, а ЕС — гэта Рым сёння.

### Экспедыцыя Нерона — камерцыйнае прадпрыемства

***— Хай гісторыя з Палямонам — міф, але ёсць сведчанні пра экспедыцыю Нерона па Нёману, якая плыла да Балтыкі за бурштынам…***

— Экспедыцыя сапраўды была, яе згадвае гісторык Тацыт. У 64 годзе пасля пажару ў Рыме Нерон адбудоўваў горад і поспех гэтай адбудовы вырашыў адсвяткаваць падчас цыркавых гульняў. Для аздобы амфітэатру выкарыстоўваўся бурштын, які ў Рым мог трапіць толькі з Балтыкі.

Зрэшты, вазілі яго не толькі ў Рым — гэта былі «находжаныя» гандлёвыя шляхі, якія існавалі як мінімум з Бронзавага веку. Прыкладам, бурштынавыя каралі трапляліся ў пахаваннях мікенскіх правіцеляў, іх насіў яшчэ цар Агамемнан.

Акурат гандлёвыя шляхі звязвалі аддаленыя плямёны з тым жа Міжземнамор'ем. Адзін бок даваў бурштын, іншы — віно альбо кераміку. Зараз у гэта цяжка паверыць, але ў эпоху старажытнасці Еўропа была значна больш адзінай і звязанай унутры, чым гэта падавалася раней.

***— Як магла выглядаць экспедыцыя Нерона?***

— Я лічу, што гэта была нават не экспедыцыя ў некалькі сотняў чалавек, але камерцыйнае прадпрыемства, звязанае з размяшчэннем замоваў, кажучы сучаснай мовай. То бок былі чыноўнікі, якія з Рыму траплялі ў Венгрыю, адтуль — на Ніжні Дунай, далей па Чорным моры, уверх па Днястры ці Паўднёвым Бугу, а ўжо далей па Вісле альбо Заходняй Дзвіне ў Прыбалтыку.

Гэта былі чыноўнікі, якія мелі ўладу і знаёмствы сярод мясцовай племяннай эліты. Яны куплялі прадукцыю на месцы альбо тлумачылі, што ёсць грошы, таму ахвочыя могуць прывезці бурштын і памяняць яго на золата ці срэбра. Гэта буйное гандлёвае прадпрыемства, а не міграцыя рымлянаў, як некаму бачыцца.

***— Гэта была адзінкавая паездка ці пастаянны маршрут?***

— Хутчэй, пастаянная практыка, таму рымскія манеты, упрыгожванні, элементы вайсковага рыштунку і знаходзяць на берагах Балтыйскага мора. Але, на жаль, гэтыя рэчы маглі па шляху змяніць безліч уласнікаў па дарозе да месца знаходкі. Але гэта былі сістэмы ўзаемнага разліку, калі рэчы, што цаніліся варварамі, пераадольвалі сотні кіламетраў.

### Падарожжы рэчаў, а не людзей

***— То бок Беларусь была ў лепшым выпадку транзітнай зонай?***

— Так, безумоўна. На захадзе Беларусі, прыкладам, знаходзяць сляды готаў — гэта так званая Вяльбарская археалагічная культура. Гэта эпоха пошукаў готамі «новай радзімы», іх вялікага падарожжа. Ад Балтыйскага ўзбярэжжа яны рухаліся ў бок Чорнага мора ў тым ліку праз Беларусь. Гэта ўжо III–IV стагоддзі.

Яшчэ раней, у III–II стагоддзях да н.э., у нас фіксуецца Зарубінецкая культура, шчыльна звязаная з кельтамі. Яны пасля сябе, як і готы, пакінулі некаторыя рэчы — фібулы, розныя зашпількі, прадметы побыту. То бок народы, якія кантактавалі з Антычным светам, у нас былі.

***— Калі кажуць пра рымскія знаходкі, то часцей за ўсё маюць на ўвазе манеты. А ці знаходзяць нешта яшчэ?***

— У Нацыянальным гістарычным музеі раней была выстаўленая бронзавая ручка ад рымскай шкатулкі. Такія ж знаходзяць у рымскіх правінцыях. Не зразумела толькі, ці трапіла яна да нас разам са шкатулкай, якая магла быць статусным таварам, альбо трапіла ўжо ў выглядзе бронзавага лому. Бронза — метал рэдкі і неабходны, таму ад лому не пазбаўляліся, але наадварот збіралі.

***— Гэта адзнака прысутнасці рымлянаў альбо нешта кшталту сучасных долараў, якія могуць апынуцца ў любой частцы свету?***

— Пра масавую прысутнасць рымлянаў у нас казаць не даводзіцца, таму гаворка ідзе хутчэй пра тых, хто з Рымам кантактаваў і гандляваў: тых жа готаў. Гэта падарожжы больш рэчаў, чым людзей.

Не забывайцеся, што бронза пераплаўлялася і падарожнічала ў выглядзе лому. Калі б мы маглі прасачыць, адкуль першапачаткова прыйшоў метал, з якога, скажам, была вылітая фібула ў той жа Беларусі, думаю, мы б сутыкнуліся са шматлікімі таямніцамі і складанымі маршрутамі.



Неўры ў сучаснай творчасці

### Ваяўнічыя жыхары балотаў, з якімі біліся готы

***— Ці фігуруе Беларусь у антычных даследчыкаў, хаця б з апісанняў выпадковых гандляроў, якія сюды трапілі?***

— Антычныя географы і гісторыкі даволі слаба сабе ўяўлялі гэтую тэрыторыю, але пэўныя ідэі мелі. Той жа Герадот распавядае пра паўночных суседзяў скіфаў — неўраў, якія ўмелі ператварацца ў ваўкоў. Гэтую ж гісторыю паўтараюць і шматлікія пазнейшыя аўтары, той жа Пталамей, які жыве ў III стагоддзі н.э. — калі ніякіх неўраў у Беларусі ўжо не было. Але іншых крыніц інфармацыі не было, таму карысталіся старымі ведамі.

Цікава, што гісторык Іардан, апісваючы падарожжы готаў, распавядае пра забалочаныя тэрыторыі ды іх ваяўнічых жыхароў. Прасоўваючыся на поўдзень, готы доўга і ўпарта з імі біліся. Цалкам верагодна, маецца на ўвазе паўднёвы захад Беларусі.

***— Неўры, якія ператвараліся ў ваўкоў, як я разумею, акрамя антычных крыніцаў больш нідзе не згадваюцца?***

— Так, варта ўлічыць, што Герадот быў дасведчаным чалавекам. Як мінімум да Ольвіі, сучаснага Мікалаева на беразе Чорнага мора, ён дабіраўся. Таму мог кантактаваць з мясцовымі жыхарамі, якія сутыкаліся са скіфамі ды іх суседзямі. Ягонае апісанне скіфаў даволі грунтоўнае, са шматлікімі этнаграфічнымі дэталямі. Што да неўраў — дык гэта міфалагічны пласт рэальнасці. Гэта легенды саміх скіфаў пра сваіх суседзяў, фальклор, які трэба ўспрымаць адпаведна.

***— А дзе ў Беларусі можна паглядзець сапраўдныя антычныя рэчы?***

— Збольшага гэта ўсё ж такі манеты, знойдзеныя тут. Рэшта — гэта набытыя рэчы, якія "раз'ехаліся" па ўсім свеце як егіпецкія муміі, то бок у складзе калекцыяў мясцовай арыстакратыі. Падчас падарожжаў у краіны Міжземнамор'я заможныя людзі ахвотна куплялі прэстыжныя рэчы для сябе ды каб паказваць сябрам. Наогул, дык у нашых музеях сур'ёзны дэфіцыт антычных старажытнасцяў…

***— Тыя ж палякі не мелі гістарычна дачынення ані да Егіпту, ані да Антычнага свету, але маюць салідныя навуковыя школы егіпталогіі ды антыказнаўства. А ў нас?***

— Нашы гісторыкі прымаюць удзел і ў раскопках, і ў міжнародных канферэнцыях па згаданых тэмах. Студэнты ездзяць у тую ж Італію на раскопкі Пампеяў. Сам я год дзесяць таму быў на раскопках у горадзе Ксантэн у Германіі, дзе некалі знаходзілася сталіца рымскай правінцыі Ніжняя Германія.

Працяг на стар. 24 »

# Антычная спадчына Беларусі

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 23


Пергамскі алтар, Берлін

### Любая дзяржава выводзіць сябе ад Рыму

***— Немцы, здаецца, таксама пакінулі значны след у вывучэнні антычнасці...***

— Напрыканцы XIX стагоддзя немцы вялі чыгунку ад Берліну да Багдаду. І калі працы ішлі каля турэцкай Бергамы, інжынеры звярнулі ўвагу на камяні, якія ім цягалі туркі ў якасці будаўнічай сыравіны. Там былі бачныя антычныя рэльефы. Немцы пацікавіліся, адкуль камяні, мясцовыя паказалі на высокую гару. У выніку, археалагічная экспедыцыя раскапала Бергамскі алтар. Як толькі алтар быў адкрыты, усё было перавезена ў Германію і з вялікай помпай у Берліне быў адкрыты Пергамон-музеум.

І калі нехта з адкрывальнікаў убачыў усё знойдзенае, пачышчанае ад зямлі, то ўсклікнуў: «Зараз мы маем свой Брытанскі музей!»

Германія на той час акурат аб'ядналася і мела вялікія палітычныя амбіцыі. Бо калі нехта спрабуе граць у вялікую дзяржаву, то маюць быць і атрыбуты вялікай дзяржавы. І туды — акрамя арміі, флоту, ураду і фінансаў — уваходзяць музеі! Прычым, музеі з класічнымі антычнымі калекцыямі: Луўр, Брытанскі музей, Эрмітаж...

***— То бок у XIX і XX стагоддзях зноў ішла размова пра прэстыж і легітымнасць, але ўжо ў плоскасці вывучэння антыкі ды наяўнасці антычных экспанатаў у музеях?***

— Менавіта. Той жа Эрмітаж таксама калісьці пачынаўся з калекцый антычных статуй. То бок любая вялікая дзяржава мае выводзіць сваю ўладу, сапраўдную ці міфічную, ад эпохі антычнасці, ад Рыму. Як мінімум тут трэба мець музей, дзе знаходкі з той эпохі будуць экспанавацца. Той жа СССР, маючы амбіцыі, падтрымліваў Эрмітаж, а ў найбольшых універсітэтах былі кафедры антыказнаўства. Таму ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве ды Мінску рыхтавалі антыказнаўцаў.


Гоцкая фібула для зашпільвання адзежы

Калі Саюз развалíўся, давялося пераасэнсоўваць гісторыю і наноў шукаць адказ на пытанні: «Хто мы такія?» ды «Куды ідзем?» Раней гэта былі адсылкі да старажытнага Рыму, развагі пра глабальную ўлады. Сёння ж у модзе нацыянальная міфалогія, і калі «рымскі эпізод» у ёй не прысутнічае, дык даводзіцца шукаць нешта іншае.

Але калі беларускі школьнік прыязджае ў Луўр і бачыць антыку — ён абавязаны ведаць, што гэта і які кошт гэтай сусветнай спадчыны. Альтэрнатыва — гэта пагружэнне ў невуцтва і варварства.

***— У XXI стагоддзі такі падыход да антыкі актуальны?***

— Падыход актуальны, хай гэта і не так важна, як 100 гадоў таму. Бо немцы, калі вывозілі Бергамскі алтар, дакладна ведалі, што робяць для сваёй дзяржавы: яго фінансавы і палітычны кошт. Калі б такая сітуацыя адбылася сёння, зразумела, што туркі б не дазволілі нічога вывозіць. У гэтым годзе туркі выгналі французскіх археолагаў з Эфесу.

У антыкаведаў нарэшце з'явілася магчымасць займацца прафесійным рамяством — вывучаць гісторыю, а не гуляць у палітыку ці авантуры. Той жа Лоўрэнс Аравійскі: з аднаго боку археолаг, з іншага — супрацоўнік англійскай выведкі. Стагоддзе таму, як бачым, усё гэта ўжывалася ў ім арганічна. Сёння падобнае ўжо немагчыма, калі хочаш займацца антыкай — трэба мець прафесійную падрыхтоўку. Таму гістфак БДУ акурат рыхтуе спецыялістаў, а не авантурнікаў ды выведчыкаў.

# Італьянскія ўнукі Армстранга

Алег НОВІКАЎ

**Тур гурта «Фабіа Лепарэ джаз квартэт» па Беларусі пацвердзіў, што моднае сёння слова «гібрыдны» можа быць выкарыстана і ў джазе.**



У 1935–1936 гадах, 80 гадоў таму, Луі Армстранг праехаўся па Італіі з турам, які апынуўся гістарычным. 1936 год лічыцца годам нараджэння італьянскага джаза, і гэтая дата цяпер шырока святкуецца як у Італіі, так і ва ўсім свеце. У гэтым плане ідэя італьянскага пасольства ў супрацоўніцтве з МЗС Беларусі запрасіць у нашу краіну джаз-калектыў з Апенін з'яўляецца лагічнай і заслугоўвае толькі дыфірамбаў.

На жаль, для звычайнага беларуса італьянскі джаз (дарэчы, адзін з наймацнейшых у свеце) застаецца terra incognita.

Знаўцы лічаць, што 1936 год як год нараджэння джаза ў Італіі — вельмі спрэчны з улікам таго, што італьянская музычная традыцыя вельмі багатая, і ў Італіі гралі нешта падобнае задоўга да прыезду Армстранга. На карысць гэтай версіі кажа той цікавы факт, што фашысты, якія ў той час змагаліся з амерыканскім культурным уплывам і забараняялі любы заакіянскі прадукт, усё ж вырашылі джаз канчаткова не крыміналізаваць. Праўда, не выключана, што ад поўнай забароны джаз выратаваў сын дучэ — Раман Мусаліні, які сам быў джаз-музыкам.

Але значна важней тое, што італьянскія джазмены, як паказаў час, апынуліся здольнымі стварыць свой арыгінальны прадукт. Таму доказам музыка групы «Фабіа Лепарэ джаз квартэт», які ў лістападзе, у межах стогадовага юбілею італьянскага джаза, даў некалькі канцэртаў у Беларусі.

У творчасці «Фабіа Лепарэ джаз квартэт» прысутнічае галоўны прынцып джазавага мастацтва — эксперымент і імправізацыя. Творы квартэту — гэта канцэптуальны гібрыд: сумесь эксперыментальнай аранжыроўкі і эксперыментальнага вакалу Фабіа Лепарэ, якія робяць кожны трэк незвычайным і інтрыгуючым. Нельга не адзначыць, што джазавы квартэт абыходзіцца без піяніна. Вядучую партыю бярэ на сябе гітарыст, што нячаста ў нас сустракаецца.

Незвычайнасць праекта ўзмоцнена і тым, што выканаўца працуе з «залатым фондам» італьянскай папулярнай музыкі. Самыя знакамітыя і звыклыя песні італьянскай эстрады ў яго версіі набываюць новае адценне. Падчас туру па Беларусі Фабіа Лепарэ выконваў кавер-версіі твораў Эніа Марыконэ, напісаных для кіно, што ўжо само па сабе гучыць правакацыйна і інтрыгуюча.

У гэтым плане тым, хто паспеў наведаць канцэрты «Фабіа Лепарэ джаз квартэт» у межах іх цяперашняга тура, пашанцавала. Тым, хто не здолеў гэтага зрабіць, застаецца спадзявацца, што «Фабіа Лепарэ» зноў прыедзе ў Беларусь. Гэтыя італьянскія музыкі — адносна частыя госці ў Сінявокай. Раней яны прымалі ўдзел у адкрыцці Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 | Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ____
Всего ____

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143, Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. Код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда, (8 029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
Кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек**, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1146

Падпісана да друку 25.11.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.